

**В. ЯНУШКЕВІЧ. Максім Гарэцкі** (сілумін, 1986).

# Маладосць

**ОРГАН**
**ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА**
**ЛКСМБ**
**І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ**
**БЕЛАРУСІ**

ШТОМЕСЯЧНЫ
ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС

**Выдаецца з 1953 года**

8 · 89

**(438) ЖНІВЕНЬ**

**МІНСК**
**Выдавецтва ЦК КП Беларусі**

# У нумары

## Паэзія · Проза



## Публіцыстыка






Вокладка **М. Анемпадзістава.**

На шмуцтытуле паэзіі і прозы— **М. Карпук. Навагрудскае замчышча** (аловак, 1980).

На шмуцтытуле публіцыстыкі— фота **В. Ждановіча.**








# Паэзія Проза



## Упершыню ў „Маладосці"

*Алесь Ліпай*

■

А мо я гэты боль прыдумаў?
Як азірнуся — чым не рай:
з-пад ценю гаспадарчых сумак
даўно не бачны небакрай.

Людскія ўсмешкі слепяць вочы,
за смехам плачу не пачуць...
Хай людзі іншага не хочуць,
а я — інакшага хачу.

Не буду годнасць іх аспрэчваць,
ды кім з насельнікаў зямлі
да самых паўсядзённых рэчаў
святыні зведзены былі?

Якая з чалавечых нацый
кранула Неруш? Варвары!
Ім лепш натоўпам называцца
за зруйнаваны марна Рым!..

Няма, напэўна, вінаватых,
бо вінаватыя — усе.
Мы самі толькі жалю варты
за згубленае пакрысе.

Мы звыкліся з усім сусветам,
з тугой і мовай матчынай,
шануем антыквар і рэтра
і марнатравім спадчыну...

Наўкол мяне ў штодзённым гудзе,
бы тыя галкі на раллі,
шчаслівыя і проста людзі.
А мне — баліць. А мне баліць.

■

Белавежская пушча, схоў надзей і адчаю,
ты сляды маіх продкаў шануй у быллі!
Я параненым зверам сябе адчуваю
на тваёй шматпакутнай, гаротнай зямлі.

Быццам кроў, што па спадчыне мне перададзена,
я губляю душу, але крыж свой нясу
і шукаю трыпутнік, не знойдзены прадзедам,
каб хоць трохі суняць твой валошкавы сум.

Веру матчыным словам, веру ўласнаму болю —
слепіць бельмы зласліўцам саян Белых Веж!
З казкай, чутай табой у калысцы нядолі,
ты, няйначай, да папараць-кветкі плывеш

праз туман-акіян невыгойнага лёсу,
што адзіна пяшчоціць тваю шчырыну...

Твой павабны празор у аздобе калосся
ні адною манодумкай не закрану!

Да тваіх каранёў ва ўсялякай нагодзе
прыйдуць іншыя людзі, каб шчасце гукаць.
Можа, схіліцца нехта праз колькі стагоддзяў
след і мой на сцяжынках тваіх адшукаць?

Ён не будзе пазначаны нечым нязвычным —
я жыву, як увесь мною выбраны свет,
толькі бедаў сабе трохі болей назычыў
і па шчасцю свайму гараваў неўпрыкмет...

Белавежская пушча, мне баляць твае раны,
працінае наскрозь веліч звечных надзей.
Я на гэтай зямлі гэтым светам абраны
адстагнаць і ашчасціць мінулы твой дзень.

■

Вы кажаце, я выю воўкам?
А я нат у выцці сваім смяюся
над неачалавечаным натоўпам,
які мяне па-воўчы выць прымусіў.

Увесь Сусвет — маладзіком уверсе.
Я з ім сустрэўся зноўку — вусны
ў вусны.
І гэткі боль шчыміць у нашых сэрцах!
А я нат у выцці сваім смяюся.

Увесь Сусвет — шматок майго настрою:
пілiпаўка. Пустэча. Неруш. Немач.
Над неачалавечаным сабою
я, смеючыся нават, выю нема.

■

Сэрца маё палоніць
чырвань апошніх руж.
Вочы схаваю ў далонях,
мары ў адну збяру,—
моўчкі ўва мне няхай лепш
высахне са слязьмі:
ведаю — не кахаеш.
Дык хоць ружы вазьмі.
І не зважай, што крывавяць
дзіды мне пачуццё —
гэта на доўгую памяць.
Гэта — на ўсё жыццё...

### КАЗКА-БЛЮЗ

Аднойчы я цябе прыдумаў,
аднойчы я цябе сасніў —
і вочы, што імглеюць сумам,
і вусны колеру суніц,
і трапяткую ружу сэрца,
і чорных валасоў павой...
Калі не хочаш мне сустрэцца,
хоць мроіць пра цябе дазволь.
У нейкай з казак Беларусі —
я ведаю — ты мусіш быць
і марыць пра каханне мусіш.
А ў ім — і шчасцейка набыць.

Тады чаму табе не снюся?

Аднойчы ты мяне прыдумай,
аднойчы ты мяне сасні —
і вочы, што імглеюць сумам,
і вусны колеру суніц,
і трапяткую ружу сэрца,
і чорных валасоў павой...
Я здолею табе сустрэцца,
адно час марай запаволь.
У нейкай з беларускіх казак —
я ведаю — нам разам быць:
ці бэрхацца ў каханні разам,
ці разам адысці ў нябыт!

А шчасцейка — не абавязак.





## *Віктар Шніп*

Чаму маўчаў, калі глумілі мову,
А сёння ў гурце смела я крычу?
Няўжо таму я зараз не маўчу,
Што ў гурце ў гул зліваюцца ўсе словы?

Чаму маўчаў, калі бурылі храмы?
Чаму маўчаў, нібыта ідыёт,
Калі народ ішоў да віннай крамы
І сам ішоў туды, куды народ?

Чаму маўчаў, як нішчылі курганні?
Чаго баяўся? Смерці ці турмы?
Нам Страшны Суд задасць свае пытанні,
На іх ніколі не адкажам мы.

Сваіх жа не баюся запытанняў,
Ды толькі мне сябе не апраўдаць.
Маўчанню не бывае апраўдання,
Законна толькі мёртвыя маўчаць.

■

Невядома, адкуль прылятае
блакітная птаха,
Невядома, куды мы ляцім
на планеце між зор.
Адзінота мая на каленях
стаіць перад страхам,
І чырвоны язык цемнаце
выстаўляе касцёр.
Я палю суцяшэнняў
пустыя салодкія словы
Ад абрыдлых знаёмых
і вечна занятых сяброў.
Колькі часу наіўна
шукаю на шчасце падкову,
Ды гавораць, што шчасце
жыве ў жыватах кашалькоў.
Не цяплю спадзяванняў
на ласку магутнага бога,
На касцёр спадзяюся,
якога баяцца ваўкі.
Без мяне не сумуе
у полі вятрыстым дарога
І не спяць ля яе залачоныя
дрэў кулакі.
Можа, лепей бы дома сядзеў
і глядзеў тэлевізар
І газеты чытаў, каву піў
і задумна курыў,
І душу апранаў у святыя
нябачныя рызы
І, нібыта прарок,
маладым пра жыццё гаварыў?
Ды не знаю, куды
прылятае блакітная птаха,
Ды не знаю, куды
мы ляцім на планеце між зор.
Я з калень устаю
перад зоркай сваёю і страхам,
І чырвоны язык цемнаце
выстаўляе касцёр.

■

Адмаўляю сябе былога,
Пасылаю сябе на крыж.
Людзі выгналі з храма бога,
Я з душы выганяю мыш.

Зараз тыцкае пальцам кволы,
І паказвае мне язык,
І крычыць: «Паглядзі, ты голы!»
Ды не чутны мышыны крык.



У мышэй залатыя зубы,
Не характар... Характар — смех.
Грэшна быць для сябе загубай,
А не быць — яшчэ большы грэх.

Адмаўляю сябе былога,
Падымае мой вораг глыж...
Людзі выгналі з храма бога,
Я з душы выганяю мыш.

## НЕПРЫЗНАНЫ МАСТАК

Мастак непрызнаны малюе рэкламу
У душным падвале з маленькім акном.
Рэкламу павесяць на шэрую краму,
Дзе больш не гандлююць пракіслым віном.
Не любіць мастак сваю нудную працу,
Ды трэба цярпець, каб капейка была.
Начальнік загляне: «Больш трэба
старацца» —
І сам уцякае на двор, да святла.
Мастак непрызнаны ў падвале бядуе:
«Няма цяпер часу пісаць для душы».
Знаёмых жа гэта зусім не турбуе:
«Раз часу няма, дык тады не пішы».
Не верыць мастак у рэкламу тавараў,
Рэклама часцей за тавары страшней.
І цягнуцца людзі ўсё больш да базараў,
Дзе кожны за д'ябла, відаць, найхітрэй.
Няспешна мастак дамалюе рэкламу,
Закурыць і скажа: «Абрыдла ўсё мне»,
Ды з раніцы заўтра ён прыйдзе таксама
І фарбы дастане і працу пачне.

## КАЗКА ПРА ЛЯЛЬКУ

Табе з гразі зляпілі трон
І абяцалі даць карону.
Сядзіш, палохаеш варон,
Сама падобна на варону.
Сярдзіта на людзей глядзіш,
Цябе не заўважаюць людзі.
І толькі мыш, рудая мыш
Каля цябе стаіць у брудзе.
І ёй выгодна так стаяць.
Яна цяпер да ўлады блізка.
Без трона лепей цараваць.
Сядзець на троне вельмі слізка.
А ляльку лёгка замяніць,
А ляльку вінаваціць проста,
Калі яна не усядзіць
Ці на мышэй зірне закоса.
Хай трон з гразі — ды ўсё-ткі трон.
Ты мару песціш пра карону.
Сядзіш, палохаеш варон,
Сама падобна на варону.

## НА БЕРАЗЕ

Я падоўгу глядзеў у ваду,
І мне здавалася, што я плыву
На беразе, як на чаўне.
І страшна было, і прыемна
Глядзець на вострыя чараты,
Што, як дзіды войска вадзяніка,
Былі наперадзе майго падарожжа...
Сёння стаю на беразе,
А перада мною — пустэльня,
А на пустэльні спалены чарот,
А на попеле сляды чалавека,
Чалавека, які, відаць, ніколі
Не плыў на беразе, як на чаўне,
Насустрач войску вадзяніка.

■

У кавярні пахне кавай,
У кавярні духата.
Ля сталоў дубовы лавы,
А на лавах блатната.
Мне, вясковаму, няёмка,
Нават страшна тут стаяць.
Нешта смокчуць праз саломку,
На мяне праз дым глядзяць.
А ў кавярні пахне кавай,
А ў кавярні духата.
Месца мне няма на лавах,
Толькі гэта — не бяда.
Мне б сюды век не заходзіць,
Толькі ж нейкі чорт занёс.
Знаю, што кавярні ў модзе,
А да іх я — не дарос.
Дарастаць жа не імкнуся,
Мне галоўнае — было б
Вольна жыць у Беларусі,
Слова роднае жыло б.
Замкі, храмы і курганні
Не аддаць палын-траве.
Дзякуй богу — не ў кавярнях
Беларусь жыве.

■

Ён ехаў не за туманам,
Ехаў за грашыма.
Казаў: «Мы будуем БАМ,
А БАМ будуе нас».
І верыў у сказаныя словы,
Бо як жа ў іх не верыць,
Калі на сабраныя ім грошы
Можна было збудаваць
Бог яго ведае што?
Даваў інтэрв'ю ў газеты,
Смяяўся перад тэлекамерай,
Трымаючы пілу «Дружба».

І ўсе, хто валодаў пяром
І хто не валодаў,
Стараліся напісаць пра яго,
Бо як не напісаць, калі ён
Працуе на будоўлі веку?
Паэты пісалі не вершы,
Бо вершамі БАМ не праславіш,
Паэты пісалі паэмы
І па непракладзеных рэйках
Гулка выязджалі ў людзі
І рабіліся лаўрэатамі...
Усё меней гаворым пра БАМ,
Бо што гаварыць і чым хваліцца?
А ён ехаў не за туманам
І, уцёкшы з БАМа, збудаваў сабе,
Што толькі душа захацела.
І сёння, выступаючы з трыбун,
Успамінаючы пачатак сваёй кар'еры,
Гаворыць: «Я так і думаў,
Што ўсё гэта так і кончыцца...»











*Адольф Вapaновiч*

АПАВЯДАННІ

# СОН НА ЗЯЛЁНАЙ ПАЛЯНЕ

А пагодны летні дзень разгараўся. Высока над зялёнай зямлёй ускінулася неабсяжнае блакітнае неба без адзінай хмурынкі, толькі злёгку падружоўленае на ўсходзе. Не шапацелі лістотай бухматыя ліпы, што, нібы салдаты ў страі, пасталі ўздоўж тратуараў, высокая маладая трава пад імі была вільготная ад расы, на тратуар, на ліпы леглі вялізныя прахалодныя цені ад гмахаў пяціпавярховых будынкаў, і толькі ў сонечных прагалах паміж дамамі Косця бачыў, як гарачае сонца імкліва ішло ўгору, адбіваючыся рознакаляровымі вясёлкамі ў шчодрых росах.

Косця павярнуў на ціхую сонечную вулачку. Справа ўздоўж яе стаялі дамы, бліскаючы вокнамі, злева, у нізіне, быў стадыён, а за ім — неабсяжныя мройныя палі. Ад угрэтай зямлі ледзь прыкметна струменілася пара. Свежае паветра напаўняла грудзі, хацелася ўзмахнуць рукамі і паляцець. Крэпкае маладое цела прагнула імпэтнага руху, мышцы самі сабой напружваліся; здавалася, зачапі плечуком дрэва і вывернеш з коранем. Але Косця стрымліваў маладую сілу, стараўся ступаць спаважна і размерана. Над вулачкай навісалі балконы, дзе ў падвешаных скрынках цвілі кветкі. Квяцісты газон быў і пад балконамі. Над вільготнымі кветкамі зрэдку зумкалі пчолы. З расчыненых фортак і балконных дзвярэй чуваць была то музыка, то смех. На першым паверсе ў шырокім акне чарнявая жанчына з малой капронавай лейкі палівала кветкі, якімі быў застаўлены ўвесь падаконнік. Яна засяроджана нахіляла галоўку і не зважала, што на рубашцы развязаўся банцік і вольны разрэз «начнушкі», як гаварыла Косцева жонка, больш чым адкрываў поўныя белыя грудзі. Косця напружыў зрок і

---

Мал. **А. Дашкевіч.**



блазнюкавата ўсміхнуўся. Жанчына раптоўна заўважыла яго, хуценька хапілася левай рукой за матузкі, сабраўшы іх у кулачок і захінаючы грудзі. Засяроджанасць знікла з паружавелага твару, уступаючы месца сарамлівай усмешцы. Косця весела пракрочыў паўз яе акно, пасля не вытрымаў, азірнуўся і падміргнуў. Паспеў заўважыць, як зардзелася жанчына, як засмяялася яна, паказваючы роўныя зубы і пальцамі перабіраючы матузкі.

Ён любіў жанчын, і любоў яго была ад маладосці і мужчынскай сілы, а не ад хваравітага пахатлівага імкнення. Ён любіў глядзець на іх, жартаваць з імі, і ў жартах яго ніколі не было ні туманных патаемных намёкаў, ні настырных заляцанняў. Ён любіў іх вясной, калі яны паступова пачыналі вылузвацца з цёплага адзення і ў лёгкіх плашчыках альбо квяцістых суконках высыпалі на вуліцы, вольна распусціўшы валасы па плячах альбо закруціўшы іх у незвычайныя замыславатыя прычоскі. Ён любіў іх летам, загарэлых і крэпканогіх, неяк па асабліваму падманна-даступных на перапоўненых у гарачыя дні пляжах. Ён любіў іх і зімой у мехавых шапачках і ўтульных футрах. І абавязкова, каб падаў лёгкі сняжок, падоўгу плаваючы ў малочным святле вулічных ліхтароў, і каб сняжынкі гаслі, дакранаючыся да іх паружавелых ад лёгкага марозу тугіх шчок.

І — дзіўная рэч: жанчыны плацілі яму тым жа. Ён адчуваў, што падабаецца ім, не прыкладаючы для гэтага ніякіх намаганняў. А іншы раз яму прыходзілася нават астуджаць іх гарачыя галовы, гатовыя да паспешлівай безаглядпай самаахвярнасці, як здарылася на самым пачатку яго сямейнага жыцця. Праўда, ён пасля даведаўся, што жанчына тая працуе разам з яго жонкай, і ў яго закралася думка, ці не знарок усё гэта было зроблена, каб праверыць яго.

Косця любіў сваю жонку, сваю прыгажуню Жанну, і вельмі даражыў сваім пачуццём. Ён ведаў, што і яна кахае яго, і таму ўвесь час асцерагаўся парушыць зладжанасць і знітаванасць паміж імі.

Ён страсянуў русявай чупрынай і прыбавіў кроку. Весела і спакойна было на сэрцы. Нават няпрошаная думка пра Кацю — сваё першае каханне — думка, якая апошнім часам усё часцей узнікала ў галаве, цяпер не азмрочыла яго настрой, хоць ён па даўняй звычцы матлянуў галавой, адганяючы яе. Перад Кацяй ён быў вінаваты — гэта Косця ведаў. Было каханне, былі планы прайсці па жыцці поруч, былі светлыя і харошыя мары, ды з'явілася Жанна... І ён спусціўся з неба і пайшоў за ёй. Ды ў душы station засталося нейкае няўлоўнае адчуванне-ўспамін той вышыні і чысціні, той, магчымай толькі ў маладосці, усеабдымнай светлай мары, ад якой аж халадок на сэрцы.

З Жаннай усё сталася прасцей, звычайней, прыземленей. Ён часта нават ведаў наперад, што яна зробіць, што скажа, які жэст будзе за словам. Гэта ўсяляла ў яго ўпэўненасць, прыдавала надзейнасць іх сумеснаму жыццю. Косця ўвесь час грунтоўна адчуваў зямлю пад нагамі, ён быў гаспадаром сённяшняга дня і смела глядзеў у будучыню, бо, як цвёрда лічыў, ведаў жонку, і веданне гаварыла яму: Жанна не здрадзіць.

З Кацяй, напэўна, усё жыццё было б падобнае на палёт: то пругкі вецер біў бы пад шчаслівыя крылы іх кахання, узнімаючы вышэй і вышэй, то раптам паветраны паток мог аслабнуць і яны падалі б у бездань.

На зямлі надзейней, спакайней. Але так хочацца хоць разок зноў узняцца ў неба, каб на хвілінку адчуць халадок у грудзях ад незямной вышыні пачуцця.

«Эх, Каця, Каця! Не крыўдуй на мяне!» — з адценнем суму ўсміхнуўся Косця. І яшчэ падумалася, што даўно не быў у маці, — маючы машыну, гэта недаравальна. Нейкай паўтары сотні кіламетраў у адзін бок, а ён гадамі не бывае ў вёсцы. І ўсё таму, што не хацеў насцярожваць Жанну, баяўся парушыць раўнавагу сямейнага жыцця: у вёсцы па-ранейшаму жыла Каця.

Неяк так атрымалася з самага пачатку іх сямейнага жыцця, што Жанна заўсёды ўсім кіравала. Яна, як звезла яго адтуль, і крыж на вёсцы паставіла: сама не ехала і яго аднаго не хацела пускаць. Яна праклала яму, шафёру, маршрут у аўтадарожны інстытут, а пасля апытала для яго добрую работу. І на жыгулёўскія колы яна яго пасадзіла. Так што Косцю не было прычыны ўпарціцца і супраціўляцца: што ні рабілася — усё к лепшаму.

З вольнымі неабцяжаранымі думкамі Косця падышоў да гаража, шырока адчыніў абітыя жалезам дзверы. Непадалёк насупраць свайго гаража корпаўся ля машыны адстаўнік Міхайлавіч. Косця махнуў яму рукой — прывітаўся. Міхайлавіч павярнуўся, трымаючы ў выпацканых да локцяў руках анучку, і запытальна глядзеў на Косцю.

— Міхайлавіч, на днях будзе! — выгукнуў Косця.

Стары радасна ўсміхнуўся, паспешна пачаў выціраць рукі.

«Трэба будзе прынесці яму тую жалезіну, а то болей стаіць, чым ездзіць. Эх, дэталі, дэталі! Усю радасць ад калёс вы падразаеце на корані. Не паспеў машыну купіць — думай, дзе што дастаць».

У гаражы быў парадак. Беленькія «Жыгулі» паблісквалі шклом і нікеляванай аздобай, ледзь чутны пах гумы, масла і бензіну вітаў у гаражы. Косця ўзяў чыстую анучку і ўлюбёна працёр лабавое шкло, шчоўкнуў «дворнікамі» і перайшоў да задняга. Ад нерастрачанай сілы напружваліся біцэпсы, лёгкая трыкатажная майка з кароткім рукавом шчыльна абціскала грудзі, і таму неяк асабліва было ўтульна і бадзёра.

Косця адчыніў дзверцы, павярнуў ключ запальвання і націснуў на стартэр: матор адразу запрацаваў. Косця не стаў смуродзіць у гаражы, а, прытрымліваючы машыну на тармазах, асцярожна выехаў на вуліцу.

«Ну што, Кацюша,— так ён любоўна, але тайком ад жонкі называў сваю легкавушку,— ну што, Кацюша, пракацімся? Цэлы тыдзень не сабраўся, а сёння суботні дзянёк. Мой. На прыроду, толькі на прыроду!»

Косця вылез з машыны, прычыніўшы дзверы, узяў пластмасавы бітончык для вады і, насвістваючы, пакіраваўся да калонкі. Сонца ўзнялося вышэй і пачынала прыпякаць, ветрык зусім заціх. Лета, зялёнае лета! Лаўчэй стаўшы на бетоннай пліце, пасланай ля калонкі, ён падставіў бітон і націснуў рычаг. З шумам вырваўся ледзяны струмень вады, закручваючыся, ударыў у дно бітона, быццам радаваўся, што вызваліўся з доўгага палону ў падзямеллі. Заскакалі пырскі-пацеркі, успыхваючы на зыркім сонцы і спадаючы да зямлі, каб зноў надоўга знікнуць у зямных глыбінях. Косця кінуў мімалётны позірк на свае абпырсканыя басаножкі, усміхнуўся і зачыніў вечка бітончыка.

Ля машыны яго чакаў Міхайлавіч.

— Едзеш куды, Канстанцін Мікалаевіч?

— У такі дзень грэх сядзець дома! Пракачуся з сям'ёй на прыроду. Ёсць у мяне мясціна, я там заўсёды адпачываю. І рыбалка, і лес побач. На палянах паземак — аж чырвона!

Адстаўнік незнарок уздыхнуў:

— А я толькі і магу, што з гаража выехаць ды назад загнаць.

— Міхайлавіч, не хвалюйся, усё зраблю ў бліжэйшыя дні! — запэўніў Косця.

— Калі вернешся?

— Ды гадзін да шасці трэба вярнуцца: футбол жа сёння, мінскае «Дынама» гуляе.

— Прыязджай раней. Я буду чакаць. Ёсць у мяне тут па чарцы...

Косця прытоена ўсміхнуўся: стары хоча падмазаць. «Ну што ж,— падумаў задаволена,— не падмажаш, не паедзеш. Усё правільна!»

— Пастараюся, Міхайлавіч,— сказаў, зачыняючы багажнік.

Ён звычайна ўладкаваўся ў крэсле і незласліва падумаў: «Каб не быў я механікам аўтапарка, ты б мяне і не заўважаў. Трэба мне твая чарка. Прычэпішся тады, як смала: і тое дастань, і гэта».

— Ну, Кацюша, паехалі,— сказаў уголас.

Машына плаўна кранулася з месца. Косця паціху вырупіў з лабірынта гаражоў і выехаў на асфальт. Замільгалі знаёмыя дамы, у прыадчыненую фортку ўрывалася паветра. Ён шчоўкнуў клавішамі прыёмніка, знайшоў «Маяк». Загучала музыка. Косця дабавіў гуку.

Гучала музыка і ў яго душы: было прыемна, што нехта будзе чакаць яго, некаму ён вельмі патрэбны. Ён уявіў, як праз колькі часу будзе ступаць басанож па яшчэ роснай у цяньку траве, як зырка будзе адбівацца сонца ад ракі, а над паверхняй вады пры лазовых кустах будуць трапятаць слюдзянымі крылцамі стракозы, а над імі жоўты матылёк, разамлелы ад ранішняй прыгажосці і гарачага сонца, будзе ляніва аблятаць прыбярэжныя кусты, шукаючы жоўтых кветак, і сэрца зайшлося вялікай радасцю жыцця.



Ёсць людзі па складу характару свайго няшчасныя. Усё ім не так, усё ім не гэтак. Не ўмеюць яны радавацца жыццю. Нават калі і можна радавацца, калі і трэба. Жыве ў іх сэрцы заўсёды трывожная перасцярога: а раптам заўтра бяда-гора?

Косця жыў не бесклапотна, але весела. Такі характар.

Горад абудзіўся: тратуары запоўніліся людзьмі, якія спаважна ішлі па сваіх справах. Хто ў магазін па прадукты, хто на рынак. Звычайная субота. А ў паўдзённую спёку ўсе хлынуць да ракі, на якой стаіць гарадок. Старэнькія бабулькі будуць сядзець у цяньку, пасучы галапузых унукаў, маладзейшыя — плялёскацца ў вадзе альбо ганяць мяч, парыцца пад спякотным сонцам, спяшаючыся нацешыцца ім на доўгую восень і зіму. А колькі стройных дзяўчатак будзе красавацца там! Безліч. Але не, не трэба яны яму. Далей, далей ад іх!

Аднойчы ў поездзе ад няма чаго рабіць ён заспрачаўся са спадарожнікам, які вельмі асуджаў паспешлівыя вяселлі і разводы сярод маладых. У яго толькі што развёўся сын, і чалавек вельмі перажываў за няўдалую сынаву жаніцьбу. А Косця, тады яшчэ не жанаты, то жартам, то усур'ёз апраўдваў маладых. Спадарожнік злаваў. А побач сядзеў стары дзядок, сядзеў, маўчаў і слухаў. Нарэшце таксама не вытрываў Косцевы кепікі, умяшаўся ў размову:

— Хачу расказаць вам такую прытчу, а вы самі далей думайце, як і што. Жыла-была варона, і былі ў яе малыя вараняты ў гняздзе. Вядома, малыя: і ядуць, і ўсё астатняе ў гняздзе. Аднойчы вараняты і будуць казаць маме-вароне: нейкае ў нас нехарошае гняздо. Давай мы яго разбурым, а пабудуем новае, чыстае, харошае. Мама-варона паслухала іх, павольна паглядзела наўкол і мовіла: дзеці мае, можна разбурыць старое забруджанае гняздо. Справа няхітрая. Можна пабудаваць і новае. Але ж мы такія, што і новае забрудзім! Дык вот, сынок: перш чым разбураць старое гняздо і будаваць новае, добра падумай, які ты сам. Каб не атрымалася і з новым тое, што са старым.

Косця на ўсё жыццё запомніў гэту прытчу.

«Ціха, Кацюша, ціха»,— прытармазіў ён вольны бег легкавушкі, скінуў газ, пераключыў перадачу і павярнуў у двор дзевяціпавярховага дома, абсаджанага ліпамі.

«Прасігналіць Жанне, ці што? Дзе гэта яна кешкаецца?»

Падумаў і адразу ж заўважыў жонку на лавачцы каля пясочніцы. Ён весела вылез з машыны, шырока раскінуўшы рукі і прысеўшы на кукішкі, злавіў малую, якая павісла яму на шыі, прытуліўшыся ружовай шчочкай да яго шызаватай выбрытай шчакі, звонка шчабечучы:

— Папка прыехаў! Мама, папка прыехаў!

Быццам тая не бачыла.

— Ах ты, званочак мой,— тулiў Косця дачушку. Пасля адчыніў дзверцы машыны і ўладкаваў малую на заднім сядзенні.

— А я хачу з табой,— прытворна крыўдзячыся, выцягвала губкі дачка.— Побач.

— Нельга, Алёнка, нельга,— пастражэў Косцеў голас.

— А чаму?

— Дзядзя міліцыянер спыніць і не пусціць далей ехаць.

— А я яго папрашу.

— Ён такіх карапузаў не слухае.

Жонка, высокая і статная, адчыніла багажнік і ставіла туды сумкі. Адбеленыя валасы хвалямі спадалі да плеч, прыкрываючы загарэлую шыю і чыстыя, без радзімак, плечы ў вялікаватым выразе прыгожага квяцістага халата. І ўся яна была нейкая крэпкая, надзейная, упэўненая ў сабе. «Прыгожая ў мяне жонка»,—у каторы раз падумаў Косця, прыабняў яе за талію і ўсмешліва заглянуў у карычневыя спакойныя вочы.

— Сядай ужо, харошая мая, я сам.

Жанна ўсміхнулася ў адказ, кранула вуснамі, нібы хацела штосьці сказаць, але змоўчала і плаўна паплыла да пярэдніх дзверцаў. Толькі валасы ў такт крокам уздрыгвалі, сцелючыся па загарэлых плячах.

Косця паправіў сумкі, прытуліўшы іх адна да другой, каб не перакуліліся, асцярожна зашчоўкнуў багажнік і ўладкаваўся за рулём.

— Накінь страховачны рэмень. На ўсякі выпадак. Ну...—хацеў сказаць, Кацюша,—паехалі.

Жанна адчула паўзу, глянула на Косцю скоса, так толькі, ледзь прыкметна скасіла колеру спелага арэха вока пад пушыстымі вейкамі і нічога не сказала.

— Паехалі, папка, паехалі,—зашчабятала ззаду Алёнка.

— Сядзь, Алёна, не лезь да бацькі, не перашкаджай,—у голасе Жанны адчулася сухаватая стражынка.

Азіраючыся, Косця выехаў з двара, дабавіў хуткасці, і машына панесла іх каля знаёмых кварталаў у загарадны блакіт і зеляніну, у пах кветкі і хваёвых лясоў. І песня загучала якраз адпаведная: «На дальней станции сойду, трава по пояс...» З усіх песень апошняга часу Косця найбольш любіў гэтую. Яго сэрца вясковага чалавека не ўспрымала многія бяздушныя замежныя рытмы. Пад іх ён мог толькі скакаць, узяўшы на якой-небудзь бяседзе чарку. А думаць, перажываць—не. А тут уся яго істота чуйна адгукалася і на зразумелыя словы песні, і на музыку, якая нібы ўзнімала над зямлёй і несла за сінія лясы, за высокія горы. У край маленства, да цяпла матчыных рук. Было ад песні гэтай і трывожна, і шчымліва да слёз. Светлая ўрачыстасць напаўняла сэрца да самага донца, і яно пранікалася вялікай любоўю да ўсяго жывога на зямлі. Да лесу, да палёў, да лугоў. Да жыцця.

За горадам, за чыгуначным пераездам з паласатымі слупкамі асфальтаваная шаша крута ўзбягала на высакаваты пагорак, які чамусьці назвалі Кабыляцкай гарой. Тут, на схілах Кабыляцкай гары, парослай цяпер кустоўем і разнатраўем, пад час вайны было расстраляна многа нашых людзей. Хтосьці ў апошні раз бачыў гэтыя неабсяжныя далі. Родныя, вольныя далі...

У адчыненую фортку шугаў цёплы вецер, прапахлы гаркавым прыдарожным палыном і ўгрэтым асфальтам. Косця стараўся не паглыбляцца ў думкі, а пільна сачыць за дарогай. Але не мог, думаў.

«Даўно ў маці не быў, даўно. А што, узяць во цяпер і махнуць напрасткі, нікуды не зварочваючы. Як яна там? Як вёска? Во радасці было б. Алёнку зацалавала б, залашчыла».

Уважліва гледзячы наперад, ён міжволі мацней наступіў на педаль газу, і машына, прыўзнімаючыся на няроўнасцях шашы, імкліва рванулася наперад. Нібы зразумела яго думкі. Абочына злілася ў суцэльную шэрую паласу. Толькі пабеленыя слупкі стракатa замільгацелі на крутым павароце.

Жанна, змушана і ўстрывожана ўсміхаючыся, глядзела на Косцю прыгожымі арэхавымі вачыма, быццам сілілася адгадаць, што з ім.



Нават дачка на заднім сядзенні перастала шчабятаць.

— Здаецца, недзе тут паваротка,—асцярожна падказала Жанна, сціснуўшы мацней нібы адпаліраваныя загарэлыя калені.

Косця кінуў на іх імгненны позірк, і на сэрцы пацяплела. Адпусціла незразумелая раздражнёнасць, якая раптоўна ўзнікла няведама чаму. Ён паспешна скінуў газ, пачаў прытармožваць, але ўсё ж праскочыў паваротку.

— Во, ёлкі-палкі!—прамовіў незлаcліва.—На цябе загледзеўся і забыў, дзе паваротка.

Жанна сарамліва захінала кароткі халацік. А Косця весела дадаў:

— Дык жа ёсць на што і загледзецца.

Жанна задаволена ўсміхнулася і зардзелася.

— Глядзі вунь лепш на дарогу,—сказала, прытворна сярдуючы. Ён ціха паехаў па абочыне, прапусціў рэдкія ў гэты час легкавушкі, развярнуўся і паехаў назад амаль па самай сярэдзіне шашы. І думкі пра вёску, пра маці адразу засталіся недзе там, ззаду. Пасля яшчэ раз павярнуў на нешырокую асфальтаваную дарогу, якую абступаў малады бярозавы гай.

— Папка, папка, глядзі, якія званочкі! Давай нарвём!

— Некалі бацьку на твае званочкі заглядвацца. Сядзі ціха, Алёнка,—Жанна павярнулася да дачкі.

— Назад будзем ехаць—нарвём,—сказаў Косця.—Вось такі букет!—ён на момант пакінуў руль і раскінуў рукі ўшыркі.

— Вось такі,—паўтарыла яго жэст малая, узняўшы ручаняты далонькамі ўгору.—Праўда, папка?

— Праўда, праўда. Вялікі-вялікі.

— І я яго панясу ў садзік.

— Так точна,—дурачыўся Косця, ускінуўшы правую руку да скроні.—І мы яго панясём у садзік.

— А я хачу з мамай у садзік ісці.

— Ах так, значыць, з мамай? А мяне не возьмеш? Вось я вас... зараз я вам... Ану, Кацюша, пракаці нас з вецярком!

Пераключаючы перадачу, зразумеў, што прагаварыўся, але выкручвацца не стаў, а знарок паўтарыў зноў, націскаючы педаль да адказу:

— Вось так. Маладзец, Кацюша!

У машыны зноў нібы выраслі крылы. Шаша была пустая, і нішто не перашкаджала іхняму палёту.

— Не можаш ты на яе забыцца,—углядаючыся ўдалеч, ціха прамовіла Жанна.

Косця паглядзеў на яе прыгожы профіль і нічога не сказаў. Толькі пад сэрцам зашчымела мацней.

Цяпер дарогу абступалі бярозкі ўперамешку з елкамі, і маладая лістота бяроз на фоне цёмных елак здавалася трапяткім зялёным полымем, якое ўспыхвала то тут, то там, адбіраючы вочы. Утравелыя пагоркі абапал дарогі бялелі астраўкамі ветраніцы, там-сям у прыдарожнай канаве сінелі цыбатыя званочкі і ружавелі мяцёлачкі смолкі. І дарога, дарога то крута ўзмахвала да неба, то строма падала ў лагчыну, і тады адкрываўся незвычайны краявід. І была нейкая дзіўная музыка ў гэтай чароўнай змене краявідаў—музыка імклівага руху, якую заўсёды так любіў Косця. Шугаў вецер паўз форткі, а дарога клікала наперад, імкліва несучыся пад колы, звужаючыся ўдалечыні і ўпіраючыся ў самы гарызонт.

Ціхая музыка, якая гучала ўвесь час, захрыпела, перарвалася, і Жан-

на пакруціла ручку настройкі радыёпрыёмніка. «...Справа барацьбы за бяз'ядзерны свет, за надзейны мір на планеце — галоўны абавязак і турбота кожнага сумленнага чалавека. Сёння чалавецтва, як ніколі дагэтуль, стаіць на самым краі ядзернай катастрофы, калі не застанецца ні параможаных, ні пераможцаў», — строгі і выразны голас дыктара гучаў пагрозліва папярэджаннем у гэтай утульнай легкавушцы, якая неслася няведама куды сярод зялёнага зачараванага цішынёй летняга дня лесу.

Косця міжволі скінуў газ, слухаючы дыктара. Жанна пакручвала ручку далей, але музыка некуды прапала.

— Барацьба за мір, барацьба за мір, — задумліва прамовіў Косця, счакаўшы. — Папярэджваюць, угаворваюць. Быццам хтосьці з простых працавітых людзей хоча вайны. Такога ніколі не было. Каму ахвота падстаўляць сябе пад кулі? Нікому. А вайна ў першую чаргу заўсёды кладзецца на плечы людзей ад станка, як кажуць, ад касы, ад сахі...

— Дык што, па-твойму, і гаварыць не трэба, і рабіць? Сядзець і чакаць, пакуль над галавой не трэсне? І зямлю не расколе на часткі? — у голасе Жанны пачулася раздражнёнасць.

— А я сваёй дурной галавой так думаю. Сёння людзі хочуць дабіцца нейкіх гарантый надалей супраць культаў асоб, каб яны ніколі болей не ўваскрэслі, супраць гнілога застою і многага іншага, што перашкаджае нармальна жыць. Войны — таксама страшны біч чалавецтва. А каб не дапусціць іх у будучым, трэба разабрацца, хто пачынае войны і дзеля чаго. Іван, Дзям'ян? Вешае касу пад застрэшак альбо кідае ў канцы загона плуг, хапае стрэльбу і ні з таго ні з сяго бяжыць кагосьці забіваць? Не. Войны пачынаюць палітыкі, кіраўнікі дзяржаў. Ваенным часта рукі свярбяць. Маючы такую страшную зброю — чаму ж не пусціць яе ў дзела? У арміі на тэрміновай службе карабін ці аўтамат уручаць — і то адразу нейкі інакшы становішся. Адчуванне моцы паяўляецца. А тут такая сіла!

Вось каб усе людзі зямлі дамовіліся не браць зброю ў рукі. Ні за якія пернікі, ні за што. А тады і не ствараць яе. Вось гэта б была барацьба за мір!

— Яшчэ адзін прапаведнік пацыфізму, — з'едліва сказала Жанна. — Дарагі мой, немагчыма гэта. Два чалавекі дамовіцца не могуць, а ты — увесь свет. Прыдумаў, — змякчылася і кранула яго за локаць. — А зброі і цяпер столькі створана, што хопіць на ўсю зямлю.

— Ну добра, — гарачыўся Косця. — Змагацца за мір трэба. Але што я сёння асабіста магу? Пералічыць грошы ў Фонд міру. Выступіць з прамовай. Дык гэта ж кожнаму вядома, што простаму чалавеку вайна, як сярпом... А праз тыдзень мне прыйдзе позва з ваенкамата, і я буду там, куды пашлюць, і буду рабіць тое, што загадаюць...

Жанна слухала ўважліва, зрэдку ківаючы прыгожай галоўкай, і валасы рассыпаліся па плячах, і яна папраўляла іх плаўнымі ўзмахамі загарэлых рук. Яна ўмела слухаць, яна не прапускала словы міма вушэй, хоць і маўчала. Відаць, прызвычаілася ў тэхнікуме, дзе працавала выкладчыцай. Дзіва, што яна без цяжкасці выкрала Косцю, тады простага шафёра, з вёскі, калі ўвосень працавала са студэнтамі ў калгасе. За ёй бы любы пабег.

Ёсць людзі, з якімі вельмі цяжка гаварыць, нават маўчаць побач з імі цяжка. З Жаннай заўсёды лёгка і хораша. Яна добрая па натуры, і нават калі сварыцца іншы раз, калі раўнуе крыху, атрымліваецца ў яе гэта незласліва. Не крыўдна.

«Доброта, доброта, доброта не такая уж малость,



Если в женщине есть доброта, значит, женщина состоялась», — успомніў Косця і ласкава зірнуў на жонку.

Насустрач яму засвяціліся вялікія, нібы здзіўленыя вочы.

— Ты праўду сказала, — уздыхнуў Косця. — Нават двум кіраўнікам цяжка дамовіцца. І кожны за свой народ клапоціцца, і кожны ад імя народа. А народам вайна не трэба. Во які зачараваны круг. Эх, ды што мы з табой пра палітыку? Сёння — толькі пра любоў. І больш нічога!

Косця падгоцнуўся ў крэсле — усеўся ямчэй — і стаў насвістваць. Жанна круціла ручку прыёмніка. Праехаўшы невялікі мост над светлай рачулкай, павярнулі на лясную ўтравелую дарогу. Ехалі ціха — па лясной дарозе не разгонішся. Нават тут, у машыне, чуваць былі птушыныя галасы, якія абступалі іх з усіх бакоў. Лес стракатаў, ціўкаў, перасвістваўся. Дарога гублялася ў кустоўі, але Косця ўпэўнена прадзіраўся праз зараснікі.

Раптам адкрылася вялікая зялёная паляна з купкай маладых бярозак пасярэдзіне. Паляну, нібы вартавыя, абступалі сосны, а злева, спакойна і халаднавата адбіваючы ў сваім люстэрку купы лазовых кустоў, шырока разлілася павольная рачулка.

Косця прыладкаваў машыну ў цяньку пад соснамі, ускінуў рукі ўгору, молада пацягнуўся і крэкнуў:

— Эх! Станцыя Беразайка!

Жанна, а за ёй і малая выкуліліся з машыны.

— Мама, мама, глянь! Матылёк!

І пагналася за ім, хапаючы рукамі паветра. А матылёк нібы дражніўся: то прыпадаў да травы, да кветак, то пырхаў над яе бялявай галоўкай, нібы мерыўся сесці. Алёнка губляла яго тады і шчабятала:

— Мамка, дзе ён? Ну, мамка?

— Дзе ж ты яго зловіш голымі рукамі! Хадзі сюды, дачушка, вазьмі сачок.

— Мама, а тут пчала.

— Не чапай яе, а то ўджаліць.

Косця парасчыняў дзверцы машыны, адкрыў багажнік. Жанна дастала сумкі, на сонечным пагорку паблізу вады паслала посцілку, надзьмула і кінула Алёнцы вялікі размаляваны мяч. У дзяўчынкі і рук не хапіла, каб яго абняць: яна несла яго перад сабой, а здавалася, што мяч сам плыве над травой.

Сонца ўзнялося высока. Стаяла млявая, душная цішыня: не шапацелі лісточкі на бярозах, не відаць было рабаціння на вадзе. Мядзвяныя сосны, строма ўпаўшы ў сіняву ракі, цьмяна губляліся ў яе глыбіні, ды белыя аблачынкі замерлі недзе там, ля самага дна. Нават тут, на паляне, суха пахла ўгрэтай ігліцай і паземкамі.

— Ну што, пойдзем пакупаемся? — здымаючы майку на хаду, спытаў Косця.

— Можа, яшчэ вада халодная? — засумнявалася Жанна. Яна была ўжо ў купальніку, бялявыя валасы закручаны ў тугі вузел. — Ну што ўглядзеўся?

— Прыгожая ты ў мяне!

— Ціха ты. Алёнка ж тут...

— І я, і я буду купацца! — заканючыла малая. — Я таксама хачу плаваць.

— Ты пакуль што знімі сандалікі і пахадзі босенькімі ножкамі па траве, — супакоіла малую Жанна. Алёнка і рада была: яна села на посцілку і пачала корпацца, расшпільваючы сандалікі.

Жанна стаяла на самым беражку і пальчыкамі босай нагі спрабавала, ці халодная вада. Косця ціха падкраўся ззаду, абхапіў яе аберуч і панёс у ваду. Яна брыкала нагамі, знарок вішчэла:

— Ой, холадна, ой, баюся!

Косця асцярожна паставіў яе побач з сабой.

— Ну што ты, мая харошая, ці ж я цябе пакрыўджу? Вунь Алёнка забаялася.

Жанна азірнулася назад, памахала дачцэ рукой.

— Алёнка, мы зараз. Пасядзі на беражку.

— Пайшлі, — падаў Косця руку.

Яны паціху пайшлі ўглыб. Вада была чыстая, нават на глыбіні праглядвалася жвірыстае дно. Раптам Жанна ўзмахнула рукамі, нібы птушка крыламі, і паплыла. Над вадой была толькі галава з туга сцягнутымі ў вузел валасамі. Косця счакаў, моцна ўздыхнуў, напружыў цела, з шумам нырнуў углыб, шырока заграбаючы рукамі, і рэзкімі штуршкамі паплыў пад вадой. Наперадзе і вышэй цьмяна ўбачыў Жанну і, каб не напужаць, узяў крыху ўбок. Вынырнуў далёка наперадзе, удыхнуў паветра і адразу перавярнуўся на спіну. Блакітнае неба перакулілася над ім. Цяпер вада не здавалася халоднай, а толькі ласкава студзіла цела. «Як хораша жыць на свеце!» — мільганула думка і прапала, нібы знічка.

— Паплылі назад, Косця, — папрасіла Жанна. — Я баюся так далёка заплываць.

— Давай, — згадзіўся Косця.

— А вада і не халодная. Праўда?

— Дык полудзень ужо.

— Можа, есці захацеў?

— Не яшчэ. Паляжым, пагрэемся. Пасля.

Ля берага Жанна першая выскачыла на траву і са смехам абрынула на Косцю фантаны вады. Косця, як мог, адбіваўся. На беразе, пераступаючы босенькімі ножкамі па колкай траве, канючыла Алёнка:

— Мама, купацца хачу. Хачу купацца... І плаваць, як вы.

— Скупяні ты яе трошкі, — Косця стомлена расцягнуўся на посцілцы пад гарачымі промнямі і прымружыў вочы. Чуў, як шчабятала і пішчэла Алёнка, як весела і молада смяялася жонка. Потым галасы іх аціхлі.

Сонца пякло цела, у прымружаных вачах плавалі вясёлкі, і калі ён адкрываў вейкі, вясёлкі ператвараліся ў бяздонную сінь неба.

Побач прымасцілася Жанна.

— О-о, ты ўжо нагрэўся, — кранула яго вільготнай прахалоднай рукой за плячо.

Ён узяў яе руку і прыціснуў да шчакі.

— А дзе дзяўчынка? Пакупала яе?

— Пакупала. Вішчэла на ўсю раку. Вунь краскі збірае. Можа, пайсці паземак пашукаць?

— Ай, нешта не хочацца...

— Я з малой.

— Паляжы, абсохні крыху, — Косця павярнуўся тварам уніз, падставіўшы сонцу спіну. Паклаў жонцы гарачую руку на шыю, правёў па гладкай роўнай скуры. Зашаптаў на вуха:

— Ты калі мне сына народзіш?

Жанна памаўчала, а пасля хораша засмяялася:

— Быў бы заказ...

— Ах, так? — падхапіўся і прыціснуў Жанну да сябе Косця.







— Ой, ціха ты, Алёнка ўбачыць, — слаба баранілася яна.

— Лічы, што заказ паступіў, — шапнуў ён Жанне.

— Які ты быстры! А работа? Марыя Пятроўна на пенсію ідзе праз паўгода. Можа, мяне павысяць...

— Ну вось. Праз паўгода, праз год, — незадаволена адказаў Косця. — Нешта абляянілася ты.

Памаўчалі.

— Пайду з малой ягад пашукаю. А ты глядзі тут, не засні.

— А то што?

— Сонечны ўдар можа быць.

— Такой бяды. Другога знойдзеш.

— Другога, як ты, не будзе, — пяшчотна правяла рукой па яго валасах. — Ну, мы пайшлі!

— І праўда, моцна прыпякае. Трэба ў цянёк.

Ён паглядзеў услед Жанне: стройныя цыбатыя ногі, асцярожна ступаючы ў траву, аддаляліся. Косця соладка напружыўся і пацягнуўся. Спакваля ўзнікла жаданне.

Жонка падхапіла Алёнку на рукі і, тулячы да сябе, знікла паміж соснаў.

Косця весела падхапіўся, у некалькі скачкоў апынуўся ў вадзе. Даплыў да процілеглага берага, потым назад. Пасля ныраў і плаваў, пакуль не адчуў стому.

У цяньку было прахалодней: тут, на пагорку, пад бярозамі зрэдку веяў лёгкі вецярок, і тады лісточкі на бярозах лянiва краталіся. Косця расцягнуўся проста на траве і закінуў рукі пад галаву. На небе высока-высока з'явіліся празрыстыя аблачынкі: здавалася, яны нерухома застылі над палянай, зачараваныя харастом летняга дня. Косця, прымружыўшы вочы, глядзеў на іх: што напамінаюць яны? Карункі з незразумелым узорам? Зямля дыхала цеплынёй, пах летніх траў вісеў над палянай, стракат конікаў і спеў птушак зліваліся ў шчымліва-знаёмы адвечны хор, які хочацца слухаць бясконца: гімн лету, гімн жыццю.

Але паступова і няўмольна неба пачало цямнець. У непразрыстай цемнаце яго растварыліся і зніклі аблачынкі, а замест іх выяўна, выразна высеяліся буйныя зоркі. У велізарным недаўменні і трывозе Косця ліхаманкава пазнаваў сузор'і: Арыён, Рак, коўш Вялікай Мядзведзіцы. Зоркі адразу дрыжалі, потым паволі пачалі закручвацца ў нейкім страшэнным віхурным танцы і праз якую хвіліну шалёна насіліся па небасхіле, завіваючыся космамі, нібы снег паміж хатамі ў лютаўскую завіруху. Разам з імі закружылася-загайдалася зямля: хацелася хапіцца за што-небудзь, каб утрымацца на ёй. Неба стала зусім чорнае, толькі там, дзе яно сыходзілася з зямлёй, разлілася трапяткая паласа агню, з якой высока ўверх ляцелі снапы іскраў. Косця ліхаманкава, нібы затраўлены звер, азіраўся. Ён заўважыў: вогненная паласа бурліла і памалу насоўвалася бліжэй, падпальваючы на сваім шляху дрэвы, якія ўспыхвалі, нібы свечкі, камяні-валуны, якія адразу рабіліся чырвоныя, быццам вялізныя вуглі. Гарэла ўсё на зямлі, гарэла і зямля. Косцю ахапіў жах. Гарачыня была нясцерпная. Усё жывое ляцела, бегла праз паляну. Ратавалася. Дзе Жанна, дзе Алёнка? Хутчэй у машыну, хутчэй уцякаць ад агню. Ён азірнуўся і ўбачыў, як машына ўспыхнула агнём. Косця хацеў падхапіцца, але ногі не трымалі яго. Ён у роспачы ўбачыў, што агонь паўсюдна вакол яго, што ён у вогненным коле і кола гэта няўмольна звужаецца. Птушкі і звяры, што ляцелі праз паляну ў адзін бок, імкнуліся цяпер назад, бунтаваліся, таўкліся на паля-

не і мёртвыя падалі побач з Косцем. «Што гэта?— жахліва думаў ён.— Вайна? Канец свету?» Дрыжала, гула зямля, і гул гэты, нібы жудасныя грымоты, раздзіраў душу. Косця папоўз да ракі: над ракой стаяла гарачая пара, а вады не было. Сухое патрэсканае дно. Апошняя змейка вады, махнуўшы празрыстым хвосцікам, знікла ў трэшчыне. Смага, вялізная смага навалілася на яго.

— Піць! Піць!— да болю разрываючы горла, сутаргава закрычаў ён.— Людзі! Піць!

І тут з чарнаты неба раптоўна ўзнік няясны твар маці. Косця ўзрадавана і з палёгкай памкнуўся да яе, але маці пачала аддаляцца і знікаць у чарнаце.

— Мама! Мама!— нема і роспачна зваў Косця, лежачы на зямлі, быццам на вуголлях. Кола агню звузілася, а за ім не было ні зямлі, ні неба, нічога. Толькі глыбокая чарната стаяла сцяной наўкол.

Сабраўшы апошнія сілы, Косця рвануўся за маці і падхапіўся.

Шчабяталі птушкі, ярка і горача свяціла сонца. Цень ад бярозкі, пад якой ляжаў Косця, адсунуўся ўбок, і быў цяпер Косця на самым санцапёку. Потны і млявы, ён недаўменна азіраўся наўкол. Недзе непадалёку чуваць былі галасы Жанны і Алёнкі. «Божа мой! Які жах!» — прашаптаў ён. Памалу вяртаючыся ў існасць, ён вяла падняўся з травы, няўпэўнена ступаючы, падышоў да машыны і папіў вады. Пастаяў, потым, задумлівы і згорблены, пайшоў да ракі. Яна павольна і светла плыла па жвірыстым дне, калышучы травінкі ля самага берага. «Што гэта? Папярэджанне?» — нібы цвік, сядзела ў галаве думка.

Задумлівасць не пакідала Косцю да вечара. Яго стрыманасць, маўклівасць адразу заўважыла Жанна:

— Што з табой? Нейкі ты не такі.

— На сонцы перагрэўся. Лёг у цяньку, а сонца на захад павярнула. Цянёк — за ім.

— Казала ж, дык не слухаеш.

Моўчкі палуднавалі пад бярозкамі. Алёнка весела шчабятала, размазваючы па шчоках паземкі, якія цягала са слоіка, а потым нечакана абаснула. Жанна асцярожна ўладкавала малую, і было прыемна глядзець, як ласкава паклала яна дачку, як накрыла яе сваім лёгкім квяцістым халацікам. Цеплынёй і пяшчотай мацярынства свяціўся яе твар, і быў ён такі малады і прывабны, які бывае толькі ў жанчын, пазнаўшых шчасце мацярынства.

Косця ўзяў з багажніка машыны вуду, знайшоў завадзіну і праседзеў ля вады да ад'езду. Жанна не перашкаджала яму — ляжала на посцілцы, чытаючы нейкую кнігу. Сцерагла сон Алёнкі. Толькі адзін раз падышла, села побач і схіліла галаву на Косцева плячо. Прытулілася. Распушчаныя валасы казытнулі яму шыю, і ён таксама памкнуўся да яе, цмокнуў у шчаку.

— Трэба ў бліжэйшы час да маці з'ездзіць. Можа, хварэе дзе...

— З'ездзі, — не стала пярэчыць Жанна, адчуўшы ў яго голасе адценне глыбокага смутку.

«Дазволіла, — падумаў Косця. — А сама не мае жадання ехаць». Але нічога не сказаў. Прамаўчаў.

Гадзіны ў чатырыззбіраліся дахаты: Алёнка стала капрызнічаць, ды і прытаміліся ўсе. Як ад'язджалі, Косця яшчэ раз паглядзеў уважліва на раку, на сосны, што абступілі паляну, быццам хацеў назаўсёды ўпэўніцца, што то быў страшны сон. Толькі сон. Хацелася хутчэй зайсці ў сваю кватэру і адпачыць ад усяго: ад сонца, ад зелені траў, ад сокату і стрекату лясного. Але ехаў Косця асцярожней, чым раніцай, — адчуваў стомленасць. Нешта перамянілася ў ім. Ён нібы адразу пасталеў на некалькі гадоў.



Як спусціліся з Кабыляцкай гары, як уехалі ў горад, на душы адразу палягчэла. Па вуліцах снавалі людзі, праносіліся легкавушкі, святлафоры міргалі то чырвоным, то зялёным вокам. Усё было прывычна і знаёма, як пяць, як дзесяць гадоў назад, і моцна верылася, што так павінна быць заўсёды. Чалавек на прыродзе больш безабаронны, чым у горадзе. Узяць хоць бы навальніцу, якая застане вас у чыстым полі. Жудасна грыміць гром, ляскае пярун, маланкі ўпіваюцца вогненнымі стрэламі ў цела зямлі, дзікі віхор закручвае слупом дарожны пыл, сцяна дажджу няўмольна насоўваецца на цябе, і няма куды дзецца ад усяго гэтага. Хоць ты кладзіся ў разору, закрыўшы вушы і ўткнуўшы галаву пад які курганок. А ў горадзе? За акном грыміць, а ты сядзіш у крэсле і думаеш, выключыць тэлевізар альбо не. А калі на вуліцы навальніца заспее — таксама не страшна: камяніцы закрываюць цябе і ад грымотаў, і ад маланак, і ад ліўняў. Мой дом — мая крэпасць.

Косця павярнуў у свой двор, высадзіў Жанну з Алёнкай. На лавачцы ля пад'езда сядзелі жанчыны, і старыя, і маладзейшыя. Жанна прыветна павіталася з імі, і жанчыны насцярожана прымоўклі. Паглядалі то на яе, то на Косцю. Ён не любіў гэтыя жаночыя сходкі: кожнага, хто ні пройдзе, абгавораць.

— Ну, я паехаў у гараж.

— Вячэру разаграваць?

Косця кіўнуў галавой, стукнуў дзверцамі і выехаў з двара. Машына адразу набрала хуткасць, але Косця спахапіўся, скінуў газ.

— Не спяшайся, Кацюша.

Ранішняй весялосці і бадзёрасці не было. Міхайлавіч чакаў яго, як і абяцаў. Косця нават зарадаваўся, убачыўшы старога. У іншы час ён заўсёды б знайшоў прычыну, каб адмовіцца ад пачастунку, а сёння цягнула пагаварыць: чалавек як-ніяк усё жыццё праслужыў у войску.

— Канстанцін Мікалаевіч, дык зайдзі да мяне.

Косця матлянуў галавой.

Ён паспешна загнаў машыну ў гараж, зачыніў дзверы і пайшоў да Міхайлавіча.

У таго ў гаражы быў вайсковы парадак. Усё ляжала на месцы, драўляная падлога пафарбавана, чыстыя прыступкі збягалі ў бетанаваную яму пад машынай. Міхайлавіч, відаць, займаўся рамонтам, бо ля кола пад машынай стаяла скрынка з інструментам. У кутку ля дзвярэй на невялічкім століку Міхайлавіч наразаў закусь.

— Міхайлавіч, дужа не старайся. Я на хвілінку. Пабягу футбол глядзець...

— Усё, усё. Гатова ўжо.

— Міхайлавіч, вось ты прафесійны ваенны. Усё жыццё, можна сказаць, праходзіў навуку знішчэння праціўніка. Ты за вайну ці не?

— Ды ты што? — незалюбіў Міхайлавіч. — Якая вайна? Але калі трэба — я буду там, дзе загадаюць!

— Ну, калі трэба, дык і я буду там, — задумліва прамовіў Косця. — Калі трэба, — паўтарыў. — А калі трэба, а калі не? Хто гэта вырашае?

— Хм. Хто? Вышэйшае камандаванне, — хмыкнуў Міхайлавіч, наліваючы шклянкі. — Быццам не ведаеш...

— Ведаю, — уздыхнуў Косця. — Але дзіўная рэч: усе людзі на зямлі супраць вайны, а войны ідуць. То там, то тут успыхваюць. І ніяк ад іх не

пазбавіцца. Чалавек забівае чалавека. За што? За ідэалы, за шчасце будучых пакаленняў? Ці можна апраўдаць наогул чым-небудзь забойства чалавека? Ці ёсць цана, вартая жыццяў мільёнаў людзей?

— Ну-у, ты, брат, хапіў. Давай! — узняў Міхайлавіч шклянку.

Косцю піць не хацелася. Але і ён адпіў крыху, узяў хлеба з кілбасой.

— Чаму хапіў? Жывём жа толькі раз. Нават больш — шанц нарадзіцца адзін з мільярда. А выжыць пасля нараджэння — дзіцячая смяротнасць высокая. Прыстасавацца да цяперашняга асяроддзя, падрасці, стаць дарослым. І раптам цябе забіваюць. За што? Чаму? Таму, што нехта загадаў? Нашы маладыя хлопцы гінуць у Афганістане. Падлеткі яшчэ, можна сказаць. А іх жа аднагодак, сынок таго, хто загадаў, можа, гужуе ў гэты час у найлепшым рэстаране сталіцы. Сумна, Міхайлавіч, ой як усё гэта сумна. І страшна, — дадаў Косця, успомніўшы сон на зялёнай паляне. Ён хапіў шклянку і залпам выпіў. Закусіў. Міхайлавіч наліў яшчэ. Сабе і яму. Але Косця адсунуў шклянку, сказаў:

— Усё, Міхайлавіч. Дзякуй. Будзь заўтра ў гэты час: прынясу дэталь. Да пабачэння, — махнуў рукой ужо з-за дзвярэй.

Стомлены і невясёлы, Косця пайшоў дахаты. На парозе яго сустрэла Жанна і моўчкі падала тэлеграму: «Сёння памерла мама. Прыязджай хаваць. Твая сястра Вера».

# ПАЎЛЮК З ЖАЛЕЗНІКАЎ

...Рака была шырокая і бурлівая: глыбінныя віры выкручваліся на паверхню, ільсніліся пакатымі рухомымі буграмі, імкліва несліся ўздоўж берага, прападалі, пакідаючы пасля сябе невялічкія выбоіны-дзірачкі ў вадзе, каб пазней узнікнуць, узбунтавацца зноў. Зрэдку па вадзе плылі невялічкія крыгі, не крыгі нават, а нейкі акарэлы снег. Пранізлівым холадам цягнула ад ракі. Паўлюк здрыгануўся ўсім целам, але, моцна прыціснуўшы да грудзей скрутак, у якім папісквала хлапчанё, ціха сказаў, як прастагнаў: трэба — і ступіў у бурлівую плынь. І адразу пачало круціць ногі, холад і бясконцыя дрыжыкі змяніліся тупым непраходзячым болем у нагах. Заняло дых, хацелася аслабаніць шыю, але яе моцна абвіў абедзвюма рукамі Настассін хлапчук... не, не хлапчук, а здаравенны хлапец у міліцэйскай форме, у новенькім — з іголачкі — шэрым шынялі, абвітым рамянямі, але ўсё роўна падобны на Настассінага цыганаватага Міколку і на мужа Настассінага, Івана, з якім Паўлюк разам трапіў на фронт і якога сам пахаваў на невядомым пагорку. Нейкі голас крычаў Паўлюку: «Кінь, ён цябе загубіць, ён табе адпомсціць», — але Паўлюк мацней прыціскаў ношу і, задыхаючыся, ступаў глыбей і глыбей. «Гэта трэба не яму, гэта трэба мне. Трэба ўратаваць яго. Дзеля Настассі, дзеля Івана. Інакш як хадзіць па зямлі, як жыць?» — хрыпеў ён у задуме...

Нейкі час Паўлюк ляжаў з заплюшчанымі вачыма, ляжаў пад уражаннем сну, пакуль ясная свядомасць не апанавала ім. І тады ён адразу ўспомніў усё, што здарылася з ім учарашнім днём. Успомніў і ажно застагнаў, моцна сцяўшы сківіцы. Так не хацелася яму вяртацца ў існасць сённяшняга дня, не хацелася прачынацца, адплюшчваць вочы. Але ён адкрыў іх.



Пад белай столлю цьмяна гарэла лямпачка. Моцна, уедліва смярдзела ці то нафталінам, ці то хлоркай. Хтосьці побач залівіста хроп.

Паўлюк паморшчыўся. Ад успаміну, ад болю. Нясцерпна круціла хворыя ногі. Прастудзіў ён іх пасляваенным часам, ранняй вясной. Шэрым непагодлівым ранкам у шыбку да яго пастукала Настасся, і па дробным паспешлівым звоне шыбы Паўлюк адчуў: нешта здарылася. У прыцемку хаты кабета загаласіла:

— А мой жа ты Паўлючок, а горачка не мінае маю хатку, а сыночак мой, надзея мая адзіная, Міколка, сонейка маё, памірае. А горачка мне,



гора, адна ж я застануся, як крапіва ля плота, як зязюлька непрыкаяная. Агнём жа ўсю ночку гарыць. Змучыўся...

Загаласіла і Паўлюкова жонка Ганулях — блізка прымала чужое гора.

— Слязьмі гору не паможаш! — прыкрыкнуў на жанчын Паўлюк. — Збірай малога. Закруці ў якія лахманы. І паболей.

А пасля цішэй, з суровай раздумлівасцю дадаў:

— У раён трэба. Да доктара. Рыхтуй хлапца. Я зараз пад'еду.

Праз колькі часу Паўлюк быў ля Настассінай хаты. Панура і ціха шарэла раніца. Хлапчука, захутанага ў стары Іванаў кажух, вынеслі з хаты і ўладкавалі ў драбінках на ахапку саломы. Над ім нахілілася Настасся, паліваючы слязамі, нібы гаючай вадой, сваю адзіную надзею ў цяжкім удовіным жыцці — сына Міколку. А Паўлюк з акамянелым, нібы перад атакай, сэрцам то садзіўся на воз, то саскокваў з яго і лупіў, лупіў па худых маслах адзінага на ўсю вёску каня. Падганяў. А той і рад быў бы, ды не меў сілы спяшацца. І вырвацца з ацяжэлага абрыдлага хамута не мог. А таму звычна панура плёўся, заціснуты аглоблямі, і толькі пры кожным удары пугай уздрыгваў скурай, на якой уздуваліся вяроўкі-рубцы. Паўлюкова сэрца ажарстчэла, і ён, не памятаючы, што робіць, сцёбаў каня пугай, выплёскваючы сваю злосць на вайну, на цяжкое жыццё, крута замешанае на чалавечым болю і горы.

Так і цягнуліся яны па гразкім бездарожжы, па вясенняй распуціцы, пакуль не пад'ехалі да ракі, звычайна перасохлай і нешырокай. Цяпер жа яна бурліла ваўсю, вада магутным патокам несла астаткі льдзін, вольна разліўшыся між невысокіх берагоў. Ад мастка і ўспаміну не засталося. Паўлюк зразумеў, што ў калёсах ракі не пераехаць. Хутка выпраг каня, узабраўся на худую хрыбціну:

— Давай сюды хлапца!

Паклаўшы перад сабой ношу, ён паспешна занокаў на каня. Ля самай вады конь спыніўся як укапаны. Ні з месца. Што ні рабілі. Конь у ваду не пайшоў. Настасся, нібы чалавека, яго ўгаворвала — не дапамагло. Тады яна падхапіла сына і кінулася да вады сама.

— Стой, табе кажу! — гаркнуў Паўлюк.

Ён саскочыў з каня, забраў у Настассі скрутак і як быў, апрануты, ступіў у ваду. Дробнае крошыва вясенняга ледаходу чаплялася за полы, якія яшчэ не намоклі і трымаліся на паверхні, выцягваючыся па цячэнню, а ён пасоўваўся глыбей і глыбей, трымаючы, нібы бярэмя дроў, хлапчука і адчуваючы, як ад ледзяной вады стынуць косці, як сутаргава скаланаецца цела. Хацелася хутчэй выскачыць з гэтага ледзянога палону, але, сцяўшы зубы, ён стрымліваў сябе, асцярожна намацваў нагамі дно. У старым палапленым кажушку яшчэ цеплілася жыццё, і Паўлюк быў адказны за яго. Хто ўсклаў на яго такую адказнасць? Ніхто. Ён сам. І трэба зрабіць усё, каб выратаваць жыццё хлопца. Інакш жыць нельга.

Пасярэдзіне ракі вада была пад пахі. На беразе замерла Настасся, якая дагэтуль, нібы заведзеная, снавала ўздоўж берага, шаптала малітву.

Як перайшоў сярэдзіну ракі, пачало мялець. З намоклай абцяжаранай адзежы сцякала вада. Здранцвелі ногі, ён амаль не адчуваў іх і таму ступаў яшчэ асцярожней. Але, як вылез на сухое, ногі паступова адышлі, і Паўлюк, крыкнуўшы Настассі, каб запрагала каня і ехала дахаты, подбегам кінуўся да мястэчка...

Міколку ўратавалі, а Паўлюку з таго часу пачало круціць ногі: і летам, і зімой, як толькі мянялася надвор'е. Таму і насіў ён заўсёды тоўстыя цёплыя шкарпэткі з воўны: летам — у ботах, зімой — у валёнках. Нават на ноч не здымаў. А ўчора сілком садраў з яго хворых ног тыя шкарпэткі сяржант-міліцыянер: «Не паложана»...

Успамінаць пра ўчарашні дзень не хацелася. Паўлюк сціснуў сківіцы, павярнуўся на правы бок, і цяпер перад вачыма былі зашклёныя і закратаваныя дзверы. Ён ледзь не застагнаў ад душэўнага болю. Ад крыўды, ад знявагі. Ён, стары чалавек, які чэсна прайшоў па жыцці, які і другім не даваў разбэшчвацца, во куды трапіў. Як жа пасля гэтага ў вочы аднавяскоўцам глядзець? Рогату будзе — ого! Віцька па мянушцы Насос першы выскаляцца пачне. І нічога ён не зможа яму адказаць: роўныя. Паўлюк не вытрываў, крутануўся на ложку і ўсё-такі застагнаў. Лёг уніз тварам, уткнуўшыся ў шэрую падушку. Думкі цапамі малацілі ў скроні, аж, здавалася, гудзела ўсё навокал. Як жыць? Як далей жыць?..

Пазаўчора Паўлюк атрымаў паштоўку ад зубнога ўрача: падышла чарга правіць зубы. Гэта дачка, што жыла ў горадзе, рашыла яго падмаладзіць. Управіўшыся з цялятамі, якіх даглядаў разам з Віцькам Насосам, Паўлюк заспяшаў у горад. Віцька з раніцы так і не паявіўся, і Паўлюку прыйшлося забягаць да яго. Той яшчэ не працверазіўся за ноч. Балюча было глядзець на няўцямную расхрыстаную істоту, у якой падгіналіся ногі і ліхаманкава трэсліся рукі. Зубы стукалі аб край кубка, калі Віцька піў ваду, а парослы застарэлым шчэцкем кадык шморгаўся ўверх-уніз пад маршчакаватай скурай. Нейкая жальба ўзнялася тады ў Паўлюковым сэрцы да гэтага прапашчага маладога чалавека, якога не раз і ўгаворваў, і журыў, і кляў апошнімі словамі. Але і пакрываў часта, працаваў і за сябе, і за яго, пакуль Віцька Насос адсыпаўся дзе-небудзь у стажку. Крыўдна рабілася да слёз: няўжо дзеля таго, каб такія во поўзалі, як сляпыя кацяняты, па зямлі, паляглі мужчыны на вайне? Якія мужчыны! Якая сіла, якая душа. І іх няма і не будзе, а гэтыя, без жаласці, без спагады, без чэсці, без яснага розуму, жывуць, калі гэта можна назваць жыццём. Дохнуць ад віна пад платамі.

Мітусіўся Віцька Насос — вінаваты быў, а Паўлюка пабойваўся.

— Папомні мае словы, — адагнаўшы жальбу і крыўду, жорстка сказаў Паўлюк, — не накорміш, не дагледзіш цялят — працаваць са мной не будзеш. Сам пайду да старшыні! Апошні раз табе гавару.

— Сцяпанавіч, ды што ты? Ды як можна? Вось табе крыж! — хрысціўся Віцька.

— На табе крыжа даўно няма. Прапіў. Ты мне лепей простае чалавечае слова скажы, калі хоць трохі сумлення засталося.

— Чэснае слова, Сцяпанавіч, дагледжу!

— Глядзі мне, хлапец. Ты мяне яшчэ злоснага не бачыў. А я бываю злы. Рэдка, але бываю...

— Сцяпанавіч, а ты куды?

— У горад трэба мне. Да зубнога ўрача.

І з цяжкім сэрцам заспяшаўся на аўтобусны прыпынак за вёскай.

Горад кіпеў, нібы мурашнік, і дзіўна было вясковаму чалавеку глядзець на чыста апранутых людзей, якія снавалі па вуліцах, ехалі ў перапоўненых аўтобусах, ляцелі ў легкавушках. Незнаёмае жыццё горада. Яно і вабіла, і хутка стамляла. Яно збівала з панталыку і задавала загадкі. Але Паўлюк знарок напусціў на сябе абыякавасць, ссунуў на патыліцу кепку — падумаеш, усюды людзі, і ў горадзе, і ў вёсцы, а значыць, не прападзём! І спецыяльна ў маладзенькай фацэтнай жанчыны на высокіх востранькіх абцасіках спытаў, як прайсці да паліклінікі. Спытаў па-вясковаму, па-бе-

ларуску. І ажно вочы вытрашчыў, калі і яна яму сыпанула гэтак жа, ды так часценька і звонка, як па пісанаму.

— Ну і ну,— паправіў тады шапку Паўлюк, спыніўся і паглядзеў маладзіцы ўслед.— Наша, вясковая.

Задаволена хмыкнуўшы, пайшоў далей. Другі раз для роспытаў ён спыніў міліцыянера, і той амаль давёў яго да самых дзвярэй палiклінікі. Супраць міліцыі ён таксама не меў ніякай перасцярогі. «Не рабі нічога благога і не бойся нікога»,— паўтараў ён часта. А да таго Настассін Міколка, па чутках, працаваў таксама ў міліцыі. Так што нават і цікавасць была. Пасля васьмігодкі, якую ледзь скончыў, Міколка вучыўся тут у вучылішчы. Адслужыўшы ў арміі, асеў у горадзе. Атрымаў кватэру, забраў з вёскі маці, але нешта яна яму перашкаджала, бо хутка сплавіў Настассю ў дом для адзінокіх старых. Там яна і памерла. Тады ў вёсцы пра гэта многа гаварылі.

— Эх, шкада,— падумаў Паўлюк.— Была б жывая — зайшоў бы ў госці. Столькі пражыта разам, столькі перапакутавана. Усё здароўе на сына паклала, а памерла ў адзіноце. Сярод чужых людзей. Такі вось лёс у чалавека. І што гэта са светам стала? Родныя людзі адзін другому перашкаджаюць...

У паліклініцы Паўлюк доўга не затрымаўся, калі не лічыць дзвюх гадзін, якія праседзеў у чарзе. Але ж сядзець — не працаваць. Сказалі зайсці праз тыдзень. Лёгка сказаць: зайсці. Быццам гэта ідзеш куды-небудзь па справах і заглянеш на хвілінку. Не, дзень аддасі і начы прыхопіш. А там — цяляты, там — работа. На Віцьку Насоса спадзяванка слабая: прапашчы чалавек. Відаць, трэба плюнуць на гэту задумку. Чорт з імі, з зубамі. Дажывём і так.

Да адыходу аўтобуса было гадзіны са тры. Паўлюк загадзя купіў білет, пастаяў на плошчы, зайшоў у адзін магазін, у другі. Потым ногі панеслі яго на мост праз раку. З раніцы быў туман, цёплая летняя смуга пасля дажджоў, але ў абед неба выяснілася, сонца прабілася праз шэрасць нябачных аблокаў, і цяпер рака плыла ў няясных туманных абрысах прыбярэжных дрэў і кустоўя, якія за кожнай лукой, за кожнай наступнай паваротка растаялі ў імглістай смузе больш і больш, пакуль зусім не зліваліся з небам. І не было там ні ракі, ні прыбярэжных кустоў — толькі шэры роўны бязважкі прастор. Шум горада адбіваўся ад вады, узмацняўся і ператвараўся ў суцэльны гул. Рака гула ў няясных туманных берагах.

За ракой, як прайсці мост, быў рынак. Натоўпы людзей таўкліся ля машын і палатак, цясніліся і перамяшчаліся па рыначнай плошчы. Раіліся то ў адным, то ў другім месцы. Паўлюк прыпыніў крок: ці варта лезці ў натоўп? Заштурхаюць, затуркаюць. Але ногі ўсё роўна неслі яго туды: там была знаёмая гаворка, там была часцінка вёскі, без якой так цяжка вясковаму чалавеку, што трапіў надоўга ў горад. Вось яны сядзяць на мяхах бульбы, а вось прадаюць гуркі і квашаную капусту, а гэты нават і мочаныя яблыкі да лета сумеў захаваць. Добрую капейчыну возьме. Вунь якая чарга выстраілася, нават сварацца паміж сабой. А тут дзядок во якія звонкія гладышы проста на асфальт выставіў! І збаны, і макітры, і кубачкі. Гладкія, паліраваныя нібы зверху. У такім збане малачко дзень адстоіць — і хоць бы што. Гэта не ў жалезе.

Захапіў рынак Паўлюка, і хоць ногі гудуць, ходзіць ён ад палаткі да палаткі, ад прылаўка да прылаўка, штурхаецца паміж людзьмі, і нікому справы няма, хто ён і адкуль. Прыглядзіцца, прыцэніцца і далей ідзе. І раптам:



— Павал! Жалязоўскі!

Паўлюк спыняецца, няспешна паварочвае галаву: можа, здалося? Не. Але хто ж гэта такі, хто ідзе да яго, разводзячы рукі і ўсміхаючыся шчарбатым ротам? Мішка! Сініца! Ён.

— А я гляджу і вачам не веру: ты, не ты? Ну, здароў, Павал, здароў, дзед! Ёлкі-палкі, як змяніўся,— дзівіўся Сініца.

— Ты таксама не памаладзеў,— засмяяўся Паўлюк, падаючы руку.— Твой аўтобус калі?

— Што за аўтобус?

— Ну, да Руміна?

— Якое Руміна? Я там гадоў з дзесяць не жыву, ёлкі-палкі,— пры словах «ёлкі-палкі» Сініца рэзка, як заведзены, ускідвае ўверх плечукі, і яны падскокваюць да парослых старэчым мохам вушэй.— Якое Руміна?

— А-а дзе ты? — саступіў Паўлюк да цаглянай сцяны, у спакайнейшае месца.

— О-о, ёлкі-палкі, доўгая гісторыя,— махнуў абыякава рукой Сініца.— Старая мая памерла — застаўся я адзін, як... — не знайшоў слова.— Але нічога: акліматаўся, абыўся. Стаў адзін жыць. Гаспадарку звёў, пралетарыем зрабіўся. Ні кала ні двара, ёлкі-палкі. Але па тым часе я і маладзец быў — не чапляўся за гэту няшчасную часную собственасць. Хвалілі дурня, ёлкі-палкі. А няма гаспадаркі — няма і работы. Выйшаў на поле, рабіў не рабіў — паўтара рубля ёсць. За выхад плацілі. А тут поўны сельмаг вермуту. І выпіўка, і закуска адразу. І першае, і другое, і трэцяе, ёлкі-палкі. Аж тут сын прыскоквае: збірай лахманы, бацька, і да мяне. Кватэру, віш, павінны яму былі даць, дык каб большую выбіць. А ў мяне, ёлкі-палкі, мазгі ў віне размоклі ўжо, і неяк нічога не шкода: ні вёскі, ні хаты, ні людзей, з якімі разам жыў. А да таго ж і людзі памяняліся: злыя сталі, неспагадлівыя. Хто ў віно ўдарыўся, ёлкі-палкі, як я,— гэтым ні да чога: ні да зямлі, ні да скаціны, ні да работы. А іншыя, хто ў сіле, як груганы, усё пад сябе валакуць, капейку з горла вырвуць. Толькі і чуеш, ёлкі-палкі: грошы, грошы, грошы. Брыгадзір быў — каня даў — стаў бутэльку, сенакос адпусціў — зноў, ёлкі-палкі. Бытта гэта яго конь, яго сенакос. Ідзі, пажалься: кожны дзень у кантору не набегаешся...

— Дзіва што,— не вытрываў Паўлюк,— гэта не навіна, што паўлітры патрабуе. У нас страшнейшы брыгадзір быў. Не піў, але другую паганую прывычку меў: з адзінокіх баб, з нямоглых старых па траяку за каня браў. Во што, гад, прыдумаў. Як дазволіў каня ўзяць — гані траяк. У брыгадзе дзесяць коней — палічы, колькі траякоў за дзень налушчыць можна. Гляджу я, гляджу на яго — аж душа пачарнела. Сарваўся раз, за глотку ўзяў, дык што ты думаеш? Старшыня наляцеў, абаронца знайшоўся: пад суд аддам, пад нагамі блытаешся, перашкаджаеш! Гэта я ім перашкаджаю, што не даў рэчку спрамляць, што не даў гаёк высеч, што патрабаваў, каб віно ў вёску вагонамі не везлі. Ты паслухай толькі, Міхал, што робіцца з людзьмі. І гэта гаспадары?

— Ат, ёлкі-палкі, рука руку мыіць. Усе яны адзін за аднаго. Як кажыць мой Уладзік, харошых людзей на свеце, можа, і больш, але благія лепей арганізаваныя. Вот кажуць, што праўда заўсёды пераможа, заўсёды верх возьме. А для тых, хто ўсё жыццё за праўдай хадзіў, ды так і не знайшоў яе — як? У нашым Руміне быў стары, разумны такі чалавек. Пакрыўдзілі яго, хітра паклёп узвялі. Узяўся ж ён праўду шукаць! Дзе толькі не быў. Памёр. У дарозе, ёлкі-палкі, памёр вот з гэтым сваім горам у душы, з вялікай крыўдай. І колькі такіх на зямлі. Вот іншы раз пачуеш —

песню маладзіца зацягвае, што ў нас кожнага чацвёртага вайна пабіла, ёлкі-палкі. Як хваліцца ўсё роўна. А колькі пабіта не вайной! Кожны дзесяты — дваццаты быў, лічы, зэк. Краіна зэкаў. Як перажылі, як выцерпелі гэта... Ёлкі-палкі... Страшна падумаць...

Паўлюк апасліва азірнуўся: залішне гучна гаварыў Міхал Сініца.

— Не бойся ты, ёлкі-палкі, цяпер усе пра гэта гавораць.

— Цяпер, можа, і гавораць, а заўтра невядома...

— Ну добра, ёлкі-палкі, пойдзем адгэтуль. Ці ты хацеў што-небудзь купіць?

— Ды не, — паспакайнеў Паўлюк, — часу во да аўтобуса ёсць, дык зайшоў. На Жалезнікі гадзіны праз тры пойдзе.

— Ты тамака і жывеш? А Ганна твая як?

— Няма, — уздыхнуў Паўлюк. — Гадоў пяць як памерла.

— Во, браце, які наш старэчы лёс, ёлкі-палкі, — як жаліўся Міхал Сініца. — Калісьці дзецюкавалі разам, за дзеўкамі бегалі. Жыццё — як адзін міг, а колькі ў ім усяго было...

Яны выбрыталіся з рыначнага гаманлівага натоўпу і пайшлі побач: высокі і паджары Міхал Сініца і ніжэйшы, з ацяжаранай хадой Павел Жалязоўскі.

— Слухай, як у цябе з грашыма? — ажывіўся Міхал, калі на шляху ўбачыў гастраном.

— Ёсць, а што? — Паўлюк насцярожыўся. — Што ты хочаш?

— Давай траяк.

Паўлюк няспешна дастаў кашалёк.

— Пасядзі тут на лаўцы. Я зараз, — Міхал знік, як і не было.

Паўлюк здагадліва спахапіўся, хацеў памкнуцца за Міхалам, каб спыніць, але дзе там!

Ён пакруціўся ў скверыку, пастаяў над абрывістым берагам ракі. Унізе, у вадзе, у высокіх гумовых ботах, нібы статуі, стаялі рыбакі — маладыя здаравенныя мужчыны з вудзільнамі-дубчыкамі ў руках. Сярод гарадскога тлуму, сярод грукату яны выглядалі нейкімі адшчапенцамі. Адна з постацей раптам тарганулася, свіснула вудзільна. На кручку затрапяталася серабрыстая рыбка, не рыбка нават — малёк. «Зараз выпусціць», — падумаў Паўлюк. Але не. Паўлюку стала сумна і прыкра. Захацелася хутчэй дадому. Міхала не было. У скверыку стаяла цішыня, пахла сырой травой і ліпавым цветам. Ад моцнага паху і цёплай сырасці было задушна, як перад навальніцай. Паўлюк прысеў на лаўку і пачаў чакаць: часу яшчэ хапала.

«Як там Віцька Насос? — узышло на памяць. — Пэўна ж, пахмяліўся з раніцы. Гэты хоць якой халеры з-пад зямлі знойдзе. Трэба ж, зараза, як да людзей прычапілася! Нішчыць іх, у звяроў ператварае, у жывёлу. Той жа Віцька — няшчасны чалавек: жонка пакінула, радні ніякай не засталося. Выганяць з калгаса — чым карміцца чалавек будзе? А мужык не злаблівы. Нядаўна хавалі старога Васіля, дык як стаў галасіць на матчынай магілцы, як стаў пра жыццё сваё казаць, як стаў вінавацімца і жаліцца — людзі за сэрца ўзяліся: вось табе і на. Думалі, што так сабе: п'е чалавек і ніякіх ні турбот, ні забот не ведае. А ён такі боль, такую віну ў душы носіць, а п'е. Страшна. Да самагубства дайсці можна. Гэта ж кожную раніцу пасля працверазення шкамутаць сваю душу на часткі, клясці і вінаваціць сябе за слабасць і зноў шукаць атруты, каб пазбавіцца самасуду сумлення, якое яшчэ захавалася ў зруйнаванай душы. Як памагчы такім людзям?»



Па дарожках у скверыку прагульваліся два сяржанты-міліцыянеры, ружавашчокія хлопцы ў новенькай адпрасаванай форме, перапаясаныя рамянямі. На грудзях у аднаго целяпаўся брусочак у скураным футарале, з якога чуліся абрыўкі нечых слоў. «Акурат як у Віцькі Насоса радыёпрыёмнік», — падумаў Паўлюк, калі яны падышлі бліжэй. Ён перавёў позірк на твар сяржанта, ажно ўздрыгнуў і стаў прыўзнімацца на лаўцы: па дарожцы ішоў Міколка Настассін. Але, сутыкнуўшыся з халодным непаважлівым позіркам, адразу асеў і вінавата адвёў позірк убок. Паўлюк і сам не ведаў, адкуль з'явілася гэта вінаватасць у яго: ці то ад гаспадарскай хады сяржантаў, ці то ад халоднага позірку.

«А апранаем мы іх добра», — ачомаўшыся, глянуў услед ім Паўлюк. І зноў устрапянуўся: хада, пастава міліцыянера — ну якраз Івана Настассінага. Няўжо ўсё-такі Міколка?

Паўлюк пачаў злаваць на Міхала Сініцу: як скрозь зямлю праваліўся! Проста сядзець на лаўцы ён не мог, і адысціся ніяк не выпадала. Але што ж тут чакаць!

Паўлюк падняўся і паціху паклыпаў да гастранома. У двары за магазінам стаяў натоўп. Паўлюк і падаўся туды. Божа мой, што тут рабілася!

Уздоўж цаглянай абшарпанай сцяны ў некалькі радоў стаяла чарга. Тыя, што стаялі з краю, ціснуліся да сцяны, а іх не пускалі, адпіхвалі. Вялікая група маладых падпітых хлопцаў штурмавала ганак. Гоман, лаянка, адборны, без намёку на сарамлівасць мат віселі над натоўпам. Толькі раптоўны прарэзлівы енк на хвіліну аціхшаў натоўп. «Каго задушылі? Каго задушылі?» — чуліся галасы. Хлопцы, якія штурмавалі ганак, падсаджвалі адзін другога на плечы людзей, на галовы, а тыя не маглі скінуць іх з сябе — так былі заціснуты. Натоўп сутаргава ўздрыгваў. Распараныя, азлобленыя твары, ашчэраныя ад неверагоднага напружання раты, а ў пабялелых вачах — адна мэта: дапяць да прылаўка хоць па трупах учарашніх сяброў і суседзяў, толькі б выхапіць нарэшце пару бутэлек віна.

«Што ж гэта?! Дзесяцігоддзямі прывучаць п'янстваваць, а пасля раптам не даць. Гэта ж люд, той, хто корміць, адзявае, абувае». Паўлюк да болю сцяў сківіцы, стаў убаку пад ліпай і ціха лаяўся. Сціснула сэрца, ён прысланіўся спіной да шарахаватага спаласаванага барознамі-трэшчынамі камля. Позірк яго зноў наткнуўся на сяржантаў — яны стаялі зводдаль з нейкімі падпітымі лахматымі дзецюкамі. Адзін з іх сіняй ад наколак рукой ляпаў сяржанта па плячы і, крыва шчэрачыся, казаў:

— Колька, тут не твой шухер, тут ты нічога не вылавіш! Відзіш, які базар! Якія дзелавыя мальцы кругом! А ты сюды падваліў. Праз мінут дзесяць чапай на лодачную — храпнеш стаканок. Відзіш, мой у воздуху разуўся, а дзела дзелаіць.

Паўлюк глянуў туды, на ганак: і праўда, малады хлопец, стоячы ў шкарпэтках на людскіх плячах, перадаваў бутэлькі назад сваім памагатым, а тыя запіхвалі бутэлькі пад рамяні.

І раптам адтуль, з самага пекла, тузаючыся ўсім целам, вырваўся Міхал Сініца, заціснуўшы ў адной руцэ дзве гарлавіны бутэлек. Сівыя валасы паклычаны, пабялелы твар абсыпаны буйнымі кроплямі поту, адзін гузік вісіць на нітачцы.

— Міхал! Сініца! — гукнуў Паўлюк і ступіў крок наперад. Сініца няўцямна глянуў налева, направа — ніяк не мог прыйсці ў сябе. Паўлюк сам падышоў да яго:

— Ну во, стары чалавек. І трэба табе было ламаць косці дзеля гэтага. Што прыдумаў, — ушчуваў ён Міхала. — Ці яна нам трэба?

 

— Ды хацелася па-чалавецку: гадоў пятнаццаць, лічы, не бачыліся, ёлкі-палкі. Чаму б і не пагаварыць? А як улез, дык і сам не рады...—ён ніяк не мог аддыхацца.—Зойдзем у магазін.

У магазіне было пуста, як кажуць, хоць шаром пакаці. Сініца купіў паўкіло ліvернай кілбасы, акрайчык хлеба. Як выйшлі з магазіна, Паўлюк заўпарціўся:

— Нікуды я не пайду, Міхал, скора аўтобус, навошта гэта?

— Дык ужо ж куплена, ёлкі-палкі. Столькі адмучыўся...

— Ну і што? Дадому забярэш...

— Ага, забярэш: я ж цяпер у прымах. Вось так. У сына цесна стала пасля таго, як памог кватэру атрымаць. Несумяшчальнасць пачалася—нявестка мне так аб'явіла.

— Дык як жа гэта так?—сумеўся Паўлюк.—Сам цябе з вёскі сарваў, а пасля цесна стала з бацькам?

— Вось так, ёлкі-палкі. Пойдзем, Павал, пойдзем, ёлкі-палкі, у нас ёсць пра што пагаварыць. Ці сустрэнемся болей,—Міхал Сініца прыабняў Паўлюка за прыгорбленыя плечы, і ў таго зашчыпала вочы.

Паўлюк пакорліва пайшоў побач з Сініцай. А той выкалупаў з глыбінь кішэняў тры капейкі, падкінуў іх на далоні.

— Трэба папіць. Нешта смажыць,—чамусьці падміргнуў Паўлюку.

Ён апусціў манету ў шчыліну, жалезная скрынка завурчэла, і ў падстаўленую шклянку зацурчэў жаўтлявы струмень.

— Можа, хочаш?

— Не-е,—махнуў Паўлюк рукой.

Міхал папіў, паставіў шклянку назад—Паўлюк сам бачыў, як ён ставіў,—і рушыў далей, з палёгкай уздыхнуўшы:

— Ну вось, ёлкі-палкі. Цяпер усё ў парадку.

Быццам усе праблемы вырашыў.

— Ты ведаеш,—гаварыў Сініца,—здавалася б, вялікі горад, а вот дзе мы з табой пасядзець можам, па чарцы выпіць? Нідзе. Ці ж бы я ламаўся ў такой чарзе, каб можна было куды прыйсці, пагаварыць з чалавекам. Няма, ёлкі-палкі. Не прадугледжана: мы павінны ведаць толькі працу, працу, працу.

— Дык а куды мы?

— На прыроду, браце, на прыроду.

Яны прыйшлі да ракі, спусціліся з абрывістага берага да самай вады, і тут, у бухматых кустах лазняку, знайшлі зацішнае месца. Паўлюку нават спадабалася тут: ні камяніц, ні машын, ні людзей—толькі вада, кусты, трава, неба. І да аўтастанцыі недалёка.

Сініца разгарнуў паперу з рудой кілбасой, пакроіў акрайчык хлеба, з кішэні дастаў шклянку.

— Ну і ну,—здзівіўся Паўлюк.—Навучыўся ты тут усяму. Быццам бы назад ставіў...

— Быццам,—не пакрыўдзіўся Міхал Сініца.

Паўлюк уважлівей паглядзеў на яго, нібы не пазнаваў.

Пракаўтнуўшы па чарзе мутнаватае віно, нейкі час моўчкі жавалі хлеб з ліверкай. Ежа засядала паміж зубоў, і Паўлюк падумаў, што трэба будзе ўсё-такі ўставіць зубы, не палічыцца з часам. У бераг плёскала патрывожаная рачная вада, абмывала прыбярэжныя каменьчыкі.

— Ты пытаешся, як жа так. Адразу ледзь не сілком забраў бацьку, а пасля—ты мне перашкаджаеш, ёлкі-палкі. Несумяшчальнасць! Касманаўты, халера на вас! Перацягнулі яны мяне ў горад у адзіны пакойчык, нявестка лісой каля мяне хадзіла. І тое, і гэта. Прадаў хату—сталі ўгаворваць, каб на іх грошы адпісаў. Маўляў, стары ўжо, усякае можа быць. Планы ў іх былі—канап і крэсел накупляць. А там у суседнім доме бабка адна жыла, разумная такая, прыветлівая. Сустрэнемся ў двары, пагаворым. Расказаў я ёй пра ўсе свае беды, а яна і кажа: «Глядзі, Міхаіл, не рабі глупства. Мяне таксама хацелі родныя дзеці аблапошыць і ў дом састарэлых здаць—не згадзілася і цяпер гэтым рада. Хоць і адна жыву...»

«Трэба будзе папытацца, ці помніць ён Настассю, ці ведае што пра яе Міколку»,—не стаў перабіваць Сініцу Паўлюк.

— Паслухаў я яе. Аформіў грошы на сябе. Праўда, трохі і ім даў, ёлкі-палкі, родны ж сын. Але не ўсе. Ну, тут і пачалося, у новай кватэры ўжо: сын маўчыць, як індык, а нявестка ў косці даець. Ні сесці, ні легчы. І што ты думаеш? Плюнуў я і пайшоў да той бабкі—Людміла Іванаўна яе зваць. Так сказаць, у прымы, ёлкі-палкі.

Задумаўся і пасля дадаў:

— А што? Глядзіць—і то добра. Што нам, старым, болей трэба? Ёсць да каго слова загаварыць. Праўда, адну ўмову паставіла: каб ні гарэлкі, ні віна ў хаце не было. А так бы мы з табой зайшлі. Прыветлівая жанчына... Вот такая, браце, гісторыя.

— А як жа ты, выпіўшы, з'явішся да яе?

— Дужа яна там пойме! Можа, дзе з бабамі на лаўцы сядзіць. А я ціхенька—і ў люлю,—Міхал Сініца засмяяўся.

— Ну а вёску як, ці помніш, ці ўзыходзіць на памяць?—асцярожна, як выпытваў, сказаў Паўлюк і пaглядзеў у вочы Міхалу Сініцы.

— Пытаешся,—паляпаў па кішэнях, відаць, шукаў закурыць, Міхал.—Адразу так за душу цягнула—хоць на сцяну лезь. Месца не знаходзіў. Здавалася б, ну што там шкадаваць? Як апошнія гады—глядзець мутарна было, не тое што там жыць. А паехаў—і засмактала душу, ёлкі-палкі. І тут, і там людзі жывуць—скрозь. Але тут неяк бессаромней жывуць, нахабней. Не ўсе, канечне, а ў асноўным тыя, хто з вёсак у горад набіўся. Агледзеліся, асвойталіся—і пачалі... Вось я, ёлкі-палкі, ці ж бы я ў вёсцы ўзяў тую шклянку! А каб узяў, назаўтра ўся б вёска ведала і суседнія таксама. А тут, выходзіць, можна. Відаць, важна, што чалавек у сваёй душы носіць. А носім мы ў сваёй душы раба. Прывыклі насіць. Прызвычаіліся, што над намі ўвесь час пуга, а часам і дубінка: зрабіў не тое, што камусьці патрэбна,—бабах па галаве. Не бабахнула—далей пасоўваешся, больш у гразь па вушы залазіш...

— Цяпер і ў вёсцы ўсё перамянілася: ёсць у мяне напарнік Віцька Насос, разам цялят даглядаем, той не толькі шклянку—скрынку гарэлкі сапрэ, і хоць бы што. Толькі дазволь. А наконт раба—дык, можа, людзі і не вінаваты. Такое жыццё было. Ды і не ўсе разгубілі ў сабе спракавечнае-чалавечае. Гэта асабліва важна цяпер. Такія людзі як вугалькі на патухлым вогнішчы, ім трэба памагаць, а не перашкаджаць, з іх можа ўзгарэцца касцёр чалавечнасці, які спаліць усё гнілое і абрыдлае ў нашым жыцці і ў нас саміх.

— Да-а, ёлкі-палкі, народ—аснова. Благі народ—благая будзе армія, благія вучоныя, кіраўніцтва благое. Адкуль узяць іх, добрых, чэсных, спагадлівых? Усе яны з нас. Мацнейшы здзекуецца са слабейшага, старэйшы—з маладзейшага, ёлкі-палкі. Адкуль гэта? А ўсё адтуль, з нашага жыцця...

— Нешта мы з табой, Міхал, усё за ўпакой. Будзе жыццё, павінна быць. Гэта мы з табой паспяшаліся нарадзіцца—вот і хапанулі ліха. А бы-

 

 

лі маладыя, вясёлыя — і гора было не гора, і бяда не бяда. Цяпер сядзім во і брузнім. Састарэлі...

— Састарэлі, ёлкі-палкі, гэта праўда. Але ж тое-сёе ведаем. Зараз то і напэўна ведаю: калі ты бачыш, як крыўдзяць чалавека, як забіваюць яго, зніштажаюць ні за што, і не хочаш умяшацца, каб памагчы, абараніць, помні: заўтра гэта ж будуць рабіць і з табой. Цёмныя сілы смялеюць, ёлкі-палкі, калі светлыя адмоўчваюцца. А цёмных сіл і цяпер хапае, барацьба ідзе ўвесь час. Я дык нават плюну, як убачу аднаго па тэлевізары. Вылезе, рот перакрывіць: перастройка, таварышы, перастройка. Сам жа яшчэ ў крывавыя часы там сядзеў, круціўся, напэўна, як уюн, і пасля ўсіх гаракіраўнікоў перажыў і ўсім, відаць, добры быў, бо не загрызлі, а цяпер людзям пра перабудову далдоніць. Чорт цябе перастроіць ужо! Гарбатага, ёлкі-палкі, магіла выправіць!

— Забылі прапісныя ісціны: на чужым горы-няшчасці шчасця не пабудуеш. Усё, што ўзведзена на чалавечых касцях, будзе рушыцца. Чым далей жыву — заўважаю: жыве чалавек, людзей не шманае, сам сабе і цар, і бог, і воінскі начальнік. Хітрэй і разумней ад усіх. Аж глянь — і да яго бяда з такога боку падкоціцца, адкуль і не думаў, і не гадаў.

Так сядзелі яны на траве, закрытыя лазовымі кустамі ад староннягa вока, і размаўлялі. Не спрачаліся, а размаўлялі згодна пра ўсё, што набалела, што мучыла апошнія гады душу. Перад вачыма вольна плыла вада, плёскала ў бераг, настройвала на разважлівы лад. Як выказаліся адзін перад другім, паспакайнела і на душы. Нібы хмары разагнала свежым ветрам. А можа, віно прыглушыла боль і разгубленасць перад нечаканымі і незразумелымі праявамі жыцця! Паўлюк расслабіўся, быццам нікуды і не спяшаўся. Толькі на гадзіннік паглядаў неўпрыкмет. Але Міхал заўважыў:

— Не паглядай ты, ёлкі-палкі, на гадзіннік памінутна. Тут да аўтастанцыі два крокі. Усё роўна там будзеш круціцца, пакуль аўтобус пададуць.

Сініца паляпаў па кішэнях, дастаў пачак папярос.

— Усё яшчэ смаліш?

— А ты?

— Я ж не курыў. Не прывык да гэтага зелля. Нават на фронце не прызвычаіўся.

— Чорт яго ведае, ёлкі-палкі: кажуць, урэдна, урэдна, а дзед мой курыў і дзевяноста гадоў пражыў. Цяпер не паняць, што ўрэдна, што не. І на галаву сыплецца, і ў зямлі хіміі гэтай — не дай бог. А дзе пачынаецца хімія, ёлкі-палкі, там канчаецца жыццё!

— Мой напарнік Віцька кажа: хто не курыць і не п'ець, той здаровенькі памрэць, — падтрымаў Міхалаў жарт Паўлюк.

— Пасядзі ты тут. Я на хвіліначку адлучуся, запалак папрашу, — Сініца круціў у руках пусты карабок.

Паўлюк не пярэчыў. Ён аблакаціўся на курганок травы і задумліва глядзеў на ваду. А тая плыла і плыла, віруючы ў прыбярэжных ямінах, ускіпаючы рабаціннем на перакатах. І жыццё, як вада, плыве і плыве. Якое яно будзе заўтра, паслязаўтра? Горшае? Лепшае? Павінна быць лепшае. А як зрабіць яго лепшым? Трэба, каб людзі сталі лепшыя, разумнейшыя. Каб не нішчылі прыроду, каб не секлі сук, на якім сядзяць. З благімі людзьмі добрага жыцця не пабудуеш...

— Сядзець! Ні з места! — гаркнуў ледзь не над самым вухам малады голас, і Паўлюк ад нечаканасці ўздрыгнуў і інстынктыўна павярнуў галаву на крык: рассунуўшы лазовы куст, ва ўпор на яго глядзеў сяржант-



міліцыянер. — Сядзець! — паўтарыў ён загад і, прадраўшыся праз лазовы куст, ухапіў недапітую бутэльку віна.

— Што ты, хлопча мой, тут раскрычаўся? Заікай зробіш, — падняўся Паўлюк і пахіснуўся: анямелі ногі.

— Вот куды вы зашыліся! Ану следаваць за мной! — голас сяржанта звінеў, як напятая струна. І столькі ў ім было нянавісці і пагарды, што ў Паўлюка ажно дрыжыкі прайшлі па целе. Ён напружыўся, як перад рукапашным боем, але раптам абмяк: зноў у каторы раз сёння сціснула сэрца.

— Куды следаваць? У мяне аўтобус праз паўгадзіны...

— За распіціе ў непаложаным месцы спіртных напіткаў, знаіш што будзе?

— Якое распіццё? Дзе яно, паложанае месца? — узвысіў голас Паўлюк.

— Маўчаць! — загадаў сяржант. — Вапросы задаваць буду я!

Ён пакруціў недапітую бутэльку ў руках, раптам размахнуўся і ляснуў яе аб камень. Зялёныя асколкі пырснулі ва ўсе бакі.

— Што ж ты робіш... чалавек! — абурыўся Паўлюк. — Тут жа дзеці з вудамі босыя, можа, будуць хадзіць... — Паўлюк задыхнуўся. «Які гэта Міколка! Як я мог падумаць такое!» — сам сябе аблаяў Паўлюк, злавіўшы не па-чалавечаму злы позірк сяржанта.

Наверсе, над абрывістым берагам, стаяў другі сяржант. Яны павялі Паўлюка праз скверык да мнагалюднай вуліцы. Паўлюк нязграбна кульгаў паміж імі і гатоў быў скрозь зямлю праваліцца. Нешта абарвалася ўнутры і не дазваляла прамовіць словы ў апраўданне. Ды і словы гэтыя, ён адчуваў, былі нікому не патрэбны.

Адзін сяржант спыніўся, паднёс брусочак у скураным футарале да рота і нешта пашаптаў. Паўлюк не пачуў. Ён кульгаў далей, да мнагалюднай вуліцы, быццам там было выратаванне.

— Выехалі. Зараз будуць, — прамовіў сяржант, даганяючы напарніка з Паўлюком.

— Хто будзе? — не вытрываў Паўлюк.

— Не тваё дзела! — адрэзаў сяржант.

— Хлопцы, — стаў прасіцца Паўлюк, — там цяляты, напэўна, някормленыя.

— Ха-ха-ха, як у кустах чарніла глушыў, цяляты не трэба былі. — І дадаў злей: — Ты мне лапшу на вушы не вешай. Разжалабіць захацеў? Мяне не разжалабіш! Давай во, садзіся. Карэту падалі! — здзекліва закончыў сяржант.

«Што праўда, то праўда. Такога не разжалабіш», — падумаў Паўлюк і азірнуўся, нібы дапамогу шукаў.

Зарыпеўшы тармазамі, побач з тратуарам спынілася крытая з закратаванымі вокнамі міліцэйская машына. Паўлюк жахнуўся: гэта ж па мяне! Зводдаль спыніліся цікаўныя прахожыя, моўчкі глядзелі і на міліцыянераў, і на Паўлюка. Толькі адна жанчына не вытрывала, закрычала:

— Адпусціце старога! Што вы робіце? На каго палюеце? На працоўных людзей? Мала вам п'яніц і тунеядцаў!

— А што яны з тунеядца здзяруць? — азвалася другая. — Ім падай таго, хто працуе...

З кабіны выскачыў увішны міліцыянер, спрытна адчыніў дзверы.

— Давай быстрэй, — буркнуў сяржант напарніку. Той узяў Паўлюка пад локаць.

— Хлопцы, што вы робіце? За што? — як за саломінку хапаўся Паў-

люк. Твар успацеў, горача і балюча ныла сэрца. Ён мітусіўся, звяртаючыся то да аднаго, то да другога, упарціўся, не ішоў у расчыненыя дзверы машыны. Тры міліцыянеры хуценька падштурхнулі яго да дзвярэй, а той, каторы забраў старога ля рэчкі, падсаджваючы, нават паддаў каленам. Паўлюка як варам абдало, такую знявагу і бездапаможнасць адчуў ён. Слёзы навярнуліся на вочы. Ён учапіўся рукамі за бакавую лаўку і цяжка апусціўся на яе. Бразнулі дзверы, побач з шафёрам уладкаваўся ўвішны міліцыянер, і машына кранулася. Затуманеным позіркам Паўлюк бачыў у пярэднім шкле кабіну з двума міліцыянерамі і далей мнагалюдную вуліцу, якая адплывала назад.

— Усё,— закрыў вузлаватымі пальцамі вочы Паўлюк.— Усё.

Ён выцер слёзы і памалу супакоіўся. Болей ён не ўзрушваўся, не рваў сабе сэрца, якое адчувалася цяпер пад рукой так блізка і балюча. «Як драпежнага звера вязуць,— падумалася абыякава,— як закаранелага злачынцу».

Горыч і абыякавасць пасяліліся ў душы Паўлюка. Быццам нябачную рысу пераступіў. Нешта падобнае было з ім, калі трапіў на фронт: адразу апаноўвалі бязладныя думкі, не давалі спакою ні днём, ні ноччу. Як будзе дома без яго, пашанцуе вярнуцца ці не, заб'юць — не заб'юць? А тады ён сказаў сабе: што гадаць. Як будзе, так і будзе! Не хавацца за чужыя спіны, а чэсна выконваць свой доўг. Каб пасля, калі застанецца жывы, смела глядзець людзям у вочы!

У выцвярэзніку, куды прывезлі Паўлюка, лейтэнант хутка склаў пратакол. Паўлюк адразу прызнаўся, хто ён і адкуль, пацвердзіў, што ля рэчкі піў віно. Мужчына ў цывільным, урач, які сядзеў побач з лейтэнантам, незадаволена сказаў Паўлюку:

— Вы на сябе не нагаворвайце. Які ж вы п'яны?

— Піў, п'яны,— упарта паўтараў Паўлюк.

— Ну, Мікола, ну, Чараповіч,— асуджальна паківаў галавою і пацёр скроню мужчына.

— Хто Чараповіч? — на хвіліну Паўлюк спыніў няўцямны позірк на ўрачу.

— А хто ж вас забіраў? Чараповіч...

«Усё-такі, Міколка,— нібы ў бяздонную яму, яшчэ глыбей апусцілася душа.— Не пазнаў... Чаму ж ён такі злы да людзей?»

— Што пісаць? Якую прычыну? — бадзёра звярнуўся лейтэнант да ўрача і сяржанта.

— Пісаць, пісаць,— сказаў урач раздражнёна і рэзка ўстаў з-за стала.— Парві і выкінь!

— Што значыць — парві? Ты там быў? Ведаеш, што і як? Так мы можам усіх распусціць. Нам прывезлі — мы павінны аформіць!

— Заўтра табе на іншае прывязуць...

— Загады трэба выконваць.

— Пішы, як заўсёды: знаходзіўся ў нецвярозым стане на вуліцы такой-та,— ціха прамовіў сяржант.— Сваім відам аскарбляў дастоінства прахожых.

— Я нікога не аскарбляў,— міжволі ажыў Паўлюк, а сам падумаў: навошта я гэта гавару? Усё роўна.

— Распранайся! Адпачнеш тут — розуму набярэшся! — сяржант пастражэў.

Паўлюк пакорліва пачаў распранацца. Думкі мітусіліся ў галаве, ажно звон стаяў, і Паўлюк ніяк не мог зачапіцца хоць за адну, каб затрымаць.



Яны ўзнікалі і прападалі. А можа, то выпітае віно не давала яму засяродзіцца, сабрацца з думкамі? Чорт бы яго пабраў!

Паўлюк распрануўся, толькі цёплыя ваўняныя шкарпэткі пакінуў на нагах, каб не ступаць басанож на халодную цэментавую падлогу.

— Ану знімай! Не палажана! — загадаў сяржант, і Паўлюк не паспеў нават слова сказаць, як той ужо запіхваў шкарпэткі ў мяшок разам з усім адзеннем. Потым, адамкнуўшы вялікі пакой, падвёў Паўлюка да ложка з пакамечанай прасцінай і загадаў:

— Лажысь! І што б ціха.

Паўлюк лёг і бяздумна ўставіўся ў столь. Спачатку была кволая надзея, што яны ўсё ж разбяруцца і выпусцяць яго, але час ішоў, у пакой упіхвалі новых падвыпітых мужчын, а яго ніхто не выклікаў. Нейкая сіратлівасць, адасобленасць ад усіх людзей навалілася на яго. Цьмяная лямпачка пад столлю, краты на дзвярах, за шклом якіх зрэдку высвятляўся твар сяржанта, смярдзючы пах хлоркі — усё было незнаёмае, чужое. Паўлюк не ведаў, колькі часу, і гэта таксама выбівала з рэчаіснасці. Час спыніўся. Ён і сам не заўважыў, калі праваліўся ў бяздонне кашмарных сноў. Потым некалькі разоў прахопліваўся — пачало круціць ногі. Ды яшчэ буйнага мужчыну прывялі, ніяк не маглі ўтаймаваць яго. Той усіх падняў сваім крыкам:

— Мянты праклятыя! Вы мне жыццё паламалі! За што здзекуецеся нада мной?

І што ў турме ні за што сядзеў, і што ў гарэлку ўцягнуўся, за ўсё вінаваціў міліцыянераў. Пасля, як яго вывалаклі з пакоя і некуды справадзілі, зноў усё аціхла, супакоілася. А Паўлюку на памяць узышоў Міколка Настассін, Міколка Чараповіч. «Дзіва што,— падумалася,— з такімі во азвярэеш,— нібы апраўдваў ён Міколу.— Так і наравіць у морду даць. І турмы не баіцца. Адчайны народ пайшоў...» Думкі пра Міколу, відаць, і перайшлі ў той сон, дзе віравала рака, дзе ён, яшчэ малады і здаровы, пераносіў праз раку хлопчыка...

А цяпер, як прачнуўся, абыякавасць прайшла. Існасць усім цяжарам навалілася на душу, таптала яе, ірвала на часткі, і Паўлюк круціўся на ложку, не маючы сілы суняць душэўны боль. Нарэшце не вытрываў, сеў на ложку, звесіўшы худыя ногі ў сініх вузлаватых венах. Доўга сядзеў так, маўклівы і прыгорблены.

За спіной забразгалі. Паўлюк азірнуўся: сяржант адчыняў закратаваныя дзверы. Стары зноў звесіў галаву — мала чаго яму тут трэба.

— Жалязоўскі, выхадзі!

Паўлюк няўпэўнена падняўся, паправіў пасцель і пайшоў да адчыненых дзвярэй.

Яму моўчкі аддалі адзенне, і ён без лішніх слоў апрануўся. Усе былі нібы вінаватыя адзін перад другім. Толькі мужчына-ўрач неяк пранікліва паглядзеў на Паўлюка і адвярнуўся.

— Распішыся тут, што нічога не прапала.

Паўлюк распісаўся і моўчкі стаяў ля стала.

— Свабодны,— сказаў міліцыянер і коратка, зладзеявата глянуў на старога.

— А адкуль ведаеце Чараповіча? — спытаў урач.

Паўлюку не хацелася адказваць, але ён усё ж сказаў:

— З нашай вёскі ён родам. З Жалезнікаў. Суседзямі былі...

— Сюды,— прамовіў сяржант і адчыніў дзверы на вуліцу.

Паўлюк выйшаў.

Разгаралася пагодная летняя раніца. Горад яшчэ толькі абуджаўся. Жанчыны ў чырвоных куртках падмяталі вуліцу. У іх ён і спытаў, як прайсці да аўтастанцыі. Жанчыны доўга тлумачылі яму, а Паўлюк, убачыўшы мост праз раку, і сам здагадаўся, куды ісці. Ён паспеў якраз на першы аўтобус і, уладкаваўшыся на сядзенні, чамусьці зноў сказаў сабе: вось і ўсё!

Праз гадзіну ён выйшаў на сваім прыпынку, але да вёскі пайшоў не па дарозе, а паплёўся вузкай палявой сцежкай. Яе кожны год заворвалі магутныя трактары — хто гэта будзе падымаць плугі дзеля нейкай сцежкі, — але кожны год людзі пратоптвалі яе зноў. Сцежка вяла на пагорак, з якога добра была відаць уся вёска. На пагорку стаяла старая адзінокая сасна, крывая і нязграбная, з пакручастымі сукамі, якія нізка навісалі над зямлёй. Тут на пляскатым камені сядзеў Паўлюк, як вяртаўся з фронту дадому. Сядзеў і думаў. Нібы спавядаўся перад роднай зямлёй, перад людзьмі. Нібы вырашаў, ці мае ён права вярнуцца ў родную хату, ці чэсна выканаў свой абавязак. Не яго віна, што навечна леглі ў зямлю такія мужчыны, як Іван Настассін. Не хаваўся ён за іхнія спіны. У кожнага свой лёс. Яму пашчасціла застацца жывым, і ён жыў і ўвесь час стараўся зрабіць гэта жыццё лепшым. Працаваў як вол, нічога за гэта не маючы. Цярпеў кпіны, панукі і здзекі, асабліва ад маладых ды ранніх, якія нічога не ўмелі рабіць, акрамя як кіраваць. Але ж ты кіруй, ды не дужа тузай. Тузалі, ды яшчэ як! Прысядзь, Паўлюк, на гэты пляскаты камень, бачыш, ён ляжыць, як ляжаў многа гадоў назад. Ці думаў ты, што прыйдзеш сюды калі-небудзь у такім настроі? Паплач, Паўлюк, паплач. Пашкадуй сябе. Бо не дужа цябе ў гэтым жыцці шкадавалі. Сцёбалі, паганялі — хто як мог. Жыць вучылі. Ты хацеў гэта жыццё зрабіць лепшым, а яно рабілася багацейшым ды горшым. Хто зразумее цябе, хто пашкадуе? Жонка? Гануля пашкадавала б, ды няма яе даўно. Дачка? Не. Дзеці тады пачынаюць разумець бацькоў, як самі дажываюць да іх гадоў. І то не заўсёды. Можа, Віцька Насос, якому ты столькі дабра зрабіў? О не. І старшыня не пашкадуе. Яму ты — што костка ў горле. Паплач, стары.

Паўлюк сядзеў на камені, слёзы самі набягалі на вочы, перашкаджалі глядзець на знаёмы краявід, на вёску. Вялікая стома навальвалася на яго.



# *Мар'ян Дукса*

## ШКАДАВАННЕ

Скрозь тоўшчу часу позірк пралятае,
імкне душа — рассоўвае смугу...
Над продкамі вісіць бяда густая,
але нічым я ім не памагу.

Маё бяссілле мне самому збрыдзіць,
вось кінуся — ў стагоддзі пабягу...
Табун чужацкі наш чабор капыціць,
але змяніць нічога не магу.

І блякне на маіх вачах геройства,
фанфары глухнуць, як пачую плач.
Ды я фальшывы сцяг братазабойства
не вырву з рук, люд колішні, прабач.

Тыран шалее ў акружэнні зброду
і гне народ свой стомлены ў дугу.
Я спачуваю беднаму народу,
але змяніць нічога не магу.

На папялішчы слёз і шкадавання,
як пагарэльцу, мне смактаць тугу.
Няма збавення, як няма вяртання.
Нічога перайначыць не магу.

Не адмяню я ўсе былыя церні.
Я пад світаннем заўтрашнім хаджу.
І я ў сумленне, нібы ў звон касцельны,
удару словам — можа, разбуджу...

■

*Памяці Жэні Янішчыц*

Зялёны ліст сарваўся долу,
яшчэ такі зялёны ліст.
Зямнога лета мерны свіст
яшчэ звінеў, гусцеў наўкола.
Такі ўжо лёс, такая доля,
ёсць дно ў адпушчаных хвілін...
З паверха верхняга галін
зялёны ліст сарваўся долу.
Чаму сарваўся? Стала зімна,
дрыготка, вусцішна ўначы?
Балюча стала, хоць крычы?
Увесь не ўлазіў боль у гімны?
Туга глушыла трапятанне?
Цяжэй было вясну гукаць?
Чым позняй восені чакаць,
мо лепш паклікаць развітанне?
Хто нам, адкуль прарочыць выйсце,
заве душу ў нябесны сад?
Шуміць пад знакам горкіх страт
астатняе жывое лісце.
Яно чарговы дзень вітае
з паверха кожнага свайго.
Але прыслухайся: ў яго
ужо мелодыя не тая...

## АРХІВЫ

З начы на паліцы ўсё цэдзіцца змрок,
няўпэўнена выблісне промень пужлівы.
Узлёгся на дзверы пудовы замок.
Зацятыя, кашляюць пылам архівы.
Ляжыць анямела ў сваім забыцці —
аглухла, ці што, папяровая маса...
Спрабую праз дзверы як-небудзь прайсці
і ўсю прачытаць біяграфію часу.
Хто хоча мой час ад мяне утаіць,
на вечныя векі заперці ў камоду?..
І з віламі д'ябал штодзённа стаіць,
расставіўшы ногі свае, ля ўваходу.
Худы ён і страшны, як вобла, сухі,
апёрся спіною кашчавай на дзверы.
— Прапусціш?
— О не! За дзвярамі — грахі...
Грахі! І ніякія там не паперы!

Найлепей убок адыдзі, баламут!
З вачэй прападзі ты, пакуль яшчэ пекны...
Таму што чытальная зала не тут,
за гэтым замком — канцылярыя пекла.
Не ваш ён, а наш — гэты сцішаны сховў,
тут працы яшчэ не на год, а на
дзвесце...
Класіфікацыя цяжкіх грахоў
яшчэ не закончана. Рана — не лезьце!
Пакуль не крануся я з месца свайго.
Тут лічаць грахі. Нам яны — як каралі!
Асобныя вашы патомкі — ого! —
Спажыва для нас. Столькі дроў наламалі!

■

Асенні дзень сышоў у блізкі лес,
і шчыльны змрок на вёску асядае,
нібы аўчыну накідае спрэс —
і выхаду зусім не пакідае.
І лямпачка на вулічным слупе
пяць год назад ужо перагарэла.
Конь змучаны пад брамкаю храпе,
рыпіць хамут, ад шыі замакрэлы.
Зрэдзь галасы чуваць то тут, то там.
Аслеплі вочы: чалавеча, дзе ты?
Льюць малако пахучае катам
і нешта прыгаворваюць кабеты.
Як родны дом, ім гэта стала глуш,
і гэта ноч — ні месяца, ні зорак.
І толькі ззянне ад сыноўніх душ
плыве здалёк на восеньскі падворак.

## РАЗБУРАЛЬНІКІ ГНЁЗДАЎ

Больш не скокне ў гняздо,
у гняздо не залезе.
Плача,
страціўшы хатку маленькую, дрозд.
Вы хавайцеся, птушкі,
бо ходзяць па лесе
без сумлення-душы
разбуральнікі гнёзд.
Іх страшэнна не любяць
у нашым народзе —
тых малых дзікуноў,
што свой ганьбяць узрост.
А калісьці былі яны
нават у модзе —
у высокіх кругах —
разбуральнікі гнёзд.
Недазволены плач
уздымаўся пад зоркі,
з хатаў пер'е ляцела
на тысячы вёрст.
Назаўжды, назаўжды
астывалі падворкі,
калі там пабывалі
разбуральнікі гнёзд.
Колькі людцаў пакутных —
па снезе, па снезе —
у сібірскую далеч
або на пагост...
З цягам часу бывае
зацесна у лесе
пасталелым ужо
разбуральнікам гнёзд.

■

Аж прыцемкі наўкруг.
Ні дзень ні ноч.
Дзьме бура у шматлікія свісцёлкі.
Вятры віхураць пругкія наўзбоч
і круцяцца, як вострыя свярдзёлкі.
Завальваецца дружна свежы след,
і топяцца гасцінцы і дарожкі.
Раз'юшыўся на міг нябесны свет,
людзей пастрашыць вырашыў хоць трошкі,
патурбаваць бяспечных ездакоў,
хоць тут над імі справіць перамогу.
Як тэрарысты снежныя, з бакоў
ускокваюць сумёты на дарогу.
Пуховы ляжа на асфальт насціл —
і над маторам павісае кара.
І сотня конскіх утрапёных сіл
зрухнуць не могуць дымную пачвару.
Былое, вецер, ты не варушы,
мы за яго пакаяліся горка.
У нас надзея цвеліцца ў душы:
з табою мір наступіць за пагоркам.

■

Калі заціхае завея,
уляжацца выдзьмуты снег,
а ветру супыніцца бег —
лагода над соснамі спее.
І сонца зірне з паднябесся,
спакой пасылаючы ўсім.
І тут жа, натхнёнае ім,
жывое варушыцца ў лесе.
Мільгае, як рыжая знічка,
слізгаючы ўніз па кары,
каб зноўку з'явіцца ўгары,
вавёрка пад голас сінічкі.
У дзятла з'явіліся шанцы
на працу, і гэтаму рад —
нібы перайшоў на падрад,
і трэба спяшацца, спяшацца.
Каб выканаць місію роду,
напружвае сілы свае,
крутым капытом дастае
лось марную зелень прыроды.



## ДОНАРЫ

Завяў бы я, бы кветка ля шашы,
і даканала б сонная знямога,
калі б не вы, о донары душы,
калі б не ваша збоку дапамога.

О маці, сіл дай пераплыць раку,
Хоць вобраз родны прыцемкі схавалі.
Мяне вядзеш і сёння за руку,
з усмешкаю
ускідваеш на хвалі.

Сябры мае, нязваную бяду
я ля парога стрымана страчаю.
Пакуль са мною вы, я не пайду
па хісткай кладцы хмельнага адчаю.

О птушкі галасістыя, няхай,
мой сад надзей няхай сабе патухне,
пакуль даносіць шчабятанне гай,
мой голас-верш ніколі не заглухне.

О сонца запаветнае, свяці,
не дагарай над галавой заўчасна.
Пакуль ты ёсць — не восень у жыцці.
І сад цвіце,
і дыхаецца ясна.

■

Усё часцей сябе
суцешваеш са скрыпам —
патрэбных слоў няма,
былы ідэаліст!
І моўчкі пастаіш
каля паштовай скрынкі,
трымаючы ў руках
свой старамодны ліст.
І самі па сабе
з'яўляюцца пытанні:
што хочаш ты пачуць
з далёкіх берагоў?
Ці дойдуць да цябе
глухія прывітанні
ад колішняй травы,
ад леташніх снягоў?
Хто возьме гэты ліст,
што сёння ў свет паскача —
шуфляда ці вядро
таропка заграбе?
Занятая сабой,
заўжды маўчыць удача.
Не хоча лёс благі
расказваць пра сябе.





*Вячаслаў Стома*

## РОДНЫ КУТ

Там, дзе ручэй карэнні лашчыць,
Дзе клёны збіліся ў гурток,
Як мой далёкі ціхі прашчур,
Спыню свой крок.

Тут песня жаўранка ліецца,
І дні бягуць,
як той ручэй.
І так і ёсць, мне не здаецца,—
Тут сонца свеціць найярчэй.

Сцяжыну ранкам будзіць маці,
Красёнцы павукі снуюць.
Тут у старой знаёмай хаце
Наноў маснічыны пяюць.

Зялёнае гуляе рэха
Сярод загонаў маладых.
І колькі б земляў ні аб'ехаў,
Той кут з табою назаўжды.

На небакраі залачае,
І даўні сніцца зноў маршрут.
Хоць сам адсюль ты ад'язджаеш,
Ды сэрца застаецца тут.

■

Спее сярод лугу цішыня,
Сіні плёс ракі размыў аблокі.
Марыўна мігціцца далягляд,
І відаць на многа вёрст далёка.

Весялее малады пагляд,
Адступаюць крыўды і самота.
Ты сярод прыроды не адзін,
І яна не церпіць адзіноты.

За роўнаю сцяной спакою
Застыў стары лясны гушчар.
Нібыта чараўнік рукою
З ягоных плеч узяў цяжар.

Струну нацягваюць сініцы,
Ласіны замірае крок.
І, нібы жах старой цямніцы,
Спускаецца кудлаты змрок.

## ВЕЧАР

Пакацілася зорка да зоркі,
Знікла далеч у дзіўнай ціхве.
Расяная калючая золкасць
На сцяжыны і травы плыве.

Цінькне недзе трывожна сініца,
І асінавы ліст зазвініць.
Ты у вечар акно адчыні,
Каб магла і душа адчыніцца.

Там за вокнамі цвет адкіпеў
І пялёсткі на росах расталі.
Хай плыве вечаровы напеў
На шчасліва-задумлівай хвалі.

З-пад салоўчынага крыла
Выйдзе ранак і гляне вясёла.
І аслепне увесь ад святла
Закалыханы песняй пасёлак.



## УСПАМІН

Шэрая далеч.
Такія ж аблокі.
Дожджык паўдня захіне.
Вецер блукае каля затокі,
Ён і мяне не міне.

Недзе юнацтва зусім недалёка.
Ці не яно па сцяжынцы бяжыць?
Шэрая далеч.
Такія ж аблокі.
І цішыня валунова ляжыць.

Час прамільгнуў, нібы сіняя хмарка,
Толькі імя засталося адно.
Свеціць і сёння мне звабна і ярка
Недзе ў зарэччы чужое акно.



*Леанід Калодзежны*



**КАРОТКІЯ АПАВЯДАННІ**

# РАЛЛІ
# ПЯШЧОТНЫ ДУХ

Улавіў яго адразу, як выйшаў з будынка.

Трывожыў ён і калі крытая брызентам машына пыліла выбоістай прасёлкавай дарогай. Тонкі і адначасна стойкі водар не адбівалі ні мускус зброевага масла, ні церпкі пах бензіну.

Неспакойна Андрэй плюскаў вялікімі сінімі вачыма, соп кірпатым носам.

— Радавы Гулевіч! — зычна паклікаў белабрысы пры кволенькіх рудаватых вусіках лейтэнант Полаз. — Здарылася што?

— Не-э, — скамянеў Андрэй.

— Не занядужаў?

— Здаровы.

— Чаго ж трубіш?

— Люблю музыку.

Той-сёй з салдатаў выбухнуў рогатам.

— Чым бы дзіця ні цешылася, абы не плакала, — пакпіў хтосьці. — Няхай іграе.

У рове на стрэльбішчы, куды прыехалі, пах ані не аслаб.

«Дзіва! Ці то насланнё?»

— Гулевіч! — развеяў задуменнасць Полаз.

— Я!

— Гатовы к заданню?

— Ага, — праставата адказаў, потым спахапіўся, выцягнуў шыю, адчаканіў: — Так точна!

— Тады — заняць рубеж агню!

Цвёрдым крокам рушыў да пагрудка. Падступіў, укленчыў, лёг.

Звычайна цэліўся мала. Страляў імгненна, ледзь мішэнь датыкалася мушкі. Зараз такога не атрымлівалася: бялюткая пасма восеньскай павуціны, якая аблытала няскошаную, цудам уцалелую метлюговую быліну, трапалася далекавата перад ствалом.

«Прамажу! Не пацэлю!» — акрапілі лоб і крануліся яршыстых броваў, пацеркамі павіслі буйныя гарошыны поту.

Дыхнуў разкаваты ветрык. Шаўкавінне сутаргава трымкнула, адарвалася, нізка паляцела.

---

Мал. **А. Карповіча.**

«Цяпер не падкачаю!» — зарадаваўся.

Хоць аддавала лёгка, плячо ўсё ж уздрыгвала. Па ім няцяжка было падлічыць колькасць выхалашчаных патронаў.

Пасля пальбы ўвушшу звінела ад неўтаймоўных конікаў.

Яр запоўніў удушлівы сіваваты гар. Не прападала і таемная духмянасць.

«Няйнакш, вярзецца?! — спалохала Андрэя. — Так і звіхнуся скора!»

Прамчаў рахманы свежачок. Данёс слабы, скрадзены пагоркамі і кучматымі хмызамі, рокат.

«Трактар!.. Арэ трактар... папар узнімае! — навастрыўся хлопец. — Гэта ж ралля чамадурыць. Сам вясну і дзве восені зарульваў і не разабраў».

Схамянуў басок Полаза:

— Малайчына, Гулевіч! Кучна паслаў кулі! Ніводнай не змарнаваў! Хлёсткія далоні сяброў апяклі спіну.

— Малаток, Андруха!

Закарцела падыхаць мляўкай хмельнасцю восеньскага поля. Стуліўся, пабрыў прэч. Пакараскаўся схілам.

— Адшпокаў? — стрэў дазорны.

— Ці доўга?

— Падмяніць выбраўся?

— Не — паветра дыхнуць.

Трактар шпігаваў тлустымі тоўстымі скібамі заялаўленае канюшынішча. То знікаў, то вытырквäўся, асляпляльна бліскаючы зіхоткімі тракамі, разварочваўся.

Баразной хлопец прадыбаў трохі, затым цюпнуў, затаптаўся.

— Стоп! — памахаў.

Гусеніцы зрабілі абарот і знерухомелі.

— Ну? — паказваючы няхватку зуба, высунуўся год пяцідзесяці з мазутнай плямай ля вуха мужчына.

— Перадыхні, баця!

— Не змарыўся яшчэ.

— Спяшаешся?

— Прахалоджвацца не люблю, — прашапялявіў араты і дапытліва зіркнуў: — Дзела маеш? Бабахаеце вунь. Можа, патрэбен? Гавары. Памагу!

— Не турбуйцеся! — пачырванеў Андрэй. — Пакурыце... Дай закурыць! — замармытаў.

Трактарыст прыглушыў матор, выткнуў крываватыя ногі, гоцнуў далоў.

— На, — працягнуў замусолены пачак. — І мне дастань.

— Трымай!

Над галовамі, над шапкай-блінцом і зорчатай пілоткай паплыў пасмачкамі табачны дымок.

— Варочаеш? — цмыгнуў цыгарэту і пхнуў кірзачом уздыбленае дзярно адзін.

— Пара, — цвыркнуў другі.

— Пад бульбу, відаць?

— Угадаў.

— А не глыбока?

— Для ярыны і астатняга — канечне: мяльчэй след.

— Ведаю, — буркнуў малады.

— Механізатар? — скасавурыўся старэйшы.

Хлопец ямчэй шмаргануў аўтаматную паску.



— Салдат.

— Быў, пытаю.

— А не бачна?

Андрэй прагавіта зацягнуўся напаследак і размашыста шпурнуў бычок, расцёр абцасам.

— Слухай! Дазволь праехаць, га?

— Сверб забраў?! — зазеўрала чарнатой шчарбіна. — Ссумаваўся?

— Здаецца.

— Не развучыўся ж?

— Паспрабую.

— Лезь!

Гучна Андрэй ляснуў дзверцамі, наважыў сесці, аднак перашкодзіў аўтамат.

— Замінае зброя?

— Не, — мацней прыцiснуў варанены метал.

Трактар ліхаманкава затросся, загурчэў, плаўна крануўся.

«Гэ-гэй, дарагі!» — наструніла Андрэя.

Памроілася, быццам бы туга напіналіся і трашчалі непадатлівыя сакоўныя канюшынавыя каранішчы, падалося, акурат з-за іх пругкасці дробна-дробна торгаўся сталёвы волат.

Баючыся схібіць, глядзеў уважна ўперад. Нарэшце не вытрымаў, крутнуўся. Ззаду ўбачыў роўную раллю і ўпачатку загона ўсмешлівага шчарбатага трактарыста.

# ЗЯМНЫЯ СОНЦЫ

Мала-памалу цёмна-сіні палог напінаўся тужэй і тужэй. Неўзабаве накволіўся, паліняў, прахудзіўся.

Акурат віжавала: будзе пагода альбо не, наваколле стаілася, замерла. Парушалі цішыню толькі хрыплыя крыкі прырэчных драчоў ды гулкае поканне цяжкіх слязін расы.

Залачала краднем. Але, як бы ноч ні супраціўлялася, ні жадала пратрымацца даўжэй, нядаўні густы морак бляк, шарэў, спакваля ападаў. Праз яго рэдзіва далей і выразней пазначаліся шаты сонных дрэў, дахі, асобныя будыніны.

Неспадзяваны і наўздзіў моцны раздаўся з-пад паркана, зацененага нерухомым панылым сланечнікам, кароткі трэск: пы-ык! А пазней тое ж самае паўтарылася двойчы. Цікава! Дзіўны гук! Можа, зноўку пачуецца? Можа, выдасць сябе? Не. Дарэмна. Не абазваўся.

Пабарвавела неба. Ачысцілася, стала празрыстае паветра.

Затрэпалі крыллем, загарлалі вяшчальнікі пеўні: ку-ка-рэ-ку-у — дзень, дзень, мауляў, прачынайцеся ўсе і абуджайся ўсё, маўляў, сустракайце сонца!

Не распаўся хор, іглістыя промні пранізалі пунсовую бездань, абліваю-

чы яснюткай чырванню, прашылі макавіны ліп. Амаль адначасна велічна выплыла свяціла. Цяпер узняўся грай. Угары зацурчэлі, заліліся жаваранкі, шумна завалтузіліся, радасна зачырыкалі вечна безжурботныя вераб'і, забуркавалі галубы.

Не паспела ўзнесціся сонца — каля загарадзі заззяла яшчэ некалькі зіхоткіх сонцайкаў.

Э-ге! Дык вось яно што! Вось хто досвіткам падаваў незразумелыя знакі! Гэта ж тварыліся таемствы — лопаліся тугія кашалі сланечніку.

Сонца вышэла. Празраваў, вытрэшчваўся сланечнік, круцей задзіраў агністыя галовы, суправаджаў нябеснага брата. Ад натугі, ад сумлеву чорна-залацістыя пляскатыя абліччы абсыпаліся драбнюткімі кропелькамі нектарнага выпату.

Сугрэвам сланечнікавыя каравай наведала бесклапотная мушка-зелянушка. Спікіравала, прабегла побліз язычкоў-пялёсткаў. Знерухомела.

Скуль ні вазьміся, прыкуляўся франтаваты матылёк. Сеў, паварушыў вусамі і таксама застыў.

Адчыніліся веснічкі. Выпырхнулі хлапчук-шкаляр і дзеўчанё гадкоў трох-чатырох. Дурасліва загалёкалі. Заўважылі сланечнік — спыніліся, акруглілі вачаняты, знямелі.

— Мам... мама! — схамянуўся канапаты шалапут. — Хадзі скарэй к нам!

— Бяда якая? — даляцела з-за хаты.

— Не.

— Чаго ж?

— Глянь... паглядзі! Паглядзі!

— Ну-у? — абшчаперыла шула русявая ў лёгкім безрукавым пярэстым халаціку карычнева-смуглая маладзіца.

— Вунь сонейкі зямныя!

— Скажаш.

— Многа сонейкаў!

— Дзе?

— Пад дашчанікам нашым.

— Сонейкі... апусціліся сонейкі! — заскакала, запляскала далонькамі малая.

— І праўда! — прыжмурылася жанчына. — Харacтво! — бліснула роўнымі зубамі.

— Мам, мам! — узрушыла хлапчука. — Можна пакратаць іх? Га?

— Не, сынок.

— Хоць ледзь-ледзь!

— Сонейкамі любуюцца, дзетка.

— А я хачу! — завабіла дзяўчынку.

— Нельга, мая рыбка. — паспрабавала адгаварыць мама.

— Дай, дай! — захныкала неслухмянка.

— Апячэшся! — зрабіўся сур'ёзны мамін твар. — Сонейкі ж — гарачыя, дакрануцца страшна!

Дзятва скасавурылася, змоўкла.

Да зазыўных ясных мядовікаў прыблудзіў куртаценькі, бы вузел, чмель. Следам завіталі тры пчалы. Руплівыя замітусіліся, зашчыравалі.

Марудна ішло з усходу на захад сонца. Туды ж няспешна паварочваліся лупатыя кругі.

Іх палкія позіркі ззялі, пакуль яно не схавалася.







Раніцой першы сюды прынёсся чмель. Пасля прымчала мушка, прыпырхаў матылёк, аб'явіліся пчолы, і не тры, а дзесяць-пятнаццаць.

Асцярожна віскнулі варотцамі дзеці. Здранцвелі супраць паркана. Зладзеявата зазмоўнічалі.

— Пачакай! — шэптам загадаў брат сястрычцы і крутнуўся, мільгануў белай макаўкай.

Завадатар прыпёр табурэцік, паставіў, рыпнуў, зажыгаў нажом. Спрытна адчыкаў адзін, два кашалі. Падумаў, падумаў — шахнуў і астатнія. Чмель, пчолы разгублена загудзелі. Павіліся трохі, паснавалі і зніклі.

Больш яны не паказваліся тут.

Наступныя дні, хай смяялася сонца, хай, шчыльна захмаранае, нябачным плыло, сланечнік па-ранейшаму скіроўваў за ім свае хлапяныя, шырокія зрэзы-раструбы.

# КРЫЎДА

— Змітрок, а Змітрок?

— Чую, Прося. Не аглух.

— Ляжыш?

— Печ грэю.

— У — кот! А я — азызла. Ледзь прытупала. Ото ж надвор'е: сівер, завея. Хоць носа не вытыкай. Халадзеча — душа дубянее. Дрэнна птушачкам, дрэнна звярам. Не пагінулі б.

— Зябка дужа?

— Не пытай. Ні верабейкі, ні сінічкі не відно. Патуляліся гаротнічкі.

— Мой жа Лёшка павінен прыкаціць. Як прыджгае? Яны ж, гарадскія, не апранаюцца цёпла. Вечна фарсяць. Не абмарозіўся б.

— Не млей, Змітрулька. Дарэмна. Не хопіць ліхаманка апрычніка твайго.

— Няхай жа.

— Не пакажацца любімчык.

— Думаеш? Чаму?

— Знайшоў Іваньку! Патрэбен бацька яму. Шылам не выпараш паршыўца.

— Не гані ваду пад гару!

— Пабачыш.

— А-а, сціхні! Знахарка. Навучылася каркаць. Не насоліш — не жыва. Адкуль узяла?

— Сарока настракатала. Часта, скажы, летам гасціў наследнічак?

— Значыцца — не выпадала. Часу, значыцца, не меў.

— І зараз шыш выберацца. Ахвота дрыжыкі прадаваць. Хто вораг сабе? Не прыедзе.

— Паспрачаемся?

— Кінь, кумок.

— Віляеш? Многа там націкала?

— Вечарэе.
— Няўжо?!
— Прабег аўтобус. Не будзе Ляксея.
— Маўчы! Слухаць не хачу!
— А бо... а бо! І не варта! Не яршыся, міленькі. Супакойся! Урэдна табе. Раскіпяціўся. Сын не аб'яўляецца, а ён суседку спавядае. Не па кані — па аглоблях хвошча. Пераксціся, чалавеча! Ляксейку лупцуй. Выпесціў уцеху. Слаўная падмена!
— Заткніся, качарэжка старая! Не гань Лёшку. Лёшка не раўня іншым!
— Хваліў цыган кабылу.
— Чым калоць вочы людзям — сваіх дзетак прыгадай.
— Хрэн не саладзейшы за рэдзьку. І мае — цацы. Чацвёра вырасціла. А пад бокам — ніводнага. Разляцеліся. Скалей — піць не пададуць. Прыдаліся мы ім. Вунь Хрысцінін Славік. Склала маці рукі, дык не прыскочыў. «Маланку» прыслаў: смуткую. Цьфу! Чужыя пахавалі. Ці ета семя? Вырадак ета!
— Цень наводзіш, баба. Далёка Славік. Між гор блукае. Геолагам працуе. Камяні шукае нейкія. Не вырвацца адтуль.
— Доўга самалётам? Не зміргнеш — прымчыць.
— У тым то і дзела — не мог верталёт прыняць: туман замінаў.
— Не замаўляй зубкі. Выгароджваеш адступніка. Кроўны такі. Сорамна.
— Чаго, прызнайся, прыпёрлася? Язык засвярбеў?
— Ссумавалася.
— Пасварыцца закарцела?
— Есці прынесла.
— Дзякую.
— Панашчыся спярша. Запасціўся.
— Насыціла. Аж распёрла. Ведзьма! Не зайздрошчу Ціхану. Без пары ўкалахала мужычка. І мяне ўгробіць рашыла?
— І цябе даканаю. Накармлю спачатку. Капусткі во са шкваркамі наварыла. Пакуль не ашчалачала — пасёрбай.
— Сама еш.
— Паспытай.
— Адстань, назола! Ссадзіла б лепш. Дапамажы спусціцца. Надакучыла скурчаным гібець.
— Не трызніш, дзядулька? Не ўтрымаю ж. Абодва грымнемся. Накрышым дроў.
— Жывот увярэдзіць баішся?
— Пуп развяжацца. Гамон нам.
— Хвакт — вычхаліся.
— Асабліва ты, галубок. Не пазнаць. Зліняў. Суткі галадаў. Глыні. Паздаравееш.
— Наўрад.
— Каўтні, каўтні.
— Не лезе.
— Прысілься.
— Адчапіся!
— Гора чубатае.
— Закурыць бы.
— Каму?



— Сіваму каню.
— Здаецца ж — не чамадурыш.
— Семнаццаць... не — васемнаццаць зімаў не пІпчыў.
— Якая ж муха цяпер укусіла?
— Пацягнула. Заманулася — не ўтрываць.
— Вытвора.
— Перад смерцю кожнаму нязвыклага хочацца.
— Сплюнь тройчы!
— Сканаю.
— Ачумеў?!
— Не, Праскоўка. Прыйшла кашчавая. Паглядзі — касой паблісквае.
— Дзе?
— Ля вушака.
— Блюзніцца ета.
— Каб жа. Я не раз паміраў.
— Калі?
— Тысячу гадоў назад.
— Загаворваешся, Змітрачок!
— Не верыш?
— Лоб не гарачы?
— Памацай.
— Кепска, мусіць?
— Наадварот — добра: лёгка, лёгка.
— Можа брыгадзіра патурбоціць? Патэлефоніў бы. Доктара выклікаў.
— Лішне. Мне б... Лёшку. Цыўкні, колькі набоўтаў насценны?
— Вокны пасінелі.
— Выходзіць — прашмыгнула машына?
— І след прастыў.
— Шкада!.. Ах, сын, сын!..
— Не журыся, Змітрулька. Заўтра тэлеграму дам. Прычэша. Даўно ж зазіраў. Мяцеліцай першай бытта? Га? Ку-у-мок?! Вушы заканапаціла? Не палохай! Абзавіся!.. Цяжка? А бо... а бо! На кісяльку журавінавага! Узбарацца б толькі. Надта ж полік высокі... Ага, узгрэблася. Ну? Анямеў? А-а-а, ты ж не дыхаеш! Здурнеў! Вясны б прычакаў! Што ж рабіць? Сыну паведаміць? А куды? Ай, ай!

# САЧНЕЛІ ТРАВЫ

З-пад дугі Борзды ўбачыў коней і заржаў.
— Ш-ша, няўрымснік! Угамону табе няма! — жартліва хвасянуў паўз спіну змоткам лейцаў рыхлы, круглатвары, усмешлівы ўладар, які штодзённа запрагаў і распрагаў яго.
Жарабок замёр. Краднем бабліскаў бялком і дробна здрыгануў мяккімі гарачымі ноздрамі: вось-вось рушыць да стомленых конікаў, да рахма-

ных кабылак, да прапахлых матчыным малаком, дураслівых сысункоў; спыніцца каля рыжай, гладкай, даўгагрывай, закахана-адданай, ласкавай Мальвы, фарсіста закружляе, затанцуе.

Няспешна ўладар зняў хамут, сядзёлку. Борзды перасмыкнуў скурай, хрумснуў абрыдлыя цуглі, памкнуўся ўперад.

— Выбачай! — утрымала валасатая рука. — Сёння, мілок, нельга.

Нецярпімец няўцямна змераў позіркам выган. Змеціў прыгожую Мальву. Перад ёй, выгінаючы шыю, гарцаваў маладзенькі Віхрык. Смела, нахабнік заігрываў. Борздага скаланула. Яму хацелася пудnуць таго і турыць, турыць ад вабнай залёткі. Ён задраў галаву, тузнуўся.

— Не сваволь! — астудзіў вокрык. — Гайда! — скрыгнула аб зубы жалеза.

Уладар разяпіў стайню і пацёг сілком.

Завалок, коратка, каб не сарваўся, прывязаў, пляснуў далоняй па клубе і задрыбаў абцасамі. Борзды абурана задратаваў. Роспачліва заглымзаў сухую, цвёрдую, бы костка, бярозавую перакладзіну.

Вечаровую цішыню страсянуў тупат і фырканне. То накіроўваўся на папас табун. Упершыню адпраўляўся без Борздага. Залівістае і радаснае данеслася ігатанне Віхрыка. Адурманены свабодай, зух, відаць, віўся вакол Мальвы; гарэзаваў, дамагаўся ейнай прыхільнасці. Борзды ўскіпеў — гнеўна сапнуў, колькі было моцы, рагатнуў, застрыг вухам.

Пакрысе ўмеркла. Вузенькае незашклёнае акенца захліпнула ядраная свежасць. Павеяла адскочанай роскай і п'янкім чамадурам лугу.

Далёка-далёка шчабоўкнуў салавей. Тут жа цяцёхнуў другі. Завадатар, быццам баяўся асароміцца, узяў двума-трыма каленцамі болей. І пайшло.

Буянілі спевакі і ўчора. Толькі Борзды не слухаў — захапляўся нараві-стай Мальвай: забываючы пра яду, снаваў гогалем, блазнаваў. Чмурыў, непрытоміў густы водар меданосаў. Не менш тлуміла і бунтавала кроў блізкасць сяброўкі.

Неаднойчы шчасце адчайнага валацугі меўся папалавініць нахрапісты Віхрык. Важак заўсёды звярэў, адпужваў назолу. Раз нават злаўчыўся і ўкусіў. Праныра ўзвіскнуў, падбрыкнуў, садану раўніўца капытом.

Дзе юрок зараз? Пэўна, з Мальвай. Эх, апынуцца б там! Не даравў бы зялёнаму гарцуну!

Глушэла. Усталёўвалася зацятая немата.

Спакваля Борзды суняў пал, сасмірэў, панік.

Світанак абвясцілі імпэтныя пошчакі і вераб'іная валтузня пад дахам.

Раніца выпялегвалася звонкая, зыркая. Дасціпныя промні знаходзілі самыя маленькія дзірачкі.

Заявіўся гурт. Каторага куды разбіралі акрыялых рабацяг.

Апошнюю забрытвалі Мальву. Борзды скалануўся, прывітаў прыязна тую. Пракудніца павярнула гарбаносую храпу, нявінна плюснула вокам.

Незаўважна брыгадны двор апусцеў.

— Значыцца, выводзіць? — схамянуў знаёмы голас.

— Канечне. Прашу, дарагі. Прашу, — прараката ў дзярбучы бас.

Уладар шырока расчыніў дзверы, наўздзіў жвава падляцеў, адрывіста задыхаў.

Чысціня глыбокага неба, пагожая сляпучасць разанулі зрок. Палоннік зажмурыўся, падыбаў наўздагад.

Звыкся са святлом ускрай удзірванелага пляца супраць ліпы і ўгледзеў шчыльнае атачэнне людзей.

— Чаго чакаеш? — спытаў плячысты, у расхрыстаным сінім халаце брываcты дзяцюк. — Пачнем, — рыпнуў вечкам фанернай скрыначкі. — Прыступайце, — замільгаў скальпелямі, нажніцамі, пінцэтамі, зажымамі.

Угодліва ўладар матлянуў путам, прысеў.

Борздага затрывожыла. Борзды затросся.

— Цыц, халера!

Нягеглы вяртлявы мужчынка падаў уладару вяроўку. Уладар перагнуў яе, нашмаргнуў Борздаму пятлю, прасунуў канец між задніх ног, акруціў кожную ніжэй бабак.

— Ага!.. Так, так! Добранька! — гудзеў бас. — Цяпер — расцяжкі... расцяжкі!.. Гатовы? Тады бярыцеся, таварышы! Ухапіліся? Малайцы! Валіце!

Аж ёкнула селязёнка, Борзды бразнуўся вобзем. Мячыкам падгупнула ўгору сонца, раптоўна непамерна выцягнуліся постаці, перавысілі дупліcтую дзеравіну, падперлі макаўкамі блакітны купал.

Небарака напяў жылы, уздыбіўся.

— Падсякай... падсякай! — зароў сіні халат.

Жарабок зноў выцяўся.

— Прыціскайце, прыціскайце! — не моўк бас. — Дружней, дружней!

Усім цяжарам цела налёг уладар, здавіў горла, прахрыпеў:

— Патрывай... патрывай!..

Чыесьці каструбаватыя пальцы абмацалі пахвіну, залапалі непрыемна.

Неўзабаве вострыагонь прашыў нутро. Жарабок ірвануўся, аднак адчуў марнасць патуг, абвяў.

Ускараскаўся нязграбна. Страшэнна смылеў кут жывата.

Як праз туманную завесу, пазнаў аняволеную возам Мальву і, хоць дужа балела, звычна загагатаў.

Жоўта цвіў казелец, туга сачнелі травы, весела пырхалі матылькі, віліся мушкі.

# ЖАХІ НАВАЛЬНІЧНАЙ НОЧЫ

Зацята сек дождж. Брызент аж гуў. Лопат, шум закладвалі вушы.

Хоць доўгае крысо аблытвала ногі, аднак Арык трываў, бо пад калянным дзедавым плашчом затульна, а галоўнае — не страшна.

Клыпаў наўздагад. Асцерагаўся лішні раз адхінуць палу. Няхай жа вытыкаў кірпаўку — балюча асляпляла. Блакітныя сполахі рвалі цемрадзь, аблівалі празрыстай сінькай бухматыя дубы. Яны нагадвалі казачных асілкаў, якія, блюзнілася, варагуючы між сабой, вялі жорсткую бойку: скрыжоўвалі вогненныя дзіды, крышылі іх.

Аглушальна, зямля нат страсянулася, трэснула. Здалося, праламалі агромністым вострым мячом, раскалолі неба і са смачным выгукам — г-гэ-э-эх — праткнулі ім дол.

Хлопчык войкнуў.

— Спужаўся? — зашаргацеў мокры башлык.
Унук не азваўся.
— Дзіва — Ілля Грамавы калясніцу раскатвае.
Малы прыціснуўся цясней.
— Э, цябе ж, заяц, ліхаманіць! — абняла жылістая пяцярня. — Нягожа дрэйфіць. Саломку еш, а хвасон трымай.
Касахвошч не пераціхаў. Сцябаў і сцябаў. Грукатала, гахкала паўсюль.
Пэўна, падзейнічалі словы, а хутчэй зажадаў убачыць грознага Іллю, Арык пашырыў шчыліну.
Ззаду выпырскнулі жоўтыя пукі і затанцавалі, зашнарылі ўправа, улева. Мроілася, драпежная пачвара сунулася. Арыка скаланула.
— Ета — машына, — супакоіў павадыр. — Пашчасціла нам.
Прарэзалася выццё матора. Заміргалі фары. Стары зварухнуўся, узмахнуў рукой — стой!
Віскнулі тармазы. Разяпіліся дзверцы.
— Вазьмі, Лазаравіч! — сапхнуў дзед капюшон і падхапіў Арыка.
— Прашу, сусед, — ветла засончыла кабіна.
— Дзякуй! — зарыпела спружынамі сядзенне. — Ф-фу-у, адтупалі-ткі!
— Адкуль, Андрэевіч, познішся? — пацікавіўся гарбаносы дабрак.
— Сына адведваў.
— Гасціў?
— Нашчадка забіраў. Івану водпуск выпаў. Вось і ўдружылі мальца мне.
— І правільна зрабілі: жэўжык паветра чыстага дыхне. Тут неўзаметку падзябялее. Колькі ж яму?
— Многа, — крануліся парэпаныя заскарузлыя пальцы Арыкавага чубка. — Першы клас скончыў.
— Вялікі! — зазначыў вадзіцель. — Самы ягаднік. Дар'іны шалапуты вядзерцамі тралююць. Учора, казалі, мядзведзь папудзіў.
— Гіш! Не аб'яўляўся касалапы. І раптам — здароўце!
— З-за Гадзючага балота прыцёгся. Малінкі прывабілі.
— І не збаяўся чарцяка!
— Звярро цяпер нахабнае. Самалёты, верталёты, трактары, матацыклы. Прывыкла. Гаварылі, ласун еты каля Буркаўскага тракту шпацыраваў.
— Не накінуўся ж?
— Не. Пастухі лямант узнялі — змыўся.
— А я... а я не испугался бы, — ёрзнуў Арык.
— Герой! — пахваліў дзядзька.
— Я бы ему конфету дал. Мишки очень любят сладкое. Я, как бываю в зоопарке, всегда угощаю!
— Малайчына! — паказаў мужчына зіхоткія каронкі. — Кім жа клічуць арла такога?
— Ариком.
— Кім, кім?
Умяшаўся дзед:
— Арнольдам ета. Арнольдам Іванавічам. Я хацеў Андрэем ахрысціць. Даць імя бацькі свайго. Дык нявестка ўпёрлася: Арнольд і Арнольд!
— Гарадскія ё гарадскія, — падцяў губу шафёр.
— Вясковая яна.
— А во — брыдзіцца роднага.
— Ай, Лазаравіч, абязлічаліся дзеткі. Згубілі твар. Ні рыба ні мяса.



— А што б было, калі б птушкі песень сцураліся, ваўкі, лісы звычак выракліся?
— Неразбярыха была б.
Залюляны гаманой і гойданкай, Арык забіў паклоны.
Абудзіла штурханіна:
— До, галубе, начаваць! Прыехалі.
Гром палагаднеў. Але па-ранейшаму жудліва жвыгалі маланкі, вызалачвалі будыніны, дрэвы, платы.
Стрэла рухавая, павязаная квяцістай хусцінкай, у гарошыстай кофце і чорнай спадніцы бабуля. Засакатала. Пра маму, пра тату папытала.
Пасля старая мітусілася перад сталом, падсоўвала міскі, талеркі. Арык улоўліваў невыразныя галасы: тонкі і хрыпаты.
— Размарыўся... засынае саколік! Зараз укладу. Пасцельку толькі разбяру.
— Надумалася. Сена яго чакае.
— Не вярзі! Ложкі ё, кушэтка пустуе.
— Знайшла шчасце! Мілае дзела — пуня! Свежка, пахка!
— Ета — табе.
— І ён упадабае.
Не церпячы пярэчанняў, дзед згроб млявага ўнука.
Прадзугаў сенцамі, падворкам. Бразнуў засаўкай, падыбаў вобмацкам. Палез угору.
Ляжаў малы пластам гадзіну ці болей. Хроп, пасвістваў. Потым дрыгнуўся. Ускочыў. Імгненна скмеціў абрыў, парослы густым лесам, а непадалёку — дарогу, пакручастую, жаўлакаватым карэннем аплеценую, каменнем заваленую. Глянуў — дзеда заўважыў ля яліны. Хітравата пасміхнуўся той і шуснуў за ствол. Хлопчык — следам: куды ж ты?! Не прабег і пяці крокаў — ляскат запыніў. Зіркнуў — калясніца, запрэжаная тройкай коней, імчала. Ілля Грамавы тарахцеў. Гарбаносы, з жалезнымі зубамі. Угнуўся і пугай лупасіў стаеннікаў — гэ-э-эй, гэ-э-эй! Ворах праняў Арыка. Павярнуўся Арык і — уцякаць. Нечакана сапенне данеслася. Наганяў хтосьці. Ілля Грамавы, мусіць?! Лыпнуў праз плячо — не: мядзведзь. Пашчу разявіў. Здушана ўскрыкнуў хлапчук, гоцнуў убок і... пакуляўся потырч. Шмякнуўся аб гладкі, цвёрды і халодны спод, калена выцяў. Зморшчыўся, зашнарыў вакол.
Не ачомаўся — побліз утробна рыгнула.
«Медведь!» — цюкнула.
Пачулася жвяканне. Абдало гарачынёй.
— А-а!.. А-а! — не ўтрываў.
— Чаго... чаго, дурненькі? — захрумсцеў быльнік.
— Медведь, медведь!
— Не пляці!
Двойчы засаб над шыферным дахам трахнуў пярун. Вузенькае акенца, дзіркі ярка азарыліся. Цераз перакошаныя вароты мігнула бліскаўка, высвеціла высокую тарпу, драбінкі, курасаднік, жардзяную загарадку, паравешаную крутарогую галаву.
— Ачніся. То ж Красуля наша. Ох, парашутыст. Зрынуўся. Прыспічыла, знаць? Чаму ж не раскутырхаў?
Стары ўзнёс унука зноў.
Успаролі кукарэканне пеўня і сталёвы цокат. Жвавенька малы слізгануў уніз, шуснуў паўз адчынены каровін катух, вылецеў вонкі.

— Ну, выспаўся, Арык? — плюснуў ад дрывотні, дзе кляпаў касу, дзед.
Унук спанурыўся.
— Не зови меня так.
— А як жа?
— Андреем.
— Г-га?! — узняўся і застыў клявец. — Значыцца, Андрэем велічаць... Андрэем Іванавічам, ета?!
— Ага.

# БЕЛЫ БЭЗ

Двое сутак пастаяла цеплыня, як уздоўж абмежкаў, каля агароджаў вострымі пікамі выстраліў пырнік, узняла вушы рахманая, не надта пякучая крапіва, набухлі, раздаліся пупышкі вішанніку, разгатых, закараўленых пацёкамі вымлелай бурштыннай смолкі, сліў, шыпаватага агрэсту, парэчак, а маліннік дык наогул паказаў дзюбачкі кволых лісткоў. Скуль ні вазьміся, мухі зажвыгалі. Асабліва ройна віліся пры сонейку пад бярозамі вакол жалабкоў, па якіх яшчэ нядаўна кацўся салодкі сок. Нават прагудзеў узбуджана, пранёсся міма, мусіць, першы сёлета чмель.
Гонкі, бы вудзільна, з маленькай вераб'інай галоўкай, Тарас Гаварушка папраўляў занядбаны паркан: укопваў замест падгнілых паваленых слупоў новыя, мяняў патрухлелыя паламаныя жэрдкі, залатваў свежымі штыкецінамі праёмы. Ад заўзятасці градам каціўся пот, заліваў твар. Распараны, зняў шэранькі пінжак, сарваў шапку, увянчаў ёй кол. У клятчастай сарочцы, выпушчанай поверх караткаватых штаноў, тупаў, соп, мітусіўся, бліскаў круглай, не большай яечнага жаўтка, васковай лысінкай.
— Дапамагай бог, Пахомавіч! — крыкнуў сусед — шчупленькі Жэнька Шпак.
Тарас падскокнуў, цыўкнуў валавянымі вочкамі, тройчы сплюнуў, прабурчаў:
— А-а — пасобіць.
— Сам добра ўпраўляешся, — хмыкнуў Шпак. — Вунь крэпасць адштукаваў!
— Бельмы коліць? — уздрыгнуў Гаварушкаў падбародак.
— Гумару не разумееш? Хадзі, адпачні.
— Не выпадае асамблеі разводзіць. Пара грады рабіць. Заўтра мяркую радыску і моркву пасеяць. Угрэла-ткі.
— Ага. Прыгажосць! — цмокнуў Жэнька. — Залатыя дзянькі наступілі!
— Час.
— Лотаць во-во зажаўцее!
— Неўзабаве кароў выпусцім, — вёў сваё Тарас. — Зараўліся. Надакучылі хлявы. Траўку зачулі.
— Скора салаўі завітаюць! — быццам аглух Шпак. — Алешнік распусціцца — адразу прыляцяць.



— Стойлы апусцеюць — гной выкінем.
— Змяркання і досвіткі шчокатам захліпнуцца! Жыві і радуйся!
Гаманілі наперабой.
Неспадзёўкі ўгары затрэпаліся жвавыя матылькі. Аж слёзы навярнуліся, зіхотка замільгалі.
— Чысцюльчыкі, — расчуліла Жэньку. — Вясёлыя! Акрыялі!
— І пагібель не бярэ пошасць, — зморшчыў Гаварушка носік. — Недзе ж адзімавалі.
— Рана абудзіліся.
— Капусту не паторкнулі, а яны — гатовы.
Шпак не зважаў.
— Гавораць, калі спачатку белыя мятлушкі аб'явяцца — белымі булкамі ласавацца будзеш, калі стракатыя — чорны бохан займе стол.
— Пра хлеб — маўчу. А качана — шыш зрэжаш. Злыдні сажруць.
— Гэта — не капуснікі, — запярэчыў Жэнька.
— Скажы дурню — паверыць.
— Гэта — бяскрыўдныя стварэнні!
— Ведаеш многа, — зазлавала Тараса.
Спрэчку абарваў голас сухарлявай, вечна сярдзітай Шпачыхі:
— Яўгенька, а Яўгенька, прапашчая душа!
— Гу, Манечка!
— Абед стыне, лапатун!
— Бягу, бягу, кралька! — крутнуўся муж.
«Грамацей! — зіркнуў Гаварушка наўздагон і сплюнуў: — Ёлуп! Пустазвон!»
Знерухомеў з мінуту, затым здрыгануўся, пакрочыў гладкай сцежкаю — наважыў нутро астудзіць.
Прыкрытая драўляным векам бочачка бярозавіку стаяла ля дзвярэй. Вытрымліваў яго на прарошчаным аўсе. Напой апетытна кісліў, праганяў смагу.
Зачарэпнуў паўнюткую кварту і падпёр плячом вушак, аддудзіў губы — зрыхтаваўся цадзіць ды змеціў кажурынку і хацеў выплюхнуць змесціва. Аднак паашчадзіўся і ўспузырыў шчокі, дзьмухнуў, намацаў халодны абадок, прагна заглыкаў.
Змора прыцягнула да парога. Сеў, расслабіўся.
Міжволі ўвагу прыкаваў бучны куст ускрай гародчыка.
«Гіш, разросся! — усхапіла. — Добрую сотку акупаваў. Выкарчаваць дрэнь! К чортавай мацеры!»
Не раздумваючы, грэбнуў рыдлёўку і ледзь не склаўся папалам, дугою выгнуў худую спіну.
Арудаваў заюшна.
— Што творыш?! — ляснуў веснічкамі Жэнька.
— Аслеп? Выкараняю.
— Бэз?!
— Шчасце вялікае.
— Белы бэз?!
— Хоць чорны.
— Не губі!
— Лепш бульбу ўткну.
— Разбагацееш?
— Не тваё дзела! — псіхануў Тарас. — Адчапіся!
— Глумак!

— Шкада?
— Глядзець балюча!
— Далікатны, — чмыхнуў Гаварушка. — Вірлакі заплюшчы.
— Злітуйся, Пахомавіч, — папрасіў Шпак. — Не абкрадвай вясну! Пакінь бэз! Ён так цвіце... так цвіце!
— Адкрыў Амерыку.
— А пахне — учадзееш!
— Не заўважаў.
— Дарэмна. Я заўсёды любаваўся ім. У — хараство!
— Свой пасадзі. Чужым не цешся.
Відаць, усё тыя ж два прылуналі дзівосныя матылькі. Лёгка запырхалі перад Тарасам.
— Зноў вы? О, прывязаліся! Ату, поскудзь! — замахнуўся Гаварушка. — І хімікаты ж не ўхайдохаюць вас!
Напалоханыя, вестуны пагоды сіганулі ўверх.
Узнімаліся вышэй і вышэй. Хутка мігнулі апошні раз і прапалі.

# ВЕРАСНЁЎСКІЯ ВОГНІШЧЫ

Неба завалакла набрынялая вільгаццю шэрань. Пад ёй уздоўж шляху жоўта-аранжава-пурпурнымі то стромкімі, то прыземістымі вогнішчамі гарэлі купкаватыя ракіты, ліпы, лапушыстыя клёны, ірдзяныя рабіны.
Момант Мірон цешыўся яснотай, затым глянуў туды, дзе пры пагорку ўзнімалі вылежаны лён.
Прывезлі студэнтаў пазаўчора. Хударлявая, бы падлетак, звеннявая дала ўказанні, а дваіх прызначыла трасту грузіць.
— Я пайду! — узахвоціла Рыму.
— І я! — азваўся Мірон.
Вельмі падабалася старшакурсніца яму. Выпадку шукаў, каб загаварыць, апынуцца разам. І вось удалося.
Увіхаліся гадзіну. Пасля напарніца сцуралася — палец павярэдзіла. Замяніла яе кругленькая, пухленькая Марына.
«Наробіць клёцка такая, — сапсаваўся настрой. — Кот больш наплача».
Поле было за вёскай, за ровам. Раніцой, апоўдні і вечарам шэфы перасякалі зарослы вербнікам лажок. Ягоным спадам бруілася маўклівая рачулка. Перад шырокім мелкаводдзем, зацярушаным бурым прадаўгаватым лісцём. Рыма заўсёды агладжвала сінюю аздобленую мноствам замкоў-«маланак» куртачку, цеснаватыя джынсікі, мачала вастраносыя туфелькі і ўзвіскавала: «Міроньчык, перанясі — утаплюся!» Шчаслівец пунсавеў, браў гарэзу.
Каторы раз ужо сёння ён намацваў нагрудную кішэньку, азіраўся: не цікуе часам мымра тая, Марына? Даставаў пакамечаную паперку, разгортваў, варушыў губамі: «Прыходзь змяркаННем к руччу, к залацістай бярозцы».
Пасланне ўручыла звеннявая. Мірон здзівіўся: ад каго?! Паштальёнка торгнула плечуком: убачыш.
«Рыма... канечне, Рыма падсунула!»
Забыццё развеяў зычны вокліч:
— Мірык! Мірык!
— Ну што? — незадаволена схамянуўся.
— Гайда! — паружавеў Марынін тварык. — Не чуеш? Сігналяць. Машына падаспела.
Аж гульнулі жаўлакі, сцяў зубы. Унурыўся, таропка папраставаў напрамкі.
Снапы толькі мільгалі. Іх лавілі звеннявая і маладжавая, загарэлая калгасніца.
Шпурляў без перадыху.
Марына танцавала, падскоквала, але не магла дакінуць.
— Ой, вецер! — вохкала.
— А можа — не дастанеш.
— І высока.
— Хто ж гнаў цябе сюды?
— Сама захацела.
— Шустрачка. Адступі!
— Стомішся адзін!
— Пераб'юся.
Ямчэй ашчаперваў вышмуляваны далонямі вілачнік, падчэпліваў цэлую копку.
— Звар'яцееў!
— Не прывык цыркацца.
Завяршаючы воз, запарушыў вока. Заплюскаў. Пакацілася няпрошаная сляза.
— Засмяціў? — падбегла дзяўчына.
— Ат.
— Рэжа?
— Праміргае.
— Пакажы! — узяла белую насоўку.
— Перацярплю.
— Не выдумляй! — прыкрыкнула ўладна і скамандавала: — Нахіліся, дзядзя Сцёпа!
Воляй-няволяй прысеў.
— Яшчэ.
Прыгнуўся ніжэй.
— Добра. Цяпер замры. Так. Стоп! Лушпінка вунь трапіла. Во яна!
— Усё? — надакучыла гарбець.
— Зараз... зараз, — выструнілася чарадзейка і тут жа не стрымалася, выгукнула: — Ой, Мірык! Якія ж твае вейкі, бровы, валасы!
— Якія ж?
— У-у!
— Рыжыя?
— Не — прыгожыя! Чупрына ну... ну ў клёна — агністая!
— А мо ў дуба? — зазлаваў Мірон. — Здзекуешся?!
— Праўда... праўда! Век бы любавалася!
— Дурніца! Знайшла красюка. Кыш!

Сконам дня выбліснула сонца. Горача запалымнелі дрэвы, трава.

Дамоў крочылі, аблітыя чырванню.

Супраць плёса Рыма не забылася, заверашчала:

— Міронччык, вазьмі мяне!

Той падхапіў, не марудзячы.

Тупаў і нічога не заўважаў, апроч радзімкі ля скроні. Падмывала прыпасці да чароўнай крапінкі.

— Пусці скарэй — апяклася! — акурат выкрыла намер, турзанулася забаўніца. — Цікава: ці бярозка падпаліла твой чуб, ці ты бярозку чубам сваім?

Жартаўніца вывернулася, шаснула ўбок, праспявала:

Рыжы, рыжы, канапаты!
Не хадзі ка мне у сваты!
Не хадзі ка мне у сваты,
Бо ты рыжы, канапаты!

«Рыміна запіска! — загрукатала кроў. — Рыміна!»

Спешна ўмываўся, еў.

Вон вылецеў куляй.

Са святла цемра здалася густой, чорнай. Аднак хутка прызвычаіўся і ўгадваў абмуравелую сцяжынку, лужыны, вішнёва-слівовыя абсады.

Прымярэжаны веццем звешаным цень прыкмеціў здалёк.

«Першая заявілася!» — затахкала сэрца.

Постаць памкнулася насустрач.

— Даўно чакаеш?

— Мінут пяць, — парушыў цішыню танклявы галасок.

Мірон здранцвеў.

— Рыма?! — не паверыў вушам.

— Не, Мірык, — Марына!

Быццам аглушаны, хлопец запыніўся, знямеў, потым уздрыгнуў, крутнуўся, спатыкаючыся, шпарка пасігаў прэч калдобістым, узрытым кратамі, поплавам.





## *Агульджамал Чарыева*

### СТАРАЯ ПЕСНЯ

Гэты запіс даўняе песні...
Плач пакуты
кроплямі-нотамі
распавядае пра долю гаротную,
што ў гэтай песні наноў уваскрэсла.

Песня заслону часу ўздымае:
звон падвескаў... Смяецца вачыма,
уся ў рабоце, свой лёс вышывае
ніткай кахання і мары дзяўчына.

Вось далягляд празрыстым блакітам
усе караванныя сцежкі скаваў.
Плача дзяўчына па любым йігіту,
што ў небяспечны набег паскакаў.

Звонкі збанок абраніла на сцежку.
Згінуў йігіт на краі зямлі.

І вось тады прыйшлі — не суцешыць,
не супакоіць — сваты да радні.

Ды не змаглі ні адат, ні час
песню-туркменку забраць у нас.
Дзеўчына ў песні ачаг распаліла,
верыць: вернецца яе мілы.

...Так мелодыя распавядае,
быццам заслону часу ўздымае.
Дзеўчына праз вякі выглядае,
вечна йігіта чакае.

■

Скронямі дотык хвілін адчуваю,
мяккі, як сон.
Толькі холадна ў сне...
Раптам, бачу, побач блукае
шчасце маё.
(Ці здаецца мне?)

Ты ці не ты?
На якіх жа крылах
ты з юнацтва сюды прыляцеў?
Твар схуднелы. Усмешка застылая.
Чуб твой густы чаму парадзеў?

Што, як чужы, ты
стаіш на мяжы
часу, расстання, што нас падзялілі?
Мне, як маланцы, ў абдымкі твае,—
ды ад таго нас гады адвучылі.

Кроіць аднолькава
нас пакута.
Словы любові — комам у горле.
Толькі мо вочы вымавіць здолеюць:
«Сокал мой...»
«Горлінка...»

Мы — як стрэлы на цеціве,
што гатовы сустрэцца ў палёце
праз расстанне...
Калі ж гэта ў сне —
то не дай бог прачнуцца мне!



Дзякуй, мора, за ўрокі,
што ты давала.
Я хвалявацца вучылася
ў тваіх хваляў.
У сінюю бездань тваю безаглядна скакала,
хвалі ж мяне ізноў да сонца вярталі.

Мір вам, і горы,
і скалы цяснінаў глыбокіх!

Побач з вамі мізэрнасць сваю адчувала.
На паўдарозе спынялася са знямогі
і разумела тады, што слова «бейік»[1] азначала.

Вогнішчу-сонцу ў небе — маё шанаванне.
Ты — для кожнага імпульс жыцця найпершы.
Сонца і ноччу прагнуць нашы жаданні,
як несмяротнасці прагнуць і нашыя вершы.

Полю зялёнаму, травам зямным пакланюся.
Кветак агеньчыкі звабяць мяне за сабою.
У дні сумненняў я да зямлі прыхінуся
і навучуся велікадушнасці ці спакою.

Я не стамлюся тым цудам дзівіцца,
вы прасякнулі душу і долю.
Я — ваша прагная вучаніца,
мора і сонца, горы і поле...

■

Дзён аднастайнасць — як шэры туман,
нібы балота — душэўны стан.
Для радасцей, смутку — няма прычын.
Хачу хутчэй у жыццё ўцячы.
Ды недарэчныя ўсе спатканні,
іх няветлівыя вітанні.

Дзе — хоць адзін павеў цеплыні
ў тысячах сказаных слоў?
Што ж, выходзіць, не значаць ані
дружба, спагада, любоў?

Душа задыхаецца ў целе ўжо,
як цела — ў сукенцы чужой.
І ўсё ж
ідзеш насустрач чарговаму дню,
насустрач здарэнню, жаданню, агню.

Калі змяшаешся з грамадой,
з яе турботамі, барацьбой,
і—бураю той падхоплены ты —
ляціш, сам як бура, жывы, малады!..

---

[1] «Бейік» — вялікі.

*Пераклала з туркменскай мовы*
Любоў Філімонава







## *Мечыслаў Шаховіч*

### У ДЗЕНЬ ПЕРАМОГІ

Не астыла і ў сорак пятым
Агнявое дыханне франтоў.
І суседнічаў побач са святам
Свежы боль пахавальных лістоў.

Будзе ў сэрцах жыць адгалоссе
Той вайны, што не йдзе ў забыццё...
Даспявае над болем калоссе,
Што завецца проста — Жыццё.

### СТУКАЕ Ў СЭРЦЫ ПОПЕЛ ХАТЫНІ

Звон напаўняе тугой мае грудзі.
Ідзём праз Хатынь, і пытаецца ўнучак:
«Дзеду, як гэта — спалены людзі?..
Касцёр — з дзіцячых вочак і ручак?!»

У вочках маленькіх — водбліск пажару,
Уздрыгануўся ад жаху унучак.
Словы балюча па сэрцы ўдараць:
«Дзеду, а ім жа было балюча...»

Ім, нежывым, мы кладзём на пліты
Кветкі жывыя — блакіт чысты самы.
Ногі — нібыта свінцом наліты:
Звон раскалыхвае неба і памяць.

Плачуць званы па вёсцы згарэлай.
Сам я, здаецца, гару у адрыне.
Крык і дзіцячы енк — на свет цэлы!..
Стукае ў сэрцы попел Хатыні.

### ТЫМ, ХТО ПАКІНУЎ ВЁСКУ

Сэрца нельга адарваць ад вёскі,
Дзе заснулі прадзеды, дзяды,
Дзе смутліва родныя бярозкі
Разганяюць цень людской жуды.

Кліча нас вярнуцца кут забыты,
Як пратэз, рыпіць стары асвер...
Дома вокны дошкамі забіты.
Родны дом як веку недавер.

Школьны дворык падмятае вецер,
І званок не будзіць калідор.
Толькі ўлетку гараджане-дзеці
Абгукаюць аглушэлы двор.

І няма у яслях тут патрэбы,
І вяселляў менее штогод.
Ды расце патрэба: болей хлеба,
І патроіць жыта намалот.

Раптам хтосьці сэрцам адгукнецца,
Як убачыць дом і вулляў рад.
І махне рукой, і застанецца —
Зноў з аслеп'я выйдуць вокны хат.

### УСПАМІН

Я цярпліва чакаў цягніка
На далёкім і ціхім паўстанку.
Я цябе з цягніком чакаў,
Як чакаюць сонца уранку.

Ці то колаў на рэйках стук,
Ці то сэрца ад радасці б'ецца?..

Адчуваю цяпло тваіх рук,
І цяплом гэтым сэрцу грэцца...

І цяпер, як тады, як тады,
У туман углядаюцца вочы...
Мо вяртаюцца нашы гады,
Бо так молада рэйкі грукочуць?

■

У тваіх валасах —
горкі дым сівізны,
Ды не студзіць
твой дзень, як зіма, сівізна.
І сягоння табе
сняцца веснія сны
І жыве ў тваім сэрцы
былая вясна...
І калі валасы густа выбеліць снег
І мой твар ахіне
павучынне маршчын,
Будзе ў сэрцы маім
непаўторны твой смех,
Што рассыпала ты
ў верасах, між ялін...
І калі адшумелых
гадоў ціхавей
Прыглушыць паспрабуе
кахання струну,
Па вадзе, па бядзе,
па траве, па жарстве
Я тваю маладосць
даганю і вярну.





*Леанід Левановіч*

**РАМАН** *



# ПАВОДКА СЯРОД ЗІМЫ

*Одна неправда нам в убыток,*
*И только правда ко двору!*
А. Твардоўскі

Стаяла позняе бабіна лета, калі ў Лабанаўку прыехаў новы ўпаўнаважаны па нарыхтоўках Міхаіл Сямёнавіч Жмуроўскі. Ён замяніў Крупадзёрава, які знаходзіўся пад арыштам: папаўся на адной афёры.

Гэта здарылася на пачатку восені. Крупадзёраў адчуваў сябе поўным гаспадаром у раёне, лічыўся толькі з першым сакратаром райкома партыі Акапянам, а той яму давяраў: раён адзін з лепшых у вобласці па нарыхтоўках, нядоімшчыкаў мала — жалезнай рукой Крупадзёраў выціскаў усё, што патрабавалася. На яго сыпаліся скаргі: грубы з падначаленымі, часцяком выпівае. Акапян ушчуваў зрэдку яго:

— Душа любезны, будзь асцярожней. З людзьмі не заядайся... Раён хваляць, але, як надта зарвешся, гэта не выратуе.

— Сяргей Хачатуравіч, за мяне можаце быць спакойны. Крупадзёраў дзела знае туга, — ухмыляўся ўпаўнаважаны.

І ўсё ж ён папаўся. Падгаварыў яго дырэктар спіртзавода Круглікаў: навезлі з калгасаў багата бульбы, няма куды дзяваць, давай пару машын фуганём у Крычаў, прададзім, у цябе там ёсць знаёмыя хлопцы, грошы папалам.

Крупадзёраў клюнуў. Дзве машыны прадалі хутка, немалы барыш лёг у кішэню. Захацелася паўтарыць аперацыю, яшчэ дзве машыны памчалі ў Крычаў, і тут іх накрылі. Галоўным віноўнікам аказаўся Крупадзёраў, бо ён дамаўляўся ў Крычаве з гандлярамі, якія ўсё на яго і звалілі. Круглікава таксама знялі з работы, выключылі з партыі. Потым адбыўся суд. Круглікаву далі шэсць гадоў турмы. Пракурор Ясючэня патрабаваў прысудзіць Крупадзёрава да дзесяці гадоў зняволення, бо даўно не любіў яго, але адвакат пачаў даводзіць, што Крупадзёраў самаадданa выконваў свае службовыя абавязкі, раён перадавы па нарыхтоўках, што ў падсуднага нялёгкі жыццёвы лёс, не дужа вялікая адукацыя, што з бульбай яго заблы-

Мал. **А. Карповіч.**

* Раздзелы з рамана.

талі, і таму трэба змякчыць меру пакарання. «Хто ж яго заблытаў? Свой кацёл на плячах для чаго? У нас забіраў усё да апошняга. А сам шпікулянт! Грошай напхаў кішэню. Вось табе і малаграматны», — крыкнула жанчына з залы.

Пачуўшы гэта, Крупадзёраў яшчэ ніжэй апусціў шырокія дужыя плечы, мацней сцяў тонкія вусны, нервова тарганулася няголеная шчака, мурашкамі папоўз па спіне страх: а раптам раскапаюць ягоны падман — бо скончыў ён не шэсць класаў, як пісаў у анкетах. Праўда, у яго мелася даведка аб пачатковай адукацыі, а фактычна ён хадзіў у школу толькі адну зіму, у першы клас. Нечакана мільганула думка: а мо прызнацца, што ён зусім малапісьменны, таму і ўліп у гэтую гісторыю з бульбай. Нездарма кажуць: тапелец і за саломінку хапаецца. Крупадзёраў ужо хацеў падняць угору сваю сухарлявую «жалезную» правую руку, якой баяліся старшыні ўсіх сельсаветаў раёна, але стрымаўся: могуць даць яшчэ болей за падман, ды і ўсе жахнуцца, што гэтакі невук займаў высокую і адказную пасаду ўпаўнаважанага па нарыхтоўках, якога баяўся ўвесь раён, з якім не адважваўся спрачацца і сам Акапян. Мабыць, таму і лютаваў Крупадзёраў, бо разумеў, што незаконна займае пасаду, і вылузваўся са скуры, каб апраўдаць давер начальства. Яго хвалілі, падтрымлівалі, ён пачаў думаць, што яму ўсё можна: што хачу, тое і раблю.

І вось ён сядзіць на лаве падсудных, ссутулены, абвялы, нізка апусціў цяжкую, бы з пахмелля, галаву. Да яго нарэшце дайшло, што яму пагражае турма і ніхто яго не выратуе. Крупадзёраў спадылба, як затраўлены воўк, еў вачамі маладога суддзю Яўгена Васіленку. А той, русявы, з хлапечай грыўкай валасоў, з тонкім, амаль дзявочым тварам і нечакана басістым голасам, з прыкметным хваляваннем вёў судовы працэс — адзін з першых у сваім жыцці. Крупадзёраў дзівіўся, што вось гэты суддзя-хлапчук вырашае ягоны лёс. Двух засядацеляў: пажылога настаўніка ў круглых акулярах і маладую ружавашчокую даярку ў белай хустцы, завязанай пад бараду, ён у разлік не браў, бо заўсёды лічыў, што вырашае начальнік, той, хто кіруе, лейцы трымае. І так знізу і да самага верху. Крупадзёраў ёрзаў на мулкай драўлянай лаўцы, сціскаў раптам спацелыя далоні, калі суддзя і засядацелі пайшлі ў бакавушку, каб вынесці яму прысуд.

Невялікая паўцёмная зала, біткам набітая людзьмі, загаманіла, загула. У залу ён не глядзеў — баяўся зірнуць, баяўся, што тая кабета, якая крычала, ці іншая падыдзе і плюне яму ў твар.

Галасы ў зале пацішэлі. Крупадзёраў пільна, нібы гіпнатызёр, пазіраў на суддзю. Той адкінуў са лба грыўку валасоў і гучна загаварыў. Першыя словы дайшлі да Крупадзёрава быццам праз вату: шумела ўвушшу, кроў стукала ў скронях, а потым выразна пачулася: «...да васьмі гадоў зняволення....»

Тут жа падхапіўся пракурор Ясючэня і прапанаваў запісаць прыватнае вызначэнне: Крупадзёраў пайшоў на злачынства, бо адчуваў, што яму ўсё дазваляецца. Суддзя разумеў, што гэта каменьчык у Акапянаў агарод, але пярэчыць не мог: ведаў, што гэта сапраўды так, чуў пра выступленне старшыні райвыканкома Пракапенкі на бюро райкома, у якім ён прызнаваў і сваю віну як кіраўніка раёна, гаварыў аб нізкай патрабавальнасці да некаторых таварышаў.

Акапян таксама прызнаў, што не заўсёды быў патрабавальны да Крупадзёрава, але ж той не маленькі, вопытны работнік, ведаў, што рабіў, і, раз нашкодзіў, хай адказвае па ўсёй строгасці закона. Новага ўпаўнаважанага Акапян прыняў строга афіцыйна. Гаварылі нядоўга.



— Я думаю, душа любезны, што ў працэсе работы пазнаёмімся бліжэй, — сказаў Акапян, каб трохі змякчыць уражанне ад такой насцярожанай сустрэчы.

Жмуроўскі моўчкі кіўнуў, скупа ўсміхнуўся. Быў ён у новенькай цёмна-сіняй форме з чатырма зорачкамі ў пятліцах, гладка паголены твар, невысокі, плячысты. Увесь ягоны выгляд выдаваў чалавека сур'ёзнага і дзелавога.

— Ну што ж, жадаю вам поспехаў, Міхаіл Сямёнавіч, — сказаў Акапян на развітанне. — Улічыце памылкі вашага папярэдніка. План ён выконваў, але сам аказаўся не на вышыні. Кіраўнік павінен быць прыкладам і ў асабістым жыцці і паводзіць сябе прыстойна. Вось так, душа любезны.

— Дзякуй за парады і пажаданні. Не ведаю, ці змагу, але старацца буду... Ну, каб на вышыні...

Акапян адчуў іронію ў словах упаўнаважанага, зразумеў, што пажаданні выказаў не лепшым чынам, але паправіць што было позна: Жмуроўскі ўжо выйшаў з кабінета.

«Першы раз бачымся, а такое адчуванне, што ён падазрае мяне ў нейкіх грахах», — падумаў Жмуроўскі па дарозе ў райвыканком — ішоў да старшыні райвыканкома Пракапенкі з візітам ветлівасці, бо як-ніяк давядзецца разам працаваць.

Пракапенка сустрэў новага ўпаўнаважанага таксама стрымана, але памалу разгаварыліся. У кабінет завітаў Даўгалёў, які працаваў цяпер намеснікам старшыні.

— Дык вы толькі нядаўна з арміі? Доўга вам давялося служыць, — сказаў Пракапенка.

— Ды ўсё не адпускалі. У Германіі служыў. Наводзілі там парадак. На пачатку зімы дэмабілізаваўся. Пад Мінскам працаваў намеснікам упаўнаважанага. А потым прапанавалі сюды. Праўду кажучы, не хацелася ехаць. Я і родам з Мінскай вобласці, але загад...

— Дзе давялося ваяваць? На якіх франтах? — спытаў Даўгалёў.

— Ой, многа дзе. І на Бранскім, і на Калінінскім... Там параніла...

— Дык выходзіць, мы разам ваявалі! — узрадаваўся Даўгалёў. — І мяне пад Калінінам скубанула. Адтуль у шпіталь на Урал...

— А мяне яшчэ далей. Аж у самы Новасібірск. Адтуль трапіў на Другі Беларускі, дайшоў да Берліна...

— Ну, вам з Міхаілам Касьянавічам будзе пра што пагаварыць. Дарэчы, вы цёзкі, — пры гэтых словах Даўгалёў і Жмуроўскі пераглянуліся. — Не буду вас затрымліваць, Міхаіл Сямёнавіч. Раю паездзіць па раёне, пабыць ва ўсіх сельсаветах. Калі што-якое, заходзьце да мяне. Чым змагу — дапамагу, што ведаю — падкажу.

«Зусім іншая размова, — адзначыў для сябе Жмуроўскі. — Вось табе і душа любезны...»

Даўгалёў таксама падняўся.

— Да мяне няма пытанняў, Антон Яўсеевіч?

— Не, ідзі працуй, — Пракапенка зразумеў, што Даўгалёў хоча завесці новага ўпаўнаважанага да сябе і працягнуць гаворку. «З Крупадзёравым ён ніяк не мірыўся, а тут адразу пацягнуўся да Жмуроўскага, — падумаў Пракапенка, калі Даўгалёў і новы ўпаўнаважаны выйшлі. — Ды ён, відаць, не такі арап, новы нарыхтоўшчык, як Крупадзёраў. Але ж пасада ягоная... Хочаш не хочаш, прымушае і на горла браць, іншым разам і кулаком грукнуць...»

Амаль увесь першы месяц Жмуроўскі праездзіў па раёне, але паспеў

пабываць далёка не ва ўсіх сельсаветах — іх мелася дваццаць пяць. Дарогі разбітыя, транспарт — старэнькая калымага...

Неяк надвячоркам ён вярнуўся ў Лабанаўку, і яму перадалі, што званілі з райкома — тэрмінова прасіў зайсці Акапян. Жмуроўскі нават не прысеў у сваім кабінеце, выпіў шклянку вады і пакіраваў у райком. Апроч Акапяна быў у кабінеце Пракапенка.

— Заходзь, душа любезны! Сядай, дарагі, — Акапян падняўся насустрач, паціснуў руку. — Мы чакаем цябе, як бога.

— А ў чым справа? Што здарылася? — устрывожыўся Жмуроўскі.

— Здарылася тое, што наш раён выканаў план нарыхтовак па ўсіх відах прадукцыі. Мы тут падрыхтавалі паперу ў вобласць. Многія раёны ўжо адрапартавалі, а мы ўсё раскачваемся. Падпісвай, душа любезны, і сёння ж адправім, — Акапян падсунуў Жмуроўскаму стос паперак, зверху на іх паклаў сваю самапіску.

— Прабачце, Сяргей Хачатуравіч, лён яшчэ не адгрузілі, — адарваў галаву ад папер Жмуроўскі.

— Лён ляжыць на станцыі. Падрыхтаваны, адсарціраваны. Сёння-заўтра падгоняць вагоны, і мы шуганём яго на Оршу... — у голасе Акапяна чулася нецярпенне, маўляў, падпісвай і не дуры мне галаву.

— Вось тады і адрапартуем! — Жмуроўскі адсунуў ад сябе паперы, ручка скацілася з іх на стол і пакацілася далей. Пракапенка паспеў яе падхапіць, каб не звалілася на падлогу.

— Слухай, душа любезны, — Акапян падняўся, упёрся кулакамі ў стол, аж хрумснулі суставы, на твары пад скурай захадзілі жаўлакі. — Мы працавалі дзень і ноч... Увесь раён, усе людзі. І старыя, і малыя. А вы зрываеце...

— Я нічога не зрываю, — спакойна, але рашуча сказаў Жмуроўскі. — Я не магу падпісваць ліпу. Уводзіць у зман дзяржаву...

— Гэта гучныя словы, душа любезны. Вы баіцёся за сваё крэсла. Вас напалохалі пажарам, калі два гады назад згарэў на станцыі лён. Дык снарад двойчы не трапляе ў адно месца.

— Ніхто мяне не палохаў. І скажу вам, Сяргей Хачатуравіч, што, апроч шчыкоткі, я нічога не баюся.

Пачуўшы гэта, Пракапенка ледзь не зарагатаў, але стрымаўся, кашлянуў, нягучна сказаў:

— Можа, і праўда, Сяргей Хачатуравіч, лепей пачакаць...

— Чакаць няма чаго. От зараз вы ўдвух едзьце на станцыю. Арганізуйце адпраўку лёну.

— От гэта дзелавая размова, — падняўся Жмуроўскі. — Я гатовы.

Пракапенка зірнуў на стомлены, запылены твар упаўнаважанага па нарыхтоўках, на чырвоныя ад недасыпання вочы, моўчкі падняўся, выйшаў услед за ім.

Раззлаваны Акапян, як тыгр у клетцы, тупаў па сваім кабінеце. «Ах ты, хлапчук! Кісейная барышня... Ён не можа падпісваць ліпу... Чысцюля... А сам яшчэ палец аб палец не стукнуў, каб план быў... Чакай, чакай, — Акапян спыніўся. — А мо ён хітраваць уздумаў? Яму ж выгадна зараз, калі раён у прарыве. Яго лаяць не будуць... Толькі прыступіў... Зваляць на Крупадзёрава ды на мяне... А потым на дзень-два адрапартуем раней — ужо яго заслуга! Ах ты, шчанюк. Заўтра ты ў мяне будзеш круціцца як вуж на патэльні...»

Тым часам Пракапенка дагнаў Жмуроўскага на вуліцы, прыпыніў:



— Міхаіл Сямёнавіч, ты сёння, мабыць, і не абедаў? — і, не чакаючы адказу, прапанаваў: — Пайшлі да мяне. Павячэраем, а потым паедзем. Можа, там да раніцы давядзецца валаводзіцца...

— Калі праўду казаць, то і не абедаў, — прызнаўся Жмуроўскі. — А што гэта за гісторыя з пажарам? Я чуў краем вуха, а толкам і не ведаю...

— Гісторыя, браце, недарэчная, — пачаў Пракапенка. — Гады два назад было. Прыехала да нас камісія з Мінска. Здаецца, супрацьпажарны нагляд. А на станцыі ляжала багата лёну. Камісія і кажа начальніку станцыі: блізка ляжыць лён, упадзе іскра, загарэцца можа. А начальнік быў у нас такі вясёлы, кучаравы, родам з Чарнігаўшчыны. У яго быў зуб залаты, і любіў ён усміхацца. Жанчыны па ім так і сохлі. Дык ён і кажа: «Як гэта ад іскры лён загарыцца? Вы яго запалкай не запаліце. Не верыце? Глядзіце». Чырк запалку, а лён як усхапіўся, дык і не далі рады. Увесь і згарэў. Суд быў. У начальніка аказалася многа сваякоў з тоўстымі кішэнямі. Некалькі дзесяткаў тысяч грошай унёс... Вось і даказаў...

Праз гадзіну яны былі на станцыі. Апоўначы далі вагоны. Да раніцы ўвесь лён быў адгружаны.

— Вось цяпер можна рапартаваць, — хістаючыся ад бяссоння, увайшоў Жмуроўскі ў кабінет Акапяна.

Той узрадаваўся, пачуўшы, што лён адпраўлены, і ўсё ж паўшчуваў упаўнаважанага:

— А суткі мы страцілі, душа любезны. Маглі ўчора адправіць... Былі б у перадавіках.

— Затое сумленне цалей будзе, Сяргей Хачатуравіч, — ціха сказаў Жмуроўскі. — Пайду адсыпацца.

— Шагай, душа любезны, — і ён нечакана для самога сябе па-сяброўску паляпаў па плячы ўпаўнаважанага.

«Дзівак-чалавек, учора быў злы, як чорт, а сёння гатовы абдымацца, — падумаў Жмуроўскі. — Але і яго трэба зразумець. За ўсё здымаюць стружку. План выканалі, ён і рады. А мо крыўду і затаіў?»

Гарачы, няўрымслівы Акапян на гэты раз паціраў рукі ад радасці: план нарыхтовак спіхнулі, лён, які непакоіў яго даўно, адгрузілі. Можна ўздыхнуць з палёгкай. Учора ён сапраўды быў злы на ўпаўнаважанага, а сёння гатовы быў расцалаваць яго: ноччу ён шмат думаў і ў глыбіні душы прызнаваў, што Жмуроўскі паступіў правільна, не падпісаў «ліпы», бо што карысці будзе ад тых нарыхтовак, калі мы страцім сумленне і чэснасць.

Жмуроўскі спаў на кватэры, як забіты. За нялёгкую мінулую ноч яны багата аб чым пагаварылі з Пракапенкам, шмат што ўспомнілася.

Было Міхасю Жмуроўскаму няпоўных трыццаць гадоў, але яму часам здавалася, што пражыў ён доўгае жыццё. А іншым разам думалася: ён амаль яшчэ не жыў, вучыўся, доўга ваяваў, потым служыў у войску, у вайну і пасля вайны рэдка бачыўся з жонкай, рэдка лашчыў сваіх дзяцей — яны і зараз жывуць пад Мінскам. Сам вельмі рана адарваўся ад бацькі і маці: у іхняй вёсцы была толькі пачатковая школка, сямігодку канчаў у райцэнтры, дзе кватараваў у чужых людзей. Потым нейкі час працаваў у калгасе. Затым, як чалавека адукаванага, хоць і занадта маладога, прызначылі фінагентам. Неўзабаве прапанавалі паехаць у Смаленск на фінансава-банкаўскія міжраённыя курсы. І правучыўся ён там паўтара года. Вярнуўся ў свой раён намеснікам упаўнаважанага па нарыхтоўках.

Пачалося новае жыццё. Бясконцыя паездкі па вёсках. Выбіваў малако, мяса. Ды і каго накіраваць на раён, як не яго, маладога, нежанатага. Праў-

 

розік не здаваўся, цісНуў і ўдзень. Дарога была раз'езджаная, але вялікіх ухабаў пакуль што не павыбівалі.

На лесасецы было шумна і тлумна, не раўнуючы бы на кірмашы ў Саковічах, толькі спеваў ды музыкі не хапала. Праўда, спявалі тут пілы, стукалі тапары, трашчалі дымныя вогнішчы, на якіх палілі галлё. Старшынёўскі вазок здаля ўгледзеў Мацвей Сахута — ён быў прызначаны адказным за лесанарыхтоўкі, пайшоў насустрач. Макар спыніў каня, бо ехаць між пнёў было рызыкоўна. Тым часам падышоў Мацвей, павіталіся. З усіх бакоў пацягнуліся да старшыні хатыньчане. Ён дастаў з-пад сена мех, падаў Сахуту. Той развязаў, пачаў выцягваць бляшанкі кансерваў, разгарнуў скрутак з селядцамі.

— Закусь добрая, Макар Тарасавіч. А той вадзіцы, што гусі не п'юць, не прывёз? — падсунуўся бліжэй Арцём Шандабыла.

— На вадзіцу, як ты кажаш, купіла не хапіла, — усміхнуўся старшыня. — Ты ж — брыгадзір, павінен быў пра ўсё паклапаціцца.

— Дык яно, брат-значыцца, трохі было. Можа, калі патрэсці біклажку, што ў дзеда Гылігора, то нешта і нацэдзім, — падміргнуў Шандабыла Цімоху Емяльянаву, які адной рукой, прыціснуўшы паперчыну да кульці, скручваў цыгарку.

— Ну, як тут у вас справы? — Казакевіч павярнуўся да Сахуты.

— Як бачыш. Павалілі многа дрэў. Вазіць ёсць што. Трэба пачынаць. Пакуль дарога стаіць...

— А ведаеш, я во ехаў і ўспомніў ля Гарбатага моста, як мы з табой на чатырох санях удвух вазілі лес. Помніш?

— Хіба ж такое забудзеш? — уздыхнуў Сахута. — Я тады ледзь без ног не застаўся... Во як працавалі. А вы цяпер кажаце, што вам цяжка...

— Вы скажыце дзякуй калгасу. Значыцца-брат, каб не ён, не калгас, многія б ужо шлунне сваё парвалі, — важка сказаў Арцём Шандабыла, прыкурваючы ад Цімохавай цыгаркі. — Гуртам лацвей рабіць. Вайна тармазнула, а то жылі б мы ўжо прыпяваючы. Ніхто да вайны ў лапцях не хадзіў, галодны не сядзеў...

— Ну дык што, браткі, заўтра пачынаем вазіць лес, — павярнуў размову ў іншае рэчышча Казакевіч. — А ў суботу і нядзелю аб'явім чырвоны ўдарнік. Паднімем усіх хатыньчан. А то нас дзяўбуць ужо за невыкананне плана.

— Сюды б таго, хто дзяўбе, — ухмыльнуўся Цімох. — Хай бы тапаром памахаў... Некалі Акапян з намі дзесяць дзён укалваў. І спаў з намі ў зямлянцы, і еў... А цяпер не відаць яго...

— Цяпер не той час. Тады вайна ішла. Калі добра ўсё наладзім, справімся з планам, — упэўнена сказаў Мацвей Сахута.

На лесасецы быў свой катлапункт, жанчыны варылі гарачы абед. Прыдаліся і кансервы, якія прывёз старшыня калгаса, і селядцы. Цімох пажартаваў, што пасля такога абеду будзе смага, а яму з адной рукою кепска, нават снегу не хапанеш.

— Ты языком наліжашся, — падсміхнула Параска.

— Снег — вада. А вада — не гарэлка, многа не вып'еш, — Цімох ускінуў тапор на плячо і пайшоў па вырубцы, сігаючы цераз паваленыя дрэвы.





*Янка Сіпакоў*

# УЗЯТАК З МАЎЧАННЯ

Хто ж ты ёсць, чалавек?
Як з'явіўся і для чаго існуеш?
Ты ўпрыгожанне зямлі ці наадварот — яе ганьба і цвіль?
Маленькі ў макракосмасе і вялізны ў мікракосмасе.
Тут ты не ўмяшчаешся ні ў адну з ячэй, а там ніводная ячэя не заўважае цябе — ат, нейкая пылінка.
Ты ўвесь з супярэчнасцей і нечаканасцей.
Ты пішаш кнігі, і ты ж паліш іх потым на кастрах.
Ты паказваеш сябе разумным і робіш тое, што могуць зрабіць толькі дурні.
Ты нараджаеш чалавека — свой працяг, і ты ж знішчаеш гэтага чалавека — нібыта хочаш, каб працягу не было.
Дык хто ж ты ёсць, чалавек?

Аргенцінцы жартуюць: «Мексіканцы пайшлі ад ацтэкаў, перуанцы — ад інкаў, мы ж — ад караблёў».
А ад чаго пайшлі беларусы? Відаць, беларусы ўзяліся ад зямлі, а дакладней — ад любові да плуга і раллі.

Пачуў: «Добрае слова і кошцы прыемнае». Падумаў: «А наколькі ж яно прыемней і жаданей чалавеку!»

Прыгажосць — гэта сінонім жанчыны. Прыгажосць, урэшце, і ёсць сама жанчына. Прыгажосць прыроды, лесу, рэчкі, мастацтва, кветкі, песні, сукенкі, пярсцёнка, неба і зямлі толькі таму і адкрываецца нам, толькі таму і ёсць прыгажосць, што ва ўсім гэтым, нібы раствораная да самых атамаў, прысутнічае жанчына, і мужчына падсвядома любуецца ёю, радуючыся сустрэчы з той жа ракою, кветкаю, зямлёю, з пушыстымі, як жаночыя валасы, промнямі, што пахнуць сонцам і, здаецца, каханай.

Мы здзіўляемся, што так адвучылі народ ад роднай мовы — забываемся, што зусім нядаўна яшчэ гаварыць па-беларуску было небяспечна: кожны, хто гаварыў па-беларуску, адразу ж імгненна залічваўся ў «нацдэмы» і «ворагі народа».
Зразумела, што вельмі многа «ворагаў народа» было таму менавіта сярод выкладчыкаў беларускай мовы і літаратуры.
Здаецца нават, што да вайны была знішчана амаль уся інтэлігенцыя, якая гаварыла па-беларуску.

А што — мэтаю жыцця можа быць, напэўна, і такое: не ўнізіць ніводнага чалавека, не абразіць нічыёй чалавечай годнасці.



 

А вось так, здараецца, мы размаўляем са сваімі дзецьмі:
— Сашенька, тебе нельзя заглатывать сразу очень большие массы холодного воздуха....

Вучоным-садыстам усё складаней і складаней, усё цяжэй і цяжэй даказваць, даводзіць, знаходзіць бясспрэчна шкодных прыродзе жывёл, якіх трэба знішчаць,—за ваўка і то заступаюцца людзі.

І ўсё ж яны знаходзяць. І знішчаюць.

Леднікі сцерлі з зямлі мамантаў і насарогаў. За дзевятнаццаць стагоддзяў людзі страцілі 70 відаў жывёл, а толькі за палавіну дваццатага стагоддзя— **40 відаў...**

Да двухтысячнага года на нашай планеце не астанецца гарыл, насарогаў, знікнуць бенгальскія тыгры. Да XXI стагоддзя можа знікнуць адзін мільён відаў з сучасных дзесяці мільёнаў.

На Беларусі не стане мядзведзя, барсука, вялікага кроншнэпа і многіх іншых жывёл і птушак.

Во такія нашы тэмпы...

Агрэсіўнасць. Выходзіць, яна можа існаваць не толькі сама па сабе, а яшчэ як адна з магчымасцей атрымаць радасць, мець насалоду, быць шчаслівым, як адна з праяў геданізму.

Асабліва гэта відаць у спорце. Да прыкладу, у боксе.

На рынзе ляжыць у непрытомнасці пераможаны табою, накаўціраваны табою таварыш, а ты чуеш толькі апладысменты ў свой гонар, толькі захапленне табою, усхваленне цябе, славаслоўе табе. І ты шчаслівы над чалавекам, які ў гэтую хвіліну, магчыма, канае ля тваіх ног.

Значыць, для таго, каб мы смяяліся, нехта абавязкова павінен плакаць?

Пачутае ад відавочцаў. І прынятае як сваё—нібыта і я прысутнічаў на тым сходзе.

Вясна 1931 года. Мінск. Дом асветы. Пісьменніцкі сход. Даклад робіць змрочнай памяці Лука Бэндэ. Паклаўшы наган перад сабою, павучае беларускую літаратуру. Бэсціць беларускіх пісьменнікаў.

— А вы, таварыш Купала,—кажа ён,—калі не перабудуецеся і будзеце працягваць пісаць такія творы, як «Курган», «Безназоўнае», «Бандароўна» і ім падобныя, з вамі таксама будзем гаварыць на іншай мове...

Папрасіў слова Янка Купала. Думалі, будзе пярэчыць, нешта тлумачыць. А той не спяшаючыся падышоў да трыбуны, дастаў лісток паперы і ўпершыню прачытаў «Песню будаўніцтву». Прачытаў і гэтак жа спакойна, нічога не гаворачы, пайшоў на сваё месца.

Бэндэ крыкнуў яму ўслед:

— Вось так і працягвайце пісаць, таварыш Купала.

Божа, за што ты здзекуешся з нашай літаратуры?!

Бачыце, нават Бэндэ хацеў стаць вышэй за Купалу.

Дзякуючы нагану.

Расказваў Андрэй Макаёнак:

— Вы Янку Маўра яшчэ заспелі ў саюзе? Во быў арыгінальны чалавек. Што б ні галасавалася, пра што б ні гаварылі—ці то пісьмо вялікаму Сталіну ўхвалялася, ці то быў прыём у Саюз пісьменнікаў новых членаў, ці то нейкія іншыя дробязі, ён ніколі не галасаваў ні за, ні супраць. Звычайна старшыня сходу пытаўся: «Хто за? Хто супраць? Хто стрымаўся?» І тут жа, калі пытанне было дужа важнае, спалоханым, пацішэлым, нават пераселым голасам аб'яўляў: «Устрымаўся адзін чалавек—Янка Маўр».

Відаць, самае страшнае і непрыемнае—чакаць.

Не, усё ж яно самае радаснае і насалоднае—чакаць!



А ўсё ўжо было.

Вось што пісала аршанская акруговая газета «Камуністычны шлях» 24 красавіка 1927 года:

«За кепскія адносіны да нацпалітыкі і ў прыватнасці да вывучэння беларускай мовы Аршанскай Акруговай нацкамісіяй зняты з працы: дзелавод грашовай часткі Дрыбінскага РВК Ніканаў, бухгалтар фэрмы Горацкай с. г. акадэміі— Чыж і начальнік станцыі Талачынскай МББ т. Клімовіч. Апошні перакінут у РСФСР.

За нядбайныя адносіны да вывучэння беларускай мовы і абслугоўванне насельніцтва не на роднай мове працаўніком Дрыбінскага раёну: Строгаму, Аксючыну і Астанкевічу абвешчан выгавар.

Апрача гэтага т. т. Аўдзееў, Бальцаў, Іваноў і Вераб'ёў умоўна пакінуты на працы на 2 месяцы, з тым, калі яны ў гэты тэрмін не ауладаюць беларускай мовай у пісьме і ў разгаворы, дык будуць зняты з працы і заменены ведаючымі беларускую мову».

Тады ж кожны настаўнік акругі быў абкладзены «слоўнікавым падаткам» у 10 слоў—ужо больш гада вялася праца па збіранню і ўкладанню слоўніка жывой беларускай мовы Аршаншчыны, і такі «падатак» быў дужа патрэбны.

Тады ж на старонках газеты з'яўляліся нават такія загалоўкі-заклікі: «Трэба пасунуць наперад беларусізацыю нашых дывізій».

Нават не верыцца, што ўжо так блізка дыхалі, нецярпліва чакалі і грэбліва ўглядаліся сваім халодна-бязлітасным позіркам ва ўсю гэтую «беларусізацыю» іх ганебнасць сумнавядомыя трыццатыя гады...

Мала выступаю. А часам хочацца. І пачаць, да прыкладу, адно з выступленняў вось так: «Паважаныя таварышы! Доўга мы працавалі на жывот. І думалі, што гэта галоўнае. І думалі, чым большыя ў нас жываты, тым вышэйшая наша культура. І не толькі думалі—верылі. Але ж не жывот робіць чалавека чалавекам. І не жывёльнае пакланенне ежы робіць чалавека прыгожым. Розум робіць чалавека чалавекам! Культура робіць чалавека прыгожым!»

І разгарнуць бы гэтую думку перад чыноўнікамі, якія незадаволена скардзяцца, што сапраўдная культура ў нас на датацыі, што трэба ўсім арыентавацца на маскультуру—маўляў, яна прыносіць прыбыткі.

І тыцнуць бы іх носам у свет, і паказаць, што нават гэтыя «презренные» капіталісты, якія лічаць і ашчаджаюць кожны цэнт, на культуру грошай не шкадуюць.

«Узмацніць работу ў гэтым кірунку...»

Якая гэта выдатная, зручная схованка для чыноўнікаў!

Як узмацніць—ніхто не ведае. Якую працу—нікога не цікавіць. У якім кірунку—нікому не да галавы. Затое як гучыць! І якія важныя, сур'ёзныя, ці чуеце, глабальныя меры прыняты: «Узмацніць работу ў гэтым кірунку»!

Здаецца, ці не галоўнаю зараз мэтаю і для нашага кіно зрабілася распрананне жанчыны. Без голай жанчыны няма амаль ніводнага новага фільма. Відавочна, што большасць такіх стужак і задумваліся толькі для таго, каб паказаць голае цела, а ўсё астатняе—ідэя, думка, сюжэт, дыялогі, пейзажы і г. д.—усяго толькі дапаможны матэрыял, дадатак да гэтай сцэны. І ў многіх фільмах такое распрананне гучыць не як захапленне сапраўднай прыгажосцю, а як здзек, як абразлівае пацяшанне, глумленне над самым святым і прыгожым—над цнатлівасцю жаночага цела. Гэта здзек над жанчынай, над прыгажосцю, над намі, гледачамі, а таксама, урэшце, і над мастацтвам, калі тое, над чым сыта пагагатваюць перапоўненыя залы, хто-небудзь усур'ёз лічыць мастацтвам.

Капаюць, капаюць, капаюць.

Меліяратары—капаюць, тыя, што з лёгкасцю неймавернай гатовы перакідваць любыя рэкі,—капаюць. Будаўнікі капаюць, дарожнікі капаюць, воднікі капаюць, атамнікі капаюць. Капаюць між барханаў, капаюць у стэпах, капаюць у тайзе і тундры, капаюць пад старажытнымі храмамі.

Бачачы горы папавывернутай без патрэбы зямлі, часам задумаешся, а ці не знарок усё гэта робіцца, каб толькі закапаць у зямлю паболей грошай,—мільёны, мільярды рублёў!—абы яны не працавалі, не пайшлі туды, дзе б маглі прынесці сапраўдную карысць?

Часам зайздрошчу мурашу: ён умее рабіць многа такога, чаго не ўмею я. А часам і злуюся на яго: нешта ён, заняты сваім клопатам, ведае такое, чаго не ведаю я і ніколі не змагу ўведаць.

І заўсёды шкадую, што мы ніколі з ім не зможам паразумецца: ён робіць сваю справу, жыве, не заўважаючы мяне, пагардліва не звяртаючы на мяне, чалавека, ніякай увагі—быццам мяне і няма побач з ім у прыродзе.

Кожны чалавек носіць у сабе храм. Штодзень, з году ў год. Толькі ў адных ён маўчыць, а ў другіх — звоніць ва ўсе свае званы. Але ёсць яшчэ і трэція: званы раздзіраюць такому душу, аднак ніхто гэтага звону не чуе—чалавек не выпускае яго з сябе.

Апошнія паміраюць першыя—раней за ўсіх.

Ад карозіі храма, які яны носяць у сабе.

А раўнадушныя сцвярджаюць—ад разрыву сэрца.

Люблю анекдот пра нас, беларусаў.

Пекла. У трох катлах варацца прадстаўнікі розных народаў. Яны ўсё ж спрабуюць выратавацца. З аднаго чана выбраўся і ўцёк толькі адзін чалавек. З другога—выбраўся сам, а затым выцягнуў і ўсіх астатніх. А ў трэцім, у тым, дзе сядзелі беларусы, знайшоўся адзін смяльчак, паспрабаваў быў вылезці, але суродзічы за ногі зноў уцягнулі яго ў кацёл...

Брыдкі, абразлівы для цэлага народа анекдот!

Злуюся на яго!

Але што ж ты зробіш, калі і праўда ёсць між намі такое самаедства...

І ўсё ж як радасна ўсведамляць: ты нарадзіўся на сваёй, хоць і такой недасканалай, бацькаўшчыне!

Нярэдка мы пагарджаем канстытуцыяй чалавека, складам яго характару, яго душы. Злуёмся, бывае, на суседа па планеце, лаем яго: «Чаму ты не крычыш? Крычы, як мы!», «Чаму ты не разбураеш? Разбурай, як мы!»

Нам здаецца, што ўсе людзі аднолькавыя,—такія ж, як мы самі. Таму мы і патрабуем ад іх таго ж, што і ад сябе.

Нават і не задумваемся, што ў чалавека можа быць зусім іншая канстытуцыя, што па сваёй прыродзе ён не можа (а не таму, што не хоча!) крычаць і не можа разбураць, бо склад яго характару менавіта стваральны.

Ён умее толькі працаваць.

Кукавала зязюлька
У садочку,
Прысланіўшы галоўку
К лісточку.

У расчуленні і замілаванасці да роднай песні часам наіўна здасца, што гэта «мацней, чым «Фауст» Гётэ».

Спатрэбілася ўдакладніць, як выглядалі пасляваенныя грошы. Калгаснікі доўга не маглі ўспомніць, якія яны былі. Спрачаліся нават—хадзіла ці не хадзіла трыццатка.

І ўсё гэта не таму, што прайшоў час, што людзі спрытна́ забыліся на тыя грошы, а таму, што яны іх наогул не памяталі, бо мала трымалі ў руках, а то і зусім не бачылі,—пасля вайны грошай у хлебароба не было: ён працаваў бясплатна, за «палачкі».



Мы, беларусы, спрадвеку прывыклі лічыць сябе, ведаць сябе, разумець сябе рабамі.

Была Беларусь пад панскаю Польшчаю—самую няўдзячную работу рабілі беларусы: парабкі, найміты, служкі.

Была Беларусь пад царскаю Расіяй—зноў жа самаю папулярнаю працаю для беларусаў была абслуга: служнікі, лёкаі, конюхі, пакаёўкі, батракі.

І нават зараз, вольная Беларусь, не забылася на гэта—яе сыны і дочкі мятуць і чысцяць, мыюць і вытрасаюць, шкрабуць і засцілаюць, да прыкладу, у Прыбалтыцы. Грузчыкі, уборшчыцы, пакаёўкі ў санаторыях, пасудамыйкі, вартаўнікі, дворнікі, рабочыя ў хімчыстках, выбівальшчыцы пер'я, абслуга на атамных электрастанцыях і гэтак далей, і гэтак далей—на такіх «прэстыжных» пасадах часцей за ўсё знойдзеш нашага земляка.

Дык што ж гэта мы і праўда нацыя рабоў?

Дзіўна, што нам такое, здаецца, пачынае нават падабацца...

Прачытаў у газеце, што ў амерыканскіх аэрапортах вісяць плакаты-напамінкі:

«Грамадзяне ЗША праходзяць у першую чаргу».

Падумаў: вось бы дзе нашым чыноўнікам павучыцца самапавазе і гонару! Вось бы дзе зразумець, з якой годнасцю і шанаваннем трэба адносіцца да свайго народа!

Часам здаецца, што друк і тэлебачанне знарок падахвочваюць металістаў, рокераў, наркаманаў і г. д. Яны з асалодаю спускаюцца ў іх падвалы і з захапленнем расказваюць, як там усё абсталявана, як там цікава і прыгожа.

Іншыя падлеткі, прачытаўшы пра гэта ці, яшчэ лепей, убачыўшы такое на экране тэлевізара, пачынаюць хваляваца:

— Бачыце, як людзі жывуць! А мы чаго сядзім?

І пачынаюць шукаць свае падвалы. І абсталёўваць іх—як у кіно.

Пачуў ад Сяргея Грахоўскага:

— Сціплы быў хлопец Тодар Кляшторны. Часам падпіты, але культурны-культурны. Нават гжэчны. Рукавы пааббіваліся, калашынне таксама, чаравікі лыжныя падвязаныя нейкімі вяровачкамі, але затое каўнерык беленькі, цэлулоідны, гальштук акуратненька падцягнуты. Сядзіць, бывала, паклаўшы нага на нагу, задумліва нагою пакалыхвае, маўчыць. Спытаеш: «Што ты, Тодзік, робіш?»—«Вершы думаю».

Вершы думаю... Ды ім жа цаны няма, гэтым словам!

Уладзімір Корбан расказваў неяк, як яны з Алесем Рылько ездзілі выступаць па Бюро прапаганды літаратуры:

— Прыехалі мы ў Оршу ў добрым настроі. У першы ж дзень з ахвотаю выступалі. Увечары прыйшлі ў гасцініцу, па чарчыне ўзялі, хораша пагаварылі. Назаўтра адзін аднаму ўжо надакучылі—па чатыры ж, па пяць выступленняў за дзень было! Прыйшлі ў гасцініцу, моўчкі леглі спаць, і абодва да сцен паадвярнуліся—не хацелася нават гаварыць. На трэці дзень я ўжо адзін у гасцініцу прыйшоў: Рылько недзе затрымаўся. Пасядзеў я ў нумары, падумаў, ды як успомню, што яшчэ і заўтра трэба адно і тое ж гаварыць і слухаць тое ж самае, што Алесь гаворыць, махнуў рукою і пачаў дадому збірацца. Напісаў Алесю запіску, на стале пакінуў, каб убачыў, калі вернецца, а сам— на вакзал. Прыехаў, станаўлюся ў чаргу да касы і бачу—перада мною Рылько стаіць.

Чамусьці не выходзіць з галавы, не дае спакою, змушае вяртацца да яго зноў і зноў звычайны сказ ці, можа, нават загаловак, які сам па сабе нарадзіўся: «Колькі каштуе дождж на Івана Купалу?»

Чаму мы так не любім сваю зямлю? Чаму не шануем яе і не трымаемся за яе?

Як лёгка мы ўзнімаемся і лёгка едзем. Куды? Навошта? Абы-куды! Абы ехаць!

Любое перасяленне, любое засяленне—мы! Мы першыя і мы апошнія... Едзем, едзем, едзем.

Спатрэбілася засяляць Сібір—мы тут як тут. Сто тысяч беларусаў на мяжы 20—30 гадоў пакінулі свае вёскі і паспяшаліся ў тайгу.

Спатрэбілася пасля вайны абжываць далёкаўсходнія астравы—Сахалін, Шыкатан, Ітуруп—мы зноў жа да іх паслуг.

Аднаўляць Кенігсбергскую вобласць, валіць лес у Карэліі, пластаваць цалінныя землі Казахстана, апрацоўваць трагічна абязлюдзелы Крым—мы, мы, мы...

Цэлыя полчышчы вярбоўшчыкаў, як саранча, вытоптвалі пасля вайны нашы галодныя вёскі, абяцаючы рай усюды, акрамя сваёй роднай зямлі. І людзі забівалі хаты, ехалі ў свет, як у капейку.

Будаваць БАМ, узводзіць Тальяці. Ехалі ў Польшчу, на вызваленыя прыморскія землі—памагаць там узнімаць сельскую гаспадарку.

А свае вёскі і зараз выміраюць, бязлюдзеюць. І ў іх з'язджаюцца прыхадні з усяго свету—дзе хто спіўся, дзе хто не ўжыўся, дзе хто пракраўся.

Што ж з табою здарылася, дарагі мой і ласкавы, шчыры і працавіты народзе, што ты, спрадвек жывучы аседла, раптам зрушыў з месца і з такою лёгкасцю кідаеш свае хаты, кідаеш свае вёскі, кідаеш свае нівы і паплавы і едзеш некуды шукаць таго, чаго без роднай зямлі знайсці немагчыма?!

Толькі праз родную мову чалавек можа стаць беларусам, бо ў ёй хімія і фізіка, гісторыя і батаніка, эканоміка і культура таго, што называецца нацыяй, народам.

І таму як жа ёй, нашай мове, патрэбна дзяржаўная падтрымка і абарона!

Абарона і забарона. Усёй і розніцы між імі—адна літара. Але затое якая яна магутная і бязлітасная, гэтая літара!

Любіць сваю Радзіму ў светлыя і радасныя дні высакародна.

Але яшчэ болей высакародна любіць радзіму тады, калі ёй цяжка, калі гэтая любоў небяспечная.

Андрэ Пумпур, славуты латыш, як і пакліканы ім з самога народа вялікі і богу роўны Лачплесіс, любіў Латвію менавіта тады, калі ёй было цяжка, калі нават падпісвацца, прызнавацца латышом было подзвігам. Час быў такі—прыніжаўся народ, прыніжалася яго мова: вераломныя «асветнікі» сцвярджалі, што «латышская мова не паднімецца вышэй становішча сялянскай мовы».

А ён верыў у свой народ і ў сваю мову. І хацеў даказаць, што да жалезнага нашэсця крыжакоў яго народ меў сваю багатую спадчыну. І ведаў, што даказваць гэта будзе нялёгка. Ведаў, што і мэта, якую ён выбраў,—служэнне народу, абарона народа і яго шчаслівае жыццё, росквіт,—дужа і дужа нялёгкая. «З-за гэтага,—пісаў ён,—мне, як звычайна, давядзецца перанесці шмат цяжкасцей і ганенняў».

І Андрэ Пумпур, гэты плытагон, каморнік, упраўляючы маёнткам, упраўляючы фабрыкі штучных угнаенняў, якому нават вучыцца далей не дазволілі—для дзяцей латышоў гэта лічылася лішнім, непатрэбным,—узяўся за вялізную, здавалася б, непасільную для аднаго чалавека, але такую патрэбную працу. Узяўся, помнячы пра крыўды. Узяўся з радасцю і злосцю. І дзіўна—злосць не перашкаджала яму. Наадварот, злосць нараджала дабро. Крыўда моцнага чалавека заўсёды робіць яго яшчэ больш моцным.

І ён адзін падняў глыбу, якая па сіле толькі цэламу народу.

Падарыць, вярнуць народу тое, што той ствараў вякамі, можа толькі геній. Але А. Пумпур не думаў пра гэта. Ён быў пераканаf, што ў старажытных латышоў ужо быў свой гераічны эпас, і зараз ён не ствараў яго, а толькі ўзнаўляў па песнях, казках, паданнях усё, што ўжо радавала раней не адно пакаленне суайчыннікаў.

Ён ведаў, што, увабраўшы ў сябе ўсё, што выспіў на гэтай зямлі чалавек, эпас потым аддасць у многа разоў болей—ён зробіцца тады вечнаю і невычэрпнаю крыніцаю сілы і мудрасці народа.

Любоў да радзімы напісала гэты эпас.

Гонар і годнасць нарадзілі гэты эпас.

Пашана і самапавага стварылі «Лачплесіс».

Кожны народ марыць быць моцным, вольным і непераможным. І ў гэтым яму звычайна памагаюць паэты, даючы ў павадыры моцных герояў, якія бачаць і лепей, і болей, і далей. Такія паэты, як, да прыкладу, Андрэ Пумпур, які дапамог уваскрэснуць з небыцця Лачплесісу—гэтаму моцнаму асілку, волату, гэтаму напаўбогу з сялянскім абліччам, для якога клопат пра латышскі народ атаясамліваўся з яго жыццём.

Вялікія паэты робяць яшчэ больш вялікаю сваю радзіму. І таму тлятворным ва ўсе часы лічылася тое грамадства, якое не шанавала сваіх паэтаў і дазваляла кожнаму невуку плюнуць у бок генія і прарока.

Шчаслівa разумець, што Латвія, як і ўсе цывілізаваныя краіны, беражэ і і шануе сваіх слынных паэтаў.

І мне ў Беларусі хочацца павярнуць галаву туды, дзе Латвія, дзе Ліелвардэ, якая па настойлівай волі Пумпура нарадзіла вялікага народнага абаронцу Лачплесіса, і сказаць па-беларуску «дзякуй»!

Дзякуй, добрая зямля, за Андрэ Пумпура, дзякуй, шаноўны народ, за «Лачплесіса»!

Так сказалася ў Маскве, у Калоннай зале Дома Саюзаў на стагоддзі славутага латышскага эпасу.

Міністр духоўных, як кажуць французы, памкненняў загаварыў раптам на роднай мове. Ай-яй-яй, які ён малайчына! Загадчык аддзела міністэрства ў сваёй прамове ўжыў беларускае слова. Ай-яй-яй, які подзвіг, якое самаахвяраванне!

Даруйце, а на якой мове яны гаварылі да гэтага? І хіба можна ўвогуле займацца, да прыкладу, асветаю народа, не ведаючы яго мовы, а то і пагарджаючы ёю? Не, такое глупства, мабыць, магчыма толькі ў Беларусі—адзінай, унікальнай у гэтым плане зямлі ў свеце.

Прэзідэнт Франсуа Мітэран, да прыкладу, як і ўсе нармальныя французы, гаворыць на французскай мове. І ніхто не лічыць гэта подзвігам, тым больш—самаахвяраваннем, бо гэта, як бы тут сказаць далікатней, проста нармальнае становішча. Да таго ж прэзідэнт сочыць за сваёю гаворкаю, імкнецца зусім не ўжываць англійскіх слоў і, як можа, стараецца пашыраць лад французскай мовы, паказваць яе прыгажосць.

І ў тым, што французы яшчэ на адзін тэрмін захацелі бачыць яго прэзідэнтам, кажуць, «вінавата» і вось гэтая ласка да роднай мовы.

У пісьменніка не павінна быць настаўнікаў. Настаўнік пісьменніку не патрэбен. Ён патрэбен графаману.

А сапраўдны пісьменнік—сам сабе настаўнік. І вучань—таксама. Ён вучыцца і вучыць адначасова. Сам у сябе вучыцца і сам сябе вучыць.

Крытыкуючы змрочныя часы застою, мы часам сячэм усё спрытна. А і тады ж многія людзі сумленна жылі і шчыра працавалі. «Як, хіба тады нехта працаваў?—крычым мы.—Не можа быць!»

Працаваў! І яшчэ як працаваў!

Да прыкладу, у беларускай літаратуры з'явілася ў часы застою «Палеская хроніка» Івана Мележа.

Калі ў звычайны дзень мужчына ідзе з кветкамі, гэта натуральна, нават прыгожа: мы любуемся ім, бо ведаем, што ён нясе іх, каб падараваць жанчыне.

А калі мужчына нясе кветкі сабе—гэта ўжо выглядае дзіўнавата.

Мужчына з кветкамі прыгожы часова—пакуль ён не перадасць іх у пяшчотныя жаночыя рукі. Жанчына з кветкамі прыгожая заўсёды!

Зноў карэктарскія памылкі: «прапілакторый» (прафілакторый), «вухаванне» (выхаванне), «выпіўся (выбіўся) у людзі»...

Жабрак ад літаратуры. Стаяў з шапкаю на вуліцы, прасіў: «Не мінайце, падайце беднаму паэту хоць вобраз на пражыццё».

Прывітанне графамана: «Стой! Ні з месца! Чытаць буду!»

Сярэдзіна красавіка. Ранняя цеплыня. Можна сказаць, спёка. Задуха. Але дрэвы не адгукаюцца на цеплыню, не распускаюцца. Стаяць, прадбачліва, беражліва зацiснуўшы лісточкі ў пупышках.
Яны нешта помняць?
Яны нешта прадчуваюць?
Яны нешта ведаюць пра тое, што наперадзе, чаго мы, такія разумныя, адукаваныя і самаўпэўненыя, не помнім, не прадчуваем, не ведаем?

Наша дурнота. Нядаўняя эпідэмія нарыхтоўвання галінак. Гараджане, якіх прыслалі на «галінкі», кажуць: «Навошта нам на дрэвы лезці? Трава ўнізе такая! Дайце нам косы». «Не, нам трава не трэба,—адказваюць ім.—Нам галінкі трэба. За траву нас лаяць не будуць, а за галінкі дадуць наганяй». «Дык каровы б лепей траву елі». «Няхай сабе, але ў нас план не па траве, а па галінках не выкананы».

Імітацыя. Яна ўсюды брыдкая, але асабліва непрыстойная на эстрадзе. Славутая зорка выступае пад фанаграму. Адкрывае рот, варушыць вуснамі, а не спявае. Махае рукамі ля гітары, а не іграе. І раптам, калі сапсуецца тэхніка і замоўкне фанаграма, калі зорка дурнавата стаіць з раскрытым ротам на сцэне і чакае, калі «адрамантуюць», калі зноў «дадуць» яе ці яго голас, нам робіцца няёмка за славутасць. Нам, а не самой славутасці: яна прывыкла падманваць.
І тады слухачу здаецца, што яго прымаюць за дурня.
Ён жа ішоў сюды, толькі каб пачуць жывы голас шаноўнага спевака. Голас, яшчэ не разлучаны з чалавекам.
Хутка, мусіць, і на эстраду прыйдзе тое, што і ў сельскую гаспадарку: за «жывым» голасам будуць гэтак жа ганяцца, як і за гароднінай без хіміі...

Хімія, якая, нібы вар'ятка, атручвае зямлю, ваду і паветра, на нашых вачах мяняе свой статус—з сябра, які нас адзявае і корміць, ператвараецца ў ворага, які нас забівае.
Таму і мы павінны памяняць свае адносіны да яе—як найхутчэй падабраць ёй адпаведную «ўціхамірвальную сарочку».

Божа мой, які ж ты цярплівы, вынослівы і вечны, мой маўкліва-задумлівы народзе! З нагоды і без нагоды, з прычыны і без прычыны заўсёды думаецца такое.

Нават страшна, што сярод усіх гэтых Рашыдавых, Кунаевых, Медуновых, між хабару, бессаромнасці і карупцый сумленна жыла і сумленна працавала такая рамантычна-захопленая душа, якая апантана верыла ў дабро і справядлівасць,—незабыўны наш камуніст Пётр Міронавіч Машэраў.
І не дзіўна, што на Вялікдзень і Першамай яго магіла ўся ўсыпана кветкамі, услана велікоднымі яйкамі.

Мутацыя сумлення. Мутацыя шчырасці. Мутацыя чалавечых адносін. Мутацыя маральнасці. Мутацыя слова. Мутацыя міласэрнасці. Мутацыя дабрыні. Мутацыя праўды. І г. д. Мутацыя, мутацыя, мутацыя.
Ці не замнога мутацый выпеставаў, нагадаваў наш неспакойны век?



А што, урэшце, галоўнае на зямлі і што кіруе светам? Каханне, людзі, каханне....

Вядома, ратавальнік можа з'явіцца толькі тады, калі з'явіцца патрэба некага ратаваць.
І яшчэ тады, калі нехта сам захоча ратавацца.
А галоўнае, тады, калі нехта паверыць, што я, ратавальнік, і праўда змагу ўратаваць яго ад таго, ад чаго ён сам уратавацца не можа.

Ён, прайдзісвет, хацеў быць самым набожным сярод самых набожных, а таму хрысціўся абедзвюма рукамі—усімі дзесяццю пальцамі.

Наслухаўшыся, начытаўшыся пра тое, колькі крыві, подласці, несправядлівасці, самаўпраўства, беззаконнасці падаравалі першай у свеце сацыялістычнай дзяржаве Сталін і іншыя злыдні ад рэвалюцыі, хочацца ў роспачы крыкнуць: «Я баюся сусветнай рэвалюцыі!»

«Чым болей чытаеш, тым болей тупееш». Гэта Мао Цзэдун. Як ісціну гаварыў ён, вялікі і мудры, сваім прыхаджанам свядомую ману, у якую і сам, канечне, не верыў.
І яму хітра ўсміхаецца, здаецца, нават падміргвае з іншага стагоддзя Дэні Дзідро: «Людзі перастаюць мысліць, калі перастаюць чытаць».

Стварыць сабе куміра і пакланяцца яму—гэта значыць разбурыць, бязлітасна знішчыць сябе як асобу.

Часам, раззлаваны нечаканай думкаю, недарэчна пераконваю сам сябе—маўляў, той, хто загінуў на вайне, аказаўся б дужа нешчаслівым у мірным жыцці: ён быў сумленны, непадкупны, смела ішоў на ворага, не хаваўся за спіны другіх, а гэтага чыноўнікі ды і само мірнае жыццё ой як не любяць...

Калі невялікі каменьчык уявіць вялікаю гарою, гэтакай Фудзіямай, якімі вялікімі стануць мініяцюрныя краявіды, што пакуль мізарнеюць за ім.
Дык што, значыць, усе нашы ацэнкі ў жыцці і творчасці залежаць усяго толькі ад выбранага маштабу?

Практыка—дакладней за тэорыю. Тэорыя можа памыляцца. Практыка не памыляецца, бо за ёю стаяць мільёны людзей, а за тэорыяй—звычайна адзін чалавек.
Але ж тэорыя, ці чуеце, важней за ўсё: яна нараджае практыку.

Прачытаў у Пімена Панчанкі, як колішні Генеральны сакратар ЦК КПСС М. С. Хрушчоў лаяў К. Т. Мазурава, які на сходзе партактыву Беларусі зрабіў даклад на беларускай мове: «Ни черта не понятно». І замест таго, каб засмуціцца гэтым глупствам кіраўніка, узрадаваўся: дык якая ж яна самастойная, якая ж яна адметная, якая ж яна багатая, наша родная, наша старажытная славянская мова, калі нават такому па-сялянску здольнаму да моў чалавеку, які дасканала ведаў дзве мовы, блізкія беларускай,—рускую і ўкраінскую—і то «ни черта не понятно»!

«Трэба быць усяго толькі чалавекам»,—з лёгкасцю незвычайнай раім мы нягодніку, забываючыся, што менавіта гэта для яго—самае цяжкое і немагчымае.

Беларусы скардзяцца, што ў прыбалтыйскіх рэспубліках іх змушаюць вывучаць літоўскую, латышскую і эстонскую мовы. І хочацца спытацца ў іх: «А чаму вы да гэтага, жывучы столькі сярод братніх народаў, не вывучылі іхніх моў?»
І адказ мы ведаем, ён вельмі просты і несуцяшальны: таму, што яны не валодаюць сваёй, таму што выракліся роднай мовы.

А павага да роднай мовы заўсёды нараджае павагу да ўсіх без выключэння моў свету.

Не, няпраўда, яна ўсё ж недзе павінна быць, недзе павінна існаваць у прыродзе — у чыстым, нечапаным, незаплямленым выглядзе — наша самапавага і годнасць. І нам яшчэ наканавана яе адкрыць, як пад напластаваннямі стагоддзяў адкрываюць карысныя выкапні.

І радасць гэтага шчаслівага адкрыцця ў нас яшчэ наперадзе.

Услед за народным лекарам і самадзейным паэтам Мікалаем Касьянам хочацца прызнацца: «Паляванне не для мяне — не люблю забіваць».

Сёй-той засумаваў па славутаму пяцьдзесят восьмаму артыкулу Крымінальнага кодэксу. Захацелася вярнуць яго, сарамліва закрыўшы вочы на тое, што ён, як нейкая бязлітасная касілка з фантасмагарычных сноў, выкасіў у Савецкім Саюзе самых таленавітых, самых разумных, самых актыўных, самых сумленных, самых адданых Радзіме людзей.

Зараз сёй-той гаворыць пра гуманнасць да забойцаў — іх, маўляў, трэба шкадаваць, да іх трэба літасць, міласэрнасць праяўляць, іх долю трэба аблегчваць — ледзь не прабачэння трэба прасіць у іх...

Што значыць — «разняволіць свядомасць»?

А хіба можна свядомасць заняволіць?

Свядомасць — катэгорыя філасофская, і на яе не можа ўплываць нейкі адзінкавы чалавек, як і на жыццё сусвету, якое не бачна нам і не залежыць ад нас.

«Разумнае ўсё тое, што не дурное». Чаму ж мы вельмі рэдка прытрымліваемся гэтай мудрай думкі, а часцей за ўсё прыкладаем столькі намаганняў, каб карыстацца больш лёгкай і спадручнай: «Разумнае ўсё тое, што дурное».

Капацца ў мінулым — варушыць, набліжаць будучае.

Хіба можна бачыць, не гледзячы?

Хіба можна чуць, не слухаючы?

Хіба можна гаварыць, не адкрываючы рота?

А ўсё ж гэта спрабуюць рабіць тыя, хто добраахвотна і лёгка адмовіўся ад роднай мовы.

Паэзія Міколы Гусоўскага, славутага нашага земляка, выдатнага паэта-лацініста — гэта нашы вочы ў мінулае. Яна, нібы машына часу, дапамагае нам сягаць праз стагоддзі, у даўніну, каб адчуць і нават убачыць, як жылі нашы продкі, чым займаліся людзі на нашых землях, што іх радавала і што засмучала.

Паэма «Песня пра зубра», якую па сіле эмацыянальнага ўздзеяння і паэтычнай бездакорнасці можна паставіць упоравень з лепшымі ўзорамі сусветнай паэзіі і без якой ужо нельга сёння ўявіць нашу родную беларускую літаратуру, стала сапраўдным помнікам нашай гісторыі. І помнікам нашай паэзіі. Як радасна, што напісанае засталося і, хараша ўзноўленае ў беларускай мове Язэпам Семяжонам, стала з'яваю ў роднай літаратуры.

І яшчэ радасна адчуваць, што часавыя межы нашы рассунуліся, што нашы паэтычныя анталогіі зараз ужо будуць пачынацца не з ананімных паэм і з цудоўнага верша крошынскага хлопца Паўлюка Багрыма, а пойдуць яшчэ далей і глыбей у вякі — да Міколы Гусоўскага з яго непаўторнай «Песняй пра зубра», да Францыска Скарыны з яго мудрымі паэтычнымі прадмовамі і пасляслоўямі, да лірычных маленняў Кірылы Тураўскага, які захоплена тварыў на нашай зямлі ў далёкім XII стагоддзі.

Уладзімір Караткевіч. Выдатны апавядальнік. І душа, здаецца, любой кампаніі. Слухаючы яго ўспаміны пра неверагодныя сустрэчы і здарэнні, думалася, што ён толькі тое і робіць, што трапляе ў нестандартныя, як кажуць зараз, сітуацыі: то ён прысутнічае на вяселлі цыганскага караля, то ён аказваецца ў нейкай вясковай краме, заваленай пад столь крабамі, то ён разам з кіношнікамі ў нейкім раённым гарадку мые з брандспойтаў Ісуса Хрыста, то ён адзін, абараняючы гонар дзяўчыны, размахвае цэлую плойму нягоднікаў. Гэтыя ўспаміны былі настолькі незвычайныя, што многія паблажліва ўсміхаліся — ну-ну, давай-давай, залівай.



Аднойчы ён прыйшоў у «Маладосць» і пачаў гаварыць, што ў яго сёння на абед крабы і вустрыцы. Яму не паверылі, пачалі пасмейвацца. Уладзімір Сямёнавіч раззлаваўся, набраў нумар свайго хатняга тэлефона, сказаў у трубку:

— Мама, скажы гэтым ёлупням, што ў нас сёння на абед, — і сунуў трубку мне ў рукі.

І маці прыемным голасам на добрай рускай мове адказала:

— У нас сегодня на обед крабы и устрицы. Приходите, пожалуйста, с Володей обедать.

Уладзімір Караткевіч сам нарываўся на неверагодныя здарэнні, сам шукаў іх.

Лета. Спёка. Выпадкова сустрэліся на Круглай плошчы.

— Хачу піць. Пайшлі зойдзем у «Бярозку».

Уладзімір Сямёнавіч узяў бутэльку сухога віна — з халадзільніка, запацелую. Сядзім і на французскі манер наталяем смагу — ратуемся ад гарачыні. Мужчына ля стойкі нечым не спадабаўся Караткевічу.

— Хочаш, вось пайду зараз дам яму па с...цы, а ён мне дзякуй скажа.

Не паспеў я і слова вымавіць, як ён ужо быў ля стойкі. Размахнуўшыся, з усёй рукі ўліў мужчыну ляшча. Той павярнуўся і з перакошаным ад злосці тварам ужо гатовы быў накінуцца на крыўдзіцеля. Але Караткевіч добра загаварыў да яго:

— Вы недзе выпацкаліся. Можна, я вас абтрасу?

І пачаў лёгенька страсаць чыстыя і так штаны незнаёмага.

Мужчына палагаднеў, пачаў усміхацца і вінавата дзякаваць нечаканаму памочніку.

Вярнуўся, сеў за столік і нібыта між іншым сказаў:

— Ну, што я табе казаў?

Пасля каля Купалаўскага парку сустрэлі дачку Юлляна Пшыркова Вольгу Дэконскую. Уладзіміру Сямёнавічу, галантнаму кавалеру, захацелася раптам падараваць ёй ружу. Ён тут жа накіраваўся ў парк. Каля кветак спыніўся, пасадзіў нас на лаўку, а сам закасаў рукавы, узышоў на клумбу і пачаў палоць ружы, падварушваць зямлю ля іх, збіраць ламачча, смецце. Ён так захапіўся гэтаю работаю, што, здаецца, забыўся і на нас. Упэўнены, што тыя, хто праходзіў побач, верылі: гэта працуе сапраўдны садоўнік, кветкавод. Працаваў ён так з паўгадзіны. Потым занёс у урну смецце, абтрос рукі і толькі тады адламаў ружу.

Адламаў упэўнена — як узнагароду за працу.

У Тбілісі, на крутабокіх схілах Мтацмінды, у пантэоне славутых людзей Грузіі ёсць звычайная магіла, дзе пахаваны слынны паэт гордых гор і такога ж гордага народа Акакі Цэрэтэлі.

Сын князя і пясняр рэвалюцыі, ён меў найвялікшую папулярнасць сярод сваіх суайчыннікаў: яго партрэты віселі як не ў кожным грузінскім доме, яго ведалі і праўда, здаецца, усе — і старыя, і малыя.

Сам ён адчуваў гэта, а часам і, нібыта прыемна здзівіўшыся, згадваў сёетое ў сваіх запісах.

Аднойчы паэт ішоў па Фрэйлінскай вуліцы Тбілісі. Насустрач, перавальваючыся з нагі на нагу, тэпаў з нянькаю малы. Убачыўшы Цэрэтэлі, ён узрадаваўся, твар яго расплыўся ў шчаслівай усмешцы. Хлапчук тыцнуў у паэта пальчыкам і, яшчэ не ўмеючы добра гаварыць, пралепятаў: «Эй, Акакі!»

Малы, як высветлілася пасля, пазнаў Цэрэтэлі па партрэце, які вісеў у іх доме.

«Я не абдзелены ўвагаю і спачуваннем грамадства, — успамінаў пра той выпадак паэт, — хто злічыць, колькі апладысментаў наслухаўся я ў жыцці, колькі пры-

емнага бачыў я на свеце! Але ніколі я не адчуваў таго, што далі мне адчуць лепятанне гэтага малога і працягнуты да мяне пальчык».

Слава паэта і яго папулярнасць не зацерліся ў мінулым, яны ўстойліва прыжыліся і ў нашым часе.

Даўно, з самага першага ўзыходжання на Мтацмінду, мяне, як мара і як абавязак, непакоіла спакуслівае жаданне даць магчымасць гэтаму мудраму грузіну загаварыць па-беларуску.

Тым часам з'явілася і нагода—у нас у рэспубліцы рыхтавалася двухтомная анталогія грузінскай паэзіі ў перакладзе на беларускую мову. І я, маючы перад сабою падрабязны падрадкоўнік, успамінаючы арліна-горную мову сяброў, паспрабаваў пазнаёміць сваіх чытачоў з гэтым выдатным грузінскім паэтам.

Аказваецца, ёсць яшчэ і такое: асалода ад плачу.

Старажытныя грэкі казалі: «Давай насладимся плачем».

Значыць, калі можна мець асалоду ад плачу, то можна атрымаць тую ж асалоду і ад гора, бяды, няшчасця, бо плач рэдка калі бывае ад радасці, ён часцей за ўсё ад непамыслоты.

Значыць, можа быць і такое: «насладимся» бядою?

Якая жахлівая, халодная глыбіня ў гэтай лагічнай сентэнцыі! Аж боязна думаць далей, каб не ўпасці, як у калодзеж, у яе зварушлівае прадонне.

Ці правільнае наша сцвярджэнне, што мы ўсё развіваемся і развіваемся толькі наперад? А раптам усё наадварот, а раптам мы развіваемся назад?

Бо калі мы ідзём толькі наперад, то чаму за сто пяцьдзесят год, да прыкладу, не з'явілася новага Льва Талстога, а ў беларускай літаратуры ніводзін паэт не напісаў лепшага верша пра родную мову, як «Ты мой брат, што завуць беларусам» Алеся Гаруна?

А можа, развіваемся мы ўсё ж вось так: крок наперад, крок назад—для нейкай незразумелай нам раўнавагі?

Часам беларускую літаратуру папракаюць за празмерную, як некаторыя лічаць, увагу да дзядоў і бабуль. А ці можа быць увогуле празмернаю ўвага да чалавечай памяці і мудрасці, бо людзі, якія пражылі доўгае і цяжкае жыццё, якраз і з'яўляюцца самой памяццю і самой мудрасцю?

Чалавека гады і жыццё робяць мудрым!

У Лацінскай Амерыцы таксама, чытаў, шануюць старых. Там кажуць: калі ў сельве памірае стары чалавек, то разам з ім знікае цэлая бібліятэка.

Колькі ж у нас, на Беларусі, бясследна знікла такіх бібліятэк, якія захоўвалі столькі мудрасці і жыццёвага вопыту! Таму нам, беларускім пісьменнікам, трэба спяшацца запісаць для нашчадкаў, захаваць гэтыя бібліятэкі, у якіх сабраны розум стагоддзяў і жыццёвая трываласць нашага народа.

Каб новыя пакаленні ведалі, што яны нарадзіліся не на голым месцы, што да іх на гэтай зямлі ўжо жыла і весялілася, радавалася і пакутавала Радзіма.

Толькі дзве славутыя постаці—Францыск Скарына і Кастусь Каліноўскі—і гэтага ўжо, здаецца, дастаткова, каб беларускаму народу адчуць, зразумець, усвядоміць, спасцігнуць сябе народам.

А былі ж яшчэ Кірыла Тураўскі і Ефрасіння Полацкая, Сымон Будны і Пётр Мсціславец, Васіль Вашчыла і Васіль Цяпінскі, Францішак Багушэвіч і Янка Купала...

Дзе яшчэ ў свеце можна пачуць такое: «Роднай мовы не ведаю»?!

Хто яшчэ, акрамя нас, беларусаў, можа пахваліцца такою дурнотаю: «Роднай мовы не ведаю»?!

Які яшчэ дзяржаўны функцыянер можа прызнацца ў сваім невуцтве: «Роднай мовы не ведаю»?!

І ўрэшце, хто ў свеце можа зразумець такі абсурд: «Роднай мовы не вывучаў»?!



Хіба можа чалавек лічыць сябе пісьменным, калі роднай мовы ён не вывучаў?!

У літаратурных спрэчках, якія (сярод многіх іншых праблем) абудзіла перабудова, настойліва высвятляюць свае адносіны прыгажосць і злабадзённасць. Здаецца нават, што між імі ідзе барацьба не на жыццё, а на смерць. Злабадзённасць імкнецца засланіць сабою прыгажосць, а то і выцесніць яе, каб раскашавацца, пасвіцца адной на літаратурнай ніве, і ад гэтага сама драбнее, і нам становяцца бачнымі ўсе яе недахопы.

Злабадзённасць без прыгажосці—крыклівая і непаўнацэнная; яна не можа стаць пастаяннаю, доўга хваляваць чытача, бо разлічана толькі на сённяшні дзень. Хаця і прыгажосць без злабадзённасці нешта страчвае перад сучасным чытачом, бо яна разлічана не толькі на сёння, але і на заўтра.

Злабадзённасць—імгненная, прыгажосць—вечная.

І ад таго, як скончыцца гэтая барацьба, залежыць вельмі многае. І нават сам чалавек—ці абновіцца ён душою, стане яшчэ болей прыгожым, ці так угнеавецца, раззлуецца, наблізіцца да раздражнёнай жывёліны, калі ўжо ніякая прыгажосць не паможа.

Лёс беларускай мовы.

Аб'яднацца з гэтымі, раз'яднацца з тымі. Узяцца за гэта, паспрабаваць тое. Адкрыць адну школу, адзін клас, а то і зусім паўкласа з беларускай мовай навучання—як для індзейцаў якой-небудзь рэзервацыі.

Гаварыць, гаварыць, гаварыць. І ўсё гэта няшчыра, і ўсё гэта без асабістай зацікаўленасці, загадзя ведаючы, што такі клопат не дасць ніякіх вынікаў, не стане ніколі поспехам. І нібыта ўжо зараз радуюцца чыноўнікі, што здабыткаў не чакаецца, потым можна будзе развесці рукамі—вы ж, маўляў, бачыце, мы хацелі, стараліся, але ж сам народ... Няма выйсця...

І так ужо хочацца падказаць такім гаварунам: «Ёсць, ёсць выйсце». Для гэтага трэба ўсяго толькі сапраўдная шчырасць і адно распараджэнне, скажам, па Міністэрству асветы БССР: «Навучанне ў школах Беларусі вядзецца на беларускай мове». І тут жа, выдаўшы такое распараджэнне, трэба адразу ж прымаць другое—аб стварэнні рускіх, польскіх, украінскіх, літоўскіх, яўрэйскіх школ—каб на тэрыторыі рэспублікі не была пакрыўджана ніводная іншая нацыянальнасць.

І гэта стала б узорам сапраўднага інтэрнацыяналізму і дружбы народаў.

Грамадства, якое кідае каменне ў сваіх паэтаў,—хворае, яго трэба неадкладна лячыць.

Якой бы яшчэ прыгажэйшаю стала наша беларуская мова, калі б вярнуць ёй яе гістарычныя асаблівасці як вымаўлення, так і напісання. Вярнуць страчаную мяккасць: сьненні, песьня, сьнег; натуральнасць: паллю, Ілліч, Вулляна; мілагучнасць: сыне, Рамане, голубе.

Семдзесят гадоў эксперыментаў над селянінам.

Харчразвёрсткі і харчпадаткі. Знішчэнне тых, хто ўмее працаваць. Раскулачванне гаспадароў і перадача іх зямлі тым, хто ніколі не ўмеў і не хацеў працаваць. Вайна з яе страшнейшым цяжарам. Пасляваенны час, калі з калгасаў вымяталася ўсё падчыстую і калі за ўкрадзеныя тры каласкі давалі пяць гадоў турмы. Эксперымент з кок-сагызам і кукурузаю. Невыносныя падаткі на прысядзібны ўчастак, калі абкладаннем абносілася кожнае дрэўца ў гародзе, кожны кусцік, лічы, кожная травінка. Нядоімкі, пазыкі, падатак... Калгаснікі амаль круглы год галадалі і толькі марылі пра хлеб. І да ўсяго гэтага яшчэ поўная бяспраўнасць—у селяніна толькі нядаўна з'явіўся пашпарт, а дасюль у яго ніякага дакумента, што сведчыць асобу, не было. Толькі адна працоўная кніжка раба. Бяспраўны, ён нікуды не мог паехаць, не мог кінуць калгас. Праца яго была трэба, а сам ён—не патрэбен нікому.

5*

І семдзесят гадоў эксперыментаў над хлеябаробам па злой волі нягоднікаў ператварыліся ў семдзесят гадоў здзеку над ім.

Бяспраўны парабак у самай вольнай краіне ў свеце, няволя, прыгон — пры самай перадавой грамадскай сістэме...

Жудасна! Пачварна! Бесчалавечна!

Ісціна не павінна станавіцца будзёншчынай. І наадварот. Бо ісціна, якая стала будзёншчынай, — абсурд: яна драбнее, раствараецца ў жыцці настолькі, што ўжо ніхто не лічыць яе ісцінай і пагардліва не заўважае яе.

На адной з сустрэч у Акадэміі навук БССР, дзе, як кажуць, знаёміліся пісьменнікі з вучонымі, доктар навук абураўся:

— Вунь па тэлебачанні нядаўна бурак паказвалі. Вялікі-вялікі, як гара. І таго, хто яго вырасціў. Зорка Героя на грудзях. А мне хацелася падысці, першым чынам садраць з яго грудзей зорку і закрычаць: «Што вы робіце? Што прапагандуеце?! Чым радуецеся?! Гэта ж не бурак — а страшэнная бомба: ён увесь начынены нітратамі!»

Яго ж разгубленасць і засмучэнне:

— Калі нічога не зменіцца, калі ў самы бліжэйшы час не будуць прыняты жорсткія меры ў абарону зямлі, вады і паветра, праз дваццаць гадоў экалагічная абстаноўка ў рэспубліцы прыме незваротны працэс, і тады ўжо нам ніхто не паможа.

Нітраты, нітраты... Адно шкоднае, а другое — еш колькі хочаш... А мне здаецца, што гэтая розніца знарок прыдумана, каб яшчэ больш заблытаць разгубленага чалавека, які і так ужо не ведае, чым харчавацца, каб ён, дзівак, зараз патрабаваў да свайго штодзённага стала нітраты — як гарчыцу, ці хрэн, ці якія іншыя прыправы.

«Урачыха». Так мы пішам. Жахліва. Што яна хоча ўрачы? А чаму не «лекарка», «доктарка»? Мусіць, таму, што ў слоўніку «ўрачыха» стаіць першае.

Супярэчнасці ўнутры народа можа вырашыць толькі сам народ. Збоку вырашыць іх немагчыма. Распаліць, яшчэ больш развярэдзіць збоку іх можна. Вырашыць — ніколі.

Думка — вось той бур, з дапамогай якога чалавек даследуе сваю пароду.

У свеце з нас ужо смяюцца. А раней — паважалі. І смяюцца якраз з таго, за што паважалі, — з нашай добрасумленнасці, шчырасці, адданасці, працавітасці, з нашага «угодничеекого рвения». Разбурыць старажытны храм — калі ласка, атруціць зямлю — калі ласка, асушыць балоты і забіць рэкі — калі ласка, вырачыся сваёй роднай мовы — мы першыя, мы з радасцю, калі ласка...

Любую, нават дурную пастанову мы, не думаючы, спяшаемся дагодліва перавыканаць.

Дзіўна, што наша шчырая добрасумленнасць і адданая праца робіцца ў такім выглядзе амаральнаю.

Як рашучым, валявым рашэннем, не параіўшыся з народам, былі пазачыняны ўсе беларускія школы, так гэткім жа рашучым і валявым рашэннем, зноў не трывожачы народ, трэба іх і адчыніць.

Чаму бюракраты паўсталі супраць беларускай мовы? Чаму змагаюцца з ёю і нават ненавідзяць яе?

Таму што для іх гэта ўсяго толькі лішняя праца. Усё ж добра і так, спакойна, адладжана, наезджана. А тут яшчэ вучы «гэтую родную мову», нешта думай, нешта шукай, выдумляй, варушыся. А варушыцца яны якраз адвыклі і не хочуць.



Бюракрат баіцца, што мова стане дзяржаўнаю і яму давядзецца ўсё ж рабіць такую «цяжкую» і непажаданую работу — вучыць яе...

Зрэшты, так заўсёды бывае: калі маўчыць душа, гаворыць дурнота.

Моцны і шчаслівы народ, які мае такога паэта, што кожным сваім словам усё жыццё быў разам з ім, што так глыбока выказваў яго думкі, яго надзеі і спадзяванні. Але моцны і шчаслівы таксама і паэт, які мае такі народ, што шануе кожнае яго слова, што яго, Паэта, плоць ад плоці сваёй, кроў ад крыві сваёй, узняў на такую ганарова-недасяжную вышыню.

Здаецца, Тарас Шаўчэнка не мог нарадзіцца нідзе, апрача як толькі на сваёй любай Украіне. Але, нарадзіўшыся на роднай Украіне, стаўшы выказнікам самых запаветных жаданняў свайго народа, стаўшы яго голасам і слыхам, ён стаў блізкім і родным, стаў сваім усім народам Савецкага Саюза, усім народам зямлі. Ён стаў і нашым, беларускім, таксама. Ужо зараз нельга ўявіць беларуса, які не ведае, да прыкладу, «Садок вішнёвы каля хаты», ці «Як памру, то пахавайце», ці «Раве і стогне Днепр шырокі», ці іншых выдатных, хрэстаматыйных для ўсіх народаў радкоў і вершаў Кабзара.

У кожнага сёння на слыху гэтыя такія простыя на першы погляд і такія глыбокія і складаныя на сур'ёзны падыход і сур'ёзнае прачытанне творы, якія гучаць і па-беларуску ў перакладах Янкі Купалы і іншых нашых слаўных майстроў. Беларусы ведаюць іх гэтак жа, як і тыя шчымлівыя вершы, якія пісаліся ўдалечыні ад роднага краю, у Арэнбурзе, у Орскай крэпасці, у Кос-Арале, у самоце выгнання (дарэчы, вельмі кранае, што большасць вершаў паэта створана па-за межамі Украіны); ведаюць тыя, разнасцежаныя, як сэрца, і балючыя, як само паэтава жыццё, радкі, што нараджаліся пад час адзіноты ва ўражлівай і далікатнай душы прыгоннага і выгнанніка — пад час белых начэй Санкт-Пецярбурга ці сярод пяскоў закаспійскіх пустыняў.

Вершы Тараса Шаўчэнкі, здаецца, створаны не адным паэтам, абраным для гэтай пачэснай місіі, а ўсім украінскім народам. І як створаныя народам яны зноў вярталіся ў народ. І не толькі ў свой. Шмат якія беларусы знаёміліся з творчасцю генія з вуснаў свайго народа, а пасля ўжо даведваліся з кніг, каму належаць гэтыя радкі. Нават наш незабыўны Янка Купала, які яшчэ ў дзяцінстве запомніў шаўчэнкаўскую песню «Ад сяла да сяла», у сталым узросце ўжо адкрыў, што яна мае такога знанага, такога слыннага аўтара.

Вось так, будучы глыбока нацыянальным паэтам, Тарас Рыгоравіч Шаўчэнка зрабіўся для ўсяго свету такім інтэрнацыянальным. Як тут не згадаць яго мару пра «сям'ю вольную, новую», якая ўспамяне яго некалі шчырым, добрым словам.

І мы, гэтая вольная і новая міжнародная сям'я, з удзячнасцю ўспамінаем яго сёння і будзем успамінаць заўсёды найшаноўнейшым словам павагі і любові.

Ён быў інтэрнацыяналістам, бо да самазабыцця любіў сваю радзіму і паважаў усе іншыя народы свету.

Ён быў прарокам, бо верыў у лепшае і жадаў усім людзям зямлі росквіту і шчасця.

І як прароча, як упэўнена і па-сучаснаму пераканана гучаць у трывожныя для ўкраінскага і беларускага народаў чарнобыльскія гады яго ўсхваляваныя словы пра нязводнасць жыцця, пра яго вечнасць і неўміручасць, не зважаючы на ўсе беды, нягоды і засмучэнні:

> І будзе сын, і будзе маці,
> І будуць людзі на зямлі!

Дык дзякуй жа вам, Тарасе Рыгоравічу, за гэтую вашу ўпэўненасць!

Падымаючыся ад улядзелага яшчэ Дняпра на самую высокую і самую паважаную гару Украіны — на Чарнечую гару ў Каневе, якая прыняла назаўсёды Тараса Рыгоравіча Шаўчэнку, — я думаў, як гэта хораша, што шлях да блізкай магілы не кароткі, не імгненны, а вось такі запаволена-роздумны, з трыста шасцюдзесяццю чатырма прыступкамі — менавіта столькімі, колькі дзён было ў тым годзе, калі кабзар нарадзіўся, за выняткам аднаго, таго чорнага і горкага дня, калі ён памёр. Дык вось на гэтых прыступках, у сцішаным гурце гасцей паэтычнага свята і яго гаспадароў добра думалася і хораша ўспаміналася.

«савецкіх» сацыял-шавіністаў», надрукаваным у «Звезде» 6 кастрычніка 1918 года, прыадчыніў і другі бок негатыўнага стаўлення да стварэння беларускай нацыянальнай дзяржаўнасці. «Мы лічылі,— пісаў ён тады,— што беларусы не з'яўляюцца нацыяй і што тыя этнаграфічныя асаблівасці, што іх адмяжоўваюць ад рускіх, павінны быць зжыты. Нашаю задачай з'яўляецца не стварэнне новых нацый, а знішчэнне старых нацыянальных рагатак». Сказана ў рэчышчы канцэпцыі сусветнай пралетарскай рэвалюцыі. У сувязі з гэтым шмат хто з савецкіх і партыйных кіруючых кадраў лічылі, што нацыянальнае пытанне ў Беларусі можна вырашыць у рамках Заходняй вобласці, што ўваходзіла ў склад РСФСР на правах звычайнай адміністрацыйнай адзінкі. На іх думку, РСФСР, якая ўключала ў сябе і беларускія губерні, павінна была зрабіцца першапачатковай асновай сусветнай рэвалюцыі. Таму яны не надавалі асаблівага значэння выбару канкрэтных формаў нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва ў Беларусі і вызначэнню граніц паміж нацыянальнымі дзяржаўнымі ўтварэннямі. Шмат хто з партыйных кадраў на месцы лічыў, што ўсё роўна хутка надыдзе сусветная рэвалюцыя і зруйнуе ўсе старыя нацыянальныя формы дзяржаўнага ўладкавання жыцця народаў і падзяляючыя іх межы. Гістарычным падзеям сусветнага значэння заўсёды спадарожнічалі вялікія ілюзіі.

У Беларусі будаўніцтва новага жыцця, як і працэс утварэння нацыянальнай дзяржаўнасці, натыкнуліся на сур'ёзныя перашкоды контррэвалюцыі. Прынамсі, рэвалюцыі без контррэвалюцыі не бывае. Гэта цалкам пацвердзіў вопыт грамадзянскай вайны. Тайныя і відавочныя ворагі рэвалюцыі ў барацьбе з Савецкаю ўладаю імкнуліся выкарыстоўваць нацыянальныя лозунгі, спрабавалі пасеяць недавер да ўсяго, што ішло з рэвалюцыйных цэнтраў краіны — Петраграда і Масквы. У гэтых умовах нацыянальнае пытанне ў Беларусі трапіла як бы ў фокус палітычнай барацьбы. Палітычныя групоўкі, што не прызналі сацыялістычнай рэвалюцыі, разгарнулі барацьбу з Савецкаю ўладай пад лозунгамі «абароны нацыянальных правоў», «свабоды нацыянальнага самакіравання». У сваіх мэтах яны спрабавалі выкарыстоўваць узведзенае ў закон Кастрычнікам права на самавызначэнне і дзяржаўнае адмежаванне.

З прычыны ігнаравання нацыянальнага пытання і нясвоечасовага пошуку формаў нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва ў Беларусі кіраўнікі Паўночна-Заходняга абкома РСДРП(б) выпусцілі са сваіх рук ініцыятыву па скліканню Усебеларускага з'езда, які павінен быў рэалізаваць ленінскі прынцып права беларускага народа на самавызначэнне. Гэтую ініцыятыву перахапіла Беларуская рада, створаная яшчэ пры Керанскім з прадстаўнікоў розных беларускіх палітычных груповак, і Беларускі абласны камітэт (БАК) пры Выканаўчым камітэце Усерасійскага Савета сялянскіх дэпутатаў, што грунтаваўся на пазіцыях эсэраў. Як паведамляла 6 снежня 1917 года газета «Известия», прадстаўнікі гэтых арганізацый, наведаўшы народнага камісара па нацыянальных справах І. В. Сталіна, дамагліся ад яго згоды на правядзенне краявога з'езда прадстаўнікоў працоўнага народа. Было дамоўлена, што з'езд склікаецца ад імя БАКа і Саветаў Беларусі. Са свайго боку Наркамнац заявіў аб «безумоўнасці і поўным праве» свабоднага самавызначэння беларускага народа. Напярэдадні адкрыцця з'езда, 14 снежня 1917 года (па ініцыятыве Рады Усебеларускі з'езд быў урачыста адчынены 5 снежня 1917 года, але згодна патрабаванню эсэраўскага кіраўніцтва БАКа афіцыйна сваю работу ён распачаў 15 снежня), І. В. Сталін на запытанне таварыша старшыні з'езда Савіча так сфармуляваў пазіцыі Наркамнаца па праблеме нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва ў Беларусі (прывядзём асноўныя моманты гэтай размовы па прамым провадзе): «Ля апарата народны камісар па нацыянальных справах Сталін. Чым магу служыць?

— Ля апарата таварыш старшыні з'езда Савіч. З прычыны з'явіўшыхся ў друку звестак пра тое, што ў Брэсце на мірных перамовах адным з бакоў прапанавана ўключыць Беларусь у склад Польшчы, я ўпаўнаважаны Усебеларускім з'ездам запытаць афіцыйна:

1) наколькі праўдзівыя гэтыя звесткі;
2) як глядзіць на гэта пытанне ўрад народных камісараў;
3) якая пазіцыя занятая ўрадам народных камісараў у адносінах да гэтага пытання?
Будзем чакаць ля апарата.
Сталін. Праз паўгадзіны дадзім Вам адказ.
Савіч. Добра.
Сталін. Чакайце, праз паўгадзіны будзе адказ.
Праходзіць паўгадзіны.



— Гаворыць нарком Сталін. Ні адным з бакоў у Брэсце пытанні пра Беларусь не абмяркоўваліся. Дэкларацыя нашай мірнай дэлегацыі была надрукавана ў свой час. Асновы дэкларацыі: ніякага гвалтоўнага ўтрымання народа ў рамках якой бы там ні было дзяржавы, народу забяспечваецца права свабоднага самавызначэння шляхам рэферэндуму; вывад войскаў, стварэнне часовага кіравання з дэмакратычна абраных прадстаўнікоў згаданага народа, вяртанне бежанцаў на радзіму для ўдзелу ў рэферэндуме. Па пытанню аб Беларусі магу сказаць тое самае, што і пра ўсе іншыя народы Расіі, гэта значыць поўнае самавызначэнне, аж да адмежавання. Калі працоўнае насельніцтва абласцей Расіі выкажацца за федэратыўны лад, то Савет народных камісараў нічога не будзе мець супраць гэтага... Наогул беларускія таварышы не павінны турбавацца, яны павінны ведаць: СНК будзе абараняць інтарэсы працоўных мас Беларусі ўсімі сродкамі.

Савіч. Скажыце, як можа быць створана дэмакратычнае кіраванне без самавызначэння? Час не церпіць, а калі Устаноўчы сход адхіліць федэрацыю? Ці будзе адказ на згаданае пытанне?

Сталін. Устаноўчы сход не мае і не можа мець ніякага права на забарону самавызначэння народа. Да пабачэння.

Савіч. Усяго добрага».

І хаця Сталін унікнуў прамога адказу, тым не менш ён даў зразумець, што ніхто не варты узурпіраваць права народа на самавызначэнне. Такая была пазіцыя СНК РСФСР, і Сталін перадаў яе гранічна дакладна. Даючы дазвол на правядзенне Усебеларускага з'езда, у Наркамнаце меркавалі, што ён прымае рашэнне аб самавызначэнні беларускага народа, грунтуючыся на савецкай аснове. Аднак падзеі рушылі далей у іншым рэчышчы. З прычыны недаацэнкі нацыянальнага пытання кіраўніцтва Паўночна-Заходняга абласнога камітэта РСДРП(б) не збіралася склікаць з'езд і, натуральна, не здолела высунуць такую праграму дзеяння, вакол якой аб'ядналася б большасць дэлегатаў. З'езд аб'ядноўваў разнастайныя палітычныя плыні — ад відавочна правых, кансерватыўных прадстаўнікоў розных партый да бальшавікоў і тых прадстаўнікоў рэвалюцыйна-дэмакратычных арганізацый, што іх падтрымлівалі. Асноўную частку з'езда складалі салдаты і сяляне, шмат хто з іх дакладна не разбіраўся ў палітычнай сітуацыі, што склалася ў Беларусі. З 1872 дэлегатаў (з іх 1167 мелі рашаючы голас, 705 — дарадчы) толькі невялікая купка стаяла на савецкай платформе. Гэта была левая фракцыя, што аб'ядноўвала 118 дэлегатаў. Склад дэлегатаў з'езда адлюстроўваў сацыяльную і палітычную пярэстасць беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, які па сацыяльна-класаваму складу і палітычных мэтах не быў адзіны. У ім дакладна вызначаліся два напрамкі па ўсіх карэнных пытаннях рэвалюцыі, у тым ліку і па нацыянальным. Адзін з іх — гэта напрамак на «свой», другі — на пралетарскі шлях вырашэння нацыянальнага пытання ў Беларусі. Частка нацыянальна-вызваленчага руху, прадстаўленая рознымі беларускімі маёмаснымі катэгорыямі і іх палітычнымі партыямі і арганізацыямі, патрабавала ажыццяўлення самавызначэння Беларусі «сваімі» сіламі. Другая ж яго частка — асноўныя масы рабочых, сялян і сярэдніх слаёў гарадскога насельніцтва, якія, уласна кажучы, і з'яўляліся нацыянальна-вызваленчай дэмакратычнай плынню сацыялістычнай рэвалюцыі,— імкнулася да самавызначэння Беларусі на дэмакратычнай, савецкай аснове.

Кіраўнікі Паўночна-Заходняга абкома РСДРП(б) не бачылі непарыўнай сувязі нацыянальна-вызваленчага руху з класавымі інтарэсамі яго ўдзельнікаў. Яны аднабакова давалі ацэнку беларускаму нацыянальна-вызваленчаму руху як сепаратысцкаму, дзеянні якога нібыта былі скіраваны на адрыў Беларусі ад Савецкай Расіі. Гэта і адштурхнула ад бальшавікоў большасць дэлегатаў з'езда. Потым з гэтай нагоды В. Г. Кнорын пісаў так: «Нягледзячы на тое, што з'езд быў скліканы рукамі правасацыялістычных беларускіх элементаў, на ім была даволі моцная левая фракцыя, і пры ўмелым партыйным кіраўніцтве, магчыма, удалося б з'езд расколоць і яго рэвалюцыйную частку аб'яднаць пад савецкім сцягам. Але гэта не было зроблена з-за шэрагу хібаў». Тое ж самае сцвярджаў і А. Р. Чарвякоў: на з'ездзе была пэўная частка дэлегатаў з рабочых і сялян, настроеных цалкам на савецкі лад.

Пралікі бальшавікоў скарысталі прадстаўнікі Рады і БАК. Яны захапілі кіруючае становішча на з'ездзе і прапанавалі дэлегатам дыскутаваць аб формах самавызначэння Беларусі, аб яе ўзаемаадносінах з Расіяй. Зразумела, абмеркаванне такога пытання было звязана і з выпрацоўкай адносін да Савецкай улады. І гэта прынасіла свой плён. Пасля доўгай дыскусіі з'езд прыняў першы пункт рэзалюцыі аб стварэнні органа краёвай ула-

ды «ў асобе Усебеларускага Савета сялянскіх, рабочых і салдацкіх дэпутатаў», да якога павінна была перайсці ўлада ў Беларусі. З'езд таксама абвясціў стварэнне «рэспубліканскага ладу». Ставячы такім чынам пытанне пра формы і сутнасць дзяржаўнай улады ў Беларусі, з'езд трапіў у палон дробнабуржуазных ілюзій. Гэтым рашэннем ён фактычна не прызнаў існаванне органаў абласной Савецкай улады. Гэта ішло насуперак з дамоўленасцю ў Наркамнаце, які абавязковай умовай ставіў прызнанне Савецкай улады.

З'езд відавочна абвастрыў праблему нацыянальнага самавызначэння беларускага народа. З'езд таксама паставіў практычнае пытанне аб тым, хто можа гаварыць ад імя нацыі і прадстаўляць яе. Безумоўна, у тых палітычных абставінах, што склаліся ў Беларусі адразу ж пасля перамогі сацыялістычнай рэвалюцыі, мог існаваць толькі адзін адказ: самі працоўныя і іх паўнамоцныя органы — Саветы рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў. Аднак гэтага і не хацела прызнаваць кіруючае ядро з'езда, спасылаючыся на тое, што Саветы нібыта праводзяць «бяздушную палітыку бальшавіцкага цэнтралізму», якая, маўляў, мала чым адрозніваецца ад палітыкі царызму.

Абставіны патрабавалі далікатных захадаў. Але кіраўнікі Паўночна-Заходняга абласнога камітэта РСДРП(б) і Аблвыканзаха ўпарта трымаліся сваёй старой тактыкі ў нацыянальным пытанні, адмаўляючы неабходнасць утварэння беларускай савецкай дзяржаўнасці. Замест таго, каб пераканаць сваіх апанентаў і нейтралізаваць іх палітычнымі метадамі, яны скарысталіся крайняю мераю — рэвалюцыйным гвалтам.

17 снежня 1917 года Паўночна-Заходні абком РСДРП(б) выказаўся за роспуск з'езда. Грунтуючыся на яго рашэнні, Саўнарком Заходняй вобласці пастанавіў: «Ачапіць будынак, дзе адбываецца пасяджэнне Беларускага з'езда, арыштаваць прэзідыум з'езда, а таксама абраны ім орган краёвай улады, адклікаць са з'езда... бальшавікоў і тых, хто стаіць на пункце гледжання Савецкай улады, і сам з'езд абвясціць распушчаным». Ноччу з 17 на 18 снежня Усебеларускі з'езд быў разагнаны. Аднак гэтая акцыя мела свае негатыўныя вынікі. Арганізатары з'езда, якія засталіся ў Мінску, змянілі сваю тактыку, пачалі рыхтавацца да ўзброенай барацьбы. 18 снежня на тайным пасяджэнні Савета з'езда, якое адбылося ў чыгуначным дэпо ў Мінску, быў створаны апаратыўны цэнтр — выканком, які ўзначаліў лідэр народніцкага крыла Беларускай сацыялістычнай грамады (БСГ) Ф. Ф. Грыб. Як сведчыў потым Грыб, «выканаўчы камітэт рады, папоўніўшы свой склад прадстаўнікамі нацыянальных меншасцяў, сумесна з Цэнтральнай вайсковай радай распачаў актыўную дзейнасць па падрыхтоўцы паўстання». Аб падрыхтоўцы паўстання ведалі, аднак, не ўсе члены выканкома. Відаць, не ўсім давяралі.

Такі паварот арганізатараў з'езда адлюстраваў у сабе палітычную эвалюцыю тых партый і арганізацый, якія дабіваліся стварэння беларускай нацыянальнай дзяржаўнасці. Цяпер яны, адкінуўшы палітычныя метады барацьбы, наважыліся рэалізаваць свае мэты ўзброеным шляхам. Аднак і гэты план быў нерэальны. Працоўныя не падтрымлівалі іх у гэтым імкненні.

У гэтых абставінах III Надзвычайная Паўночна-Заходняя канферэнцыя РСДРП(б), што праходзіла ў Мінску ў канцы снежня 1917 года, у цэнтр сваёй увагі паставіла нацыянальнае пытанне. Вядома, што з дакладам па гэтым пытанні выступіў старшыня СНК Заходняй вобласці К. І. Ландар. Як паведаміў друк, у абмеркаванні даклада бралі ўдзел многія дэлегаты. Канферэнцыя прыняла па дакладу разгорнутую рэзалюцыю. На жаль, матэрыялы гэтай канферэнцыі па сённяшні дзень не знойдзены ў архівах. Таму зараз цяжка зрабіць выснову, якую ж пазіцыю ў нацыянальным пытанні заняла канферэнцыя. Ёсць меркаванне, што яна вызначыла далейшыя шляхі ўмацавання Савецкай улады ў Беларусі. Аднак разгорнутае мірнае савецкае будаўніцтва ў лютым 1918 года было перапынена наступам кайзераўскіх войскаў. Па сутнасці, амаль уся тэрыторыя Беларусі была захоплена германскімі акупантамі, што і абумовіла своеасаблівасць яе нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва.

Нямецкая акупацыя ажывіла дзейнасць разнастайных беларускіх палітычных груповак. Выканком Усебеларускага з'езда, абраны падпольна яшчэ ў снежні 1917 года, як толькі Мінск пакінулі савецкія войскі, 21 лютага 1918 года стварыў «урад» — Народны сакратарыят Беларусі. Гэты ўрад гучна абвясціў аб сваім існаванні, выдаўшы так званую «Першую ўстаўную грамату да беларускага народа», дзе зазначыў, што будзе абараняць заваёвы рэвалюцыі. 9 сакавіка выканком надрукаваў «Другую ўстаўную грамату да беларускага народа», якая ўжо афіцыйна абвясціла Беларускую народную рэспубліку (БНР). У другой «устаўной грамаце» гаворка ішла пра абарону сацыяльных заваёў працоўных. Гэтым «рэвалюцыйным крокам» Народны сакратарыят Беларусі разлічваў паслабіць вастрыню класавых супярэчнасцей і адначасова завалодаць сімпатыяй беларускага народа. Аднак гэта не супадала з жаданнем большасці беларускага народа, які прытрымліваўся іншай сацыяльна-палітычнай арыентацыі. Ён бачыў сваю абарону ў непарыўным саюзе з Савецкай Расіяй.

18 сакавіка 1918 года быў рэарганізаваны выканком Беларускага з'езда ў Раду БНР, якая, на думку яе актыўных дзеячаў, павінна была зрабіцца «заканадаўчым органам». У ёй, як і ў Народным сакратарыяце, была прадстаўлена кіруючая галоўка дробнабуржуазных партый: БСГ, эсэраў, меншавікоў, Бунда, Паалей-Цыёна — тыя палітычныя сілы, што раней выступалі супраць сацыялістычнай рэвалюцыі. У Радзе былі прадстаўлены і беларускія буржуазна-нацыяналістычныя арганізацыі, што ўваходзілі ў «Мінскае народнае прадстаўніцтва», кіруючае ядро якога складалі памешчык Р. Скірмунт, генерал Кандратовіч, ксёндз В. Гадлеўскі, А. Кульчыцкі, П. Аляксюк, В. Чавусаў і іншыя. Яны вельмі хутка ўсталявалі свой кантроль над Радай і Народным сакратарыятам.

Радаўскія дзеячы, абвясціўшы пра стварэнне БНР, наважыліся абвясціць і яе «незалежнасць». Ініцыятарамі гэтай акцыі выступілі Я. Лёсік, П. Крачэўскі, Я. Варонка, Ф. Грыб, П. Аляксюк, Р. Скірмунт, К. Езавітаў, І. Серада, А. Смоліч і іншыя. Іх падтрымалі лідэры віленскай групы — А. Луцкевіч, І. Луцкевіч, У. Ластоўскі, Я. Станкевіч. На гэты час віленская група фактычна адмовілася ад сваёй канцэпцыі «аднаўлення дзяржаўнай незалежнасці былой Беларуска-Літоўскай дзяржавы». Яна заняла платформу мінскіх «незалежнікаў» — падтрымлівала іх імкненне да «дзяржаўнай адасобленасці Беларусі ад Расіі ў яе этнаграфічных межах». 24 сакавіка 1918 года гэта пытанне было вынесена на абмеркаванне сесіі Рады БНР. З дакладам «Палітычнае становішча Беларусі» выступіў старшыня фракцыі БСГ А. Смоліч, які абгрунтаваў неабходнасць абвяшчэння незалежнасці БНР.

Спрэчкі па дакладу працягваліся ўсю ноч і завяршыліся раніцай 25 сакавіка. У гэты дзень Рада БНР, прыняўшы «Трэцюю ўстаўную грамату», абвясціла пра спыненне «ўсялякіх адносін» з Расіяй. У гэтай «устаўной грамаце» яшчэ не ішло гаворкі пра саюз з Германіяй, аднак праводзілася такая думка: усе дружалюбныя народы павінны памагчы Радзе БНР ажыццявіць яе «палітычна-дзяржаўныя ідэалы». «Трэцюю ўстаўную грамату» радаўскія дзеячы называлі нават «рэвалюцыйным актам». Гэты тэзіс сёння ўзяты на ўзбраенне сучаснымі саветолагамі, заходнімі радыёгаласамі. Яны падаюць «Трэцюю ўстаўную грамату» як галоўную вяху ў развіцці «беларускай нацыянальнай рэвалюцыі», якая нібыта «дасягнула найбольшага свайго ўздыму ў акце абвяшчэння Беларускай народнай рэспублікі».

З гістарычнага пункту гледжання сам акт абвяшчэння незалежнасці БНР, прыняты 25 сакавіка 1918 года, не стварыў беларускай нацыянальнай дзяржавы. Гэта была ілюзія, якую тады ніхто не падтрымаў. Нават германскі ўрад нядобразычліва паставіўся да канцэпцыі стварэння незалежнай беларускай дзяржавы. Гэта супярэчыла яго планам. Безумоўна, сама канцэпцыя стварэння такой дзяржавы, як Беларуская народная рэспубліка, была нерэалістычнай. Калі была абвешчана БНР, працягвалася першая сусветная вайна, і, натуральна, межы іншых дзяржаўных утварэнняў, што ўзніклі ў Еўропе, не былі вызначаны. Антанта меркавала, што беларускія землі зробяцца сферай уплыву буржуазна-панскай Польшчы. Таму ніводная рэальна існуючая палітычная сіла ў Еўропе не выказала зацікаўленасці, каб падтрымаць БНР. Яе існавання не прызнала ніводная дзяржава.

Нельга пагадзіцца са сцвярджэннямі некаторых гісторыкаў, што гэта была марыянетачная дзяржава ў руках Германіі. Бясспрэчна, гэта памылковая выснова: БНР не мела сваіх органаў улады на месцах, не мела войска, не была вызначана яе тэрыторыя і межы, не было правамоцнай адказнасці яе дзяржаўных органаў. У прамым сэнсе — БНР не была дзяржаваю. Хутчэй, гэта была ідэя дзяржаўнасці, якую намагаліся рэалізаваць радаўскія дзеячы пры падтрымцы знешніх сіл.

Відавочна, былі і іншыя фактары, што стрымлівалі ажыццяўленне гэтай ідэі. Трэба прызнаць, што самасвядомасць беларускага народа ў шырокай яго масе толькі яшчэ фарміравалася, і таму на згаданым гістарычным этапе імкненне да самавызначэння гэтай, па сутнасці, «мужыцкай», кажучы словамі У. І. Леніна, нацыі толькі яшчэ прачыналася. Таму ідэя нацыянальнай дзяржаўнасці, што зыходзіла ад палітычных супраціўнікаў сацыялістычнай рэвалюцыі, не магла быць успрынята шырокімі народнымі масамі. Прынамсі, трэба зазначыць, грамадская думка ўсёй Еўропы, у тым ліку і Савецкай Расіі, яшчэ недастаткова была падрыхтавана да ўспрыняцця самога факта самавызначэння белару-

скага народа ў незалежную нацыянальную дзяржаву, і таму імкненне радаўскіх дзеячаў і не толькі іх да нацыянальнага адраджэння не заўсёды знаходзіла неабходную спагаду і падтрымку.

Як вядома, «акт 25 сакавіка» быў прыняты Радай БНР праз два дні пасля таго, як германскі імператар Вільгельм II падпісаў дэкларацыю аб незалежнасці буржуазнай Літвы. У сувязі з гэтым радаўскія дзеячы ўсё яшчэ спадзяваліся, што германскі ўрад пойдзе ім насустрач — афіцыйна прызнае БНР. Гэтае спадзяванне пасеяў сярод іх кіраўнік цэнтрысцкай (каталіцкай) партыі рэйхстага Эрцберг, з якім праз У. Ластоўскага былі наладжаны сяброўскія адносіны.

Уплывовы саюзнік бэнээраўцаў быў добра інфармаваны аб памкненнях арганізацыі «Сувязь незалежнасці і непадзельнасці Беларусі», створанай У. Ластоўскім яшчэ ў 1916 годзе, якая першая сфармулявала і высунула ідэю стварэння незалежнай беларускай дзяржаўнасці ў яе этнаграфічных межах. Гэта якраз і не задавальняла германскія ўрадавыя вярхі. Безумоўна, галоўная мэта германскага імперыялізму заставалася тая самая — трымаць Беларусь у арбіце сваіх інтарэсаў. Менавіта гэта і адчулі найбольш кансерватыўныя члены рады (Р. Скірмунт, Я. Лёсік, І. Серада, Я. Варонка, А. Аўсянік, П. Крычэўскі, П. Аляксюк), якія 25 красавіка 1918 года ад свайго імя накіравалі германскаму кайзеру тэлеграму з удзячнасцю «за вызваленне Беларусі ад цяжкага прыгнёту чужога пануючага здзеку і анархіі». Галоўны сэнс тэлеграмы ўтрымліваўся ў наступным: «Рада Беларускай Народнай Рэспублікі дэкляравала незалежнасць цалкам непадзельнай Беларусі і просіць Вашу імперскую Вялікасць замацаваць яе намаганні ў дасягненні дзяржаўнай незалежнасці і непадзельнасці краю ў саюзе з Германскай імперыяй». У тэлеграме падкрэслівалася: «Толькі пад апекаю германскай дзяржавы бачыць Рада добрую волю сваёй краіны ў будучыні».

Вядома, гэты крок нават з боку кансерватыўнага крыла Рады быў неразважлівы. Адна справа весці перамовы з такімі дзеячамі рэйхстага, як Эрцберг, іншая справа дамовіцца з прадстаўнікамі ваеннай партыі. Ваенныя ж тады праводзілі палітыку Германіі. Яны глядзелі на беларускае пытанне як на праблему ўрэгулявання ўсходніх межаў Германіі, і таму іх голас быў рашаючы і ў знешняй палітыцы. Рада практычна не мела шанцаў дамагчыся, каб Германія прызнала БНР, і па іншых прычынах. Становішча ўскладнялася тым, што ў Германіі, як і ў іншых краінах, рэальныя палітычныя сілы мала што ведалі пра Беларусь, і таму яе тэрыторыя ўспрымалася толькі як частка Расіі альбо будучай польскай дзяржавы. Усё гэта і абумовіла нерэальнасць планаў Рады БНР. Акупацыйная адміністрацыя пакуль не ішла ёй насустрач. Увесь яе апарат на акупаванай тэрыторыі Беларусі складаўся толькі з немцаў, а прадстаўнікі мясцовага насельніцтва назначаліся толькі сельскімі старастамі. Гэта акалічнасць, як пазней тлумачыў Я. Лёсік, і прымусіла Раду пайсці на такую крайнюю меру. «Зразумела, немцы патрабавалі публічнага выражэння нашых адносін да Германіі,— адзначаў ён.— Адгэтуль наша тэлеграма і Вільгельму. Мы разумелі, што нямецкая акупацыя нетрывалая, часовая і што тэлеграма Вільгельму — наша палітычная кампраметацыя. Але «блажэнны той, хто і душу сваю аддае за народ свой», гаварыў мне А. Гарун, калі я вагаўся даць свой подпіс да тэлеграмы (я быў тады старшынёй Рады БНР), а Смоліч дадаў, што калі прыйдуць бальшавікі, то можна ўцячы ў Польшчу. Тэлеграма ж нам патрэбна была для беларускай нацыянальнай справы, нам трэба было крычаць на ўсю Еўропу, што Беларусь жыве і патрабуе свайго месца сярод народаў... Ад гэтай тэлеграмы мы, культурныя працаўнікі, нічога не чакалі, а глядзелі на яе, як на непазбежную даніну немцам за тыя ўступкі, якія зрабілі нам акупацыйныя ўлады на культурным фронце».

Тэлеграма абвастрыла супярэчнасці і ў самой Радзе. У ёй вызначыліся дзве палітычныя плыні: радыкальная, якая заклікала без кампрамісаў дамагацца дзяржаўнай незалежнасці, абапіраючыся на ўнутраныя сілы народа, не зважаючы на ўціск акупантаў і іх гіганцкую моц, другая — працягвала заляцанні з акупантамі, усё яшчэ спадзеючыся на спрыяльныя абставіны і памяркоўнасць з боку германскага ўрада. Прагерманская арыентацыя выклікала незадаволенасць левага крыла Рады. Захаваўся ліст аднаго з левых дзеячаў Рады С. Рак-Міхайлоўскага членам ЦК БСГ, дзе ён выказаў пратэст з нагоды тэлеграмы, скіраванай германскаму кайзеру: «Я не магу зразумець Сацыялістычнай Грамады. Як магла Грамада (у ліку тых, хто падпісаў тэлеграму, былі і члены БСГ.— Аўт.) прывесці беларускі народ да Вільгельма? Як здолела Грамада кінуць сябе да трона Вільгельма і падаць свой голас Радзе за саюз беларускай дэмакратыі з імперыялістычнай



Германіяй?.. Грамада гэтай тэлеграмай сябе згубіла». Заява С. Рак-Міхайлоўскага выказвала агульны настрой радыкальнага крыла Рады, што ў сваёй дзейнасці намагалася абаперціся на сялянства, якое варожа сустрэла нямецкіх акупантаў. Але і тая і другая плынь падтрымлівалі захады Рады да сцвярджэння яе як «беларускага ўрада». Аднак акупацыйная адміністрацыя па-ранейшаму не прызнавала яе ў якасці вышэйшага органа дзяржаўнай улады. Вядома, Рада БНР ніяк не хацела змірыцца з такім становішчам. Яна нават пачала выдаваць свае дэкрэты, выстаўляючы сваю дзейнасць як барацьбу за «нацыянальны суверэнітэт» усяго народа. 12 ліпеня 1918 года БНР выдала дэкрэт, у якім асабліва падкрэсліла наступнае: «Усе дэкрэты ўрада Леніна, а таксама былых народных камісараў Заходняй вобласці і фронту прызнаць для Беларусі несапраўднымі. Надалей да ўсталявання законаў Беларускай Народнай Рэспублікі ўсім урадавым установам карыстацца законамі часовага былога Расійскай рэспублікі ўрада і здзяйсняць свае акты імем Часовага беларускага ўрада». Гэты дакумент падпісаў старшыня Народнага сакратарыята БНР Я. Варонка. Безумоўна, гэты дакумент раскрывае сапраўдныя класавыя памкненні Рады БНР. На думку радаўскіх дзеячаў, гаспадарчай асновай БНР павінна была зрабіцца прыватная ўласнасць на сродкі вытворчасці. Дзеячы Рады, у тым ліку А. Луцкевіч, Я. Лёсік, У. Ластоўскі, Ф. Грыб, П. Бадунова і іншыя, паддаліся правым нацыяналістычным настроям, адмовіліся ад галоўнага прынцыпу праграмы адраджэння, сфармуляванага яшчэ К. Каліноўскім,— адзінства класавага і нацыянальнага. Яны замкнуліся на дактрыне незалежнай дзяржавы і лічылі, што гэта галоўнае пытанне ў жыцці беларускага народа. Сацыяльныя пытанні іх не цікавілі. У выніку гэтага Рада не магла перацягнуць на свой бок народныя нізы, якім патрэбны былі зямля, хлеб, а потым нацыянальная дзяржава, якую спрабавалі абвясціць радаўскія дзеячы. Працоўныя слаі, якія былі, па сутнасці, прадстаўлены сялянамі, не ўспрынялі такую ідэю дзяржаўнасці. Іншыя сацыяльныя слаі — памешчыкі, шляхта, якія ў асноўнай сваёй масе былі на той час апалячаны, а таксама прамыслоўцы і купцы, якія большасцю паходзілі з яўрэяў, палякаў і рускіх, варожа сустрэлі «дзяржаўныя» памкненні Рады БНР. Гэтая ідэя была блізкая вузкаму колу асоб галоўным чынам беларускай нацыянальнай буржуазіі, шляхце, інтэлігенцыі. Аднак гэтых сіл было недастаткова, каб рэалізаваць ідэю нацыянальнай дзяржаўнасці.

Рада БНР губляла пазіцыі адну за другой. Яе звароты да германскага ўрада таксама не далі ніякага плёну. І нават пасля таго, як 5 кастрычніка 1918 года новы канцлер Макс Бадзенскі паведаміў, што Германія прызнае права народаў на самавызначэнне і стварэнне ўласных дзяржаў, германскі ўрад не пайшоў насустрач Радзе БНР. Ён не даў адказу на просьбу Рады, сфармуляваную ў лісце імперскаму канцлеру ад 20 кастрычніка 1918 года, дзе было сказана наступнае: «У сапраўдны момант прызнанне Германіяй незалежнасці Беларусі надзвычай да часу і неабходна як у інтарэсах Беларусі, так і ў інтарэсах самой Германіі». Рада прасіла германскага імператара «арганізаваць узброеную сілу з мэтай самаабароны ад бальшавікоў і падтрымаць яе дзяржаўную арганізацыйную работу». Германскі ўрад не даў згоды і на гэтую просьбу Рады БНР. Арыентацыя на кайзераўскую Германію не прыносіла чаканага плёну.

У такой абстаноўцы радаўскія дзеячы шукалі прамых кантактаў з Савецкім урадам. Асаблівую зацікаўленасць у гэтым праяўляў А. Луцкевіч, які аказаўся ў кастрычніку 1918 г. у Кіеве. Ён прыехаў сюды на чале дэлегацыі, якая павінна была рашаць пытанне «аб магчымасці фарміравання беларускага войска на Украіне». Дэлегацыя вяла перагаворы з Украінскай радай аб выдачы беларускаму ўраду пазыкі (пазней пазыка была выдзелена ў суме 2 млн. аўстрыйскіх марак). Тут А. Луцкевіч уступіў у кантакт з кіраўніком савецкай дэлегацыі Х. Ракоўскім, які знаходзіўся тады ў Кіеве. У сваім апошнім пакутным творы-споведзі, напісаным у 1940 годзе, А. Луцкевіч расказваў аб сваіх перагаворах з савецкай дэлегацыяй: «Дэлегацыя пабыла ў таварыша Ракоўскага... Але пасля таго я і сакратар дэлегацыі Аўсянік пабылі ў яго пару разоў і вялі перагаворы на больш шырокія палітычныя тэмы».

Размова ішла аб перспектывах сацыялістычнай рэвалюцыі, аб напрамках нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва ў Беларусі пасля выгнання нямецкіх акупантаў.

Безумоўна, А. Луцкевіч успрымаў не ўсе доказы савецкага боку па пытаннях, якія абмяркоўваліся. Але ён імкнуўся знайсці мірныя шляхі рашэння «беларускага пытання». Пазней ён пісаў аб гэтым так: «Я зрабіў спробу пашукаць якія-небудзь асновы для мірнай перадачы ўлады ў Беларусі Саветам. Я лічыў, што калі б Рада рэспублікі добраахвотна перадала сваю ўладу мяркуемай Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы,

то такім шляхам фармальна была б вернута Саветам і Заходняя Беларусь, акт адказу ад якой Савецкай Расіі быў апратэставаны і не прызнаны ўрадам БНР. З другога боку, я разлічваў, што пры такім кроку застанецца пры рабоце па крайняй меры тыя дзеячы Рады і Сакратарыята, якія не праяўлялі сваёй контррэвалюцыйнасці, і яны тады маглі б унесці ў Савецкі ўрад Беларусі, у яго дзейнасць элементы нацыянальныя. Таварыш Ракоўскі паведаміў аб гэтым у Маскву і запрасіў мяне паехаць з ім туды, калі адказ будзе прынцыпова станоўчым. Але адказ да выезду Ракоўскага не прыйшоў. Мабыць, савецкія ўлады ў Маскве, згаджаючыся на стварэнне Савецкай Беларусі, рашылі — і зусім справядліва — здзейсніць гэта самастойна без удзелу беларускіх нацыяналістаў».

Безумоўна, прапановы А. Луцэвіча Савецкі ўрад не мог прыняць. У Радзе адбываўся зрух управа, у яе склад уваходзілі прадстаўнікі буржуазна-памешчыцкіх і клерыкальных арганізацый, якія адкрыта выступалі супраць Савецкай улады. Аб гэтым сведчыць і А. Луцкевіч: «У Радзе за час маёй адсутнасці адбыліся вялікія перамены. Яна моцна паправела з-за таго, што ў склад яе ўвайшоў цэлы рад беларусаў такіх, як памешчык Раман Скірмунт, як махровы рускі нацыяналіст, былы сенатар Савіч, і іншыя дзеячы клерыкальнага кірунку». Менавіта пад націскам гэтых прадстаўнікоў Рада спрабавала арганізаваць супраціўленне Чырвонай Арміі. Пад уплывам гэтых настрояў аказаўся і старшыня ўрада БНР А. Луцкевіч. Такім чынам ён імкнуўся рэалізаваць сваю дактрыну незалежнай «беларускай нацыянальнай дзяржаўнасці». Успамінаючы аб гэтым, ён пазней без іроніі пісаў: «Вярнуўшыся з Кіева ў Мінск, я знайшоў тут усіх у паніцы. Блізіўся канец БНР. Стаяла пытанне: што рабіць? Штодзённа ў памяшканні Рады праходзілі нарады. Член Рады генерал Кандратовіч выступіў з канкрэтным праектам, указваючы на тое, што ў самы кароткі тэрмін, па яго даных, можна стварыць баявое ядро з 20 тыс. чалавек, а ў далейшым ён меркаваў, што прыток новых сіл не прымусіць сябе чакаць». Расказваючы аб пасяджэннях Рады, дзе абмяркоўваліся пытанні стварэння ўзброеных сіл БНР, Луцкевіч адзначаў і такі факт: «Генерал Кандратовіч паведаміў, што віленскія банкіры і памешчыкі гатовы скласці на гэту мэту значныя грашовыя сродкі. Пытанне было ў тым, каб немцы згадзіліся не перашкаджаць гэтай працы і даць іншыя баявыя прыпасы». Але і на гэты раз нямецкае камандаванне не задаволіла просьбу Рады. «У генерала фон Фалькенгейма мы атрымалі такі адказ, які быў мною прадказан,— адзначыў А. Луцкевіч.— Генерал фон Фалькенгейм спакойна і вельмі ветліва, але рашуча заявіў: «Калі ў полі зроку германскіх войск з'явяцца якія-небудзь узброеныя сілы, мы направім супраць іх нашы кулямёты». Гэта быў тупік. Рада БНР аказалася ў палітычнай ізаляцыі. Ад яе адвярнулася нават радыкальна настроеная беларуская інтэлігенцыя, якая надавала асаблівае значэнне рэалізацыі нацыянальных ідэалаў.

Інакш уяўлялі сабе лёс Беларусі Белнацкам (створаны 31 студзеня 1918 года на аснове ленінскага дэкрэту) і беларускія камуністычныя секцыі, што дзейнічалі на тэрыторыі Савецкай Расіі. Кіруючае ядро Белнацкама і секцый (З. Жылуновіч, А. Чарвякоў, І. Лагун, Я. Дыла і іншыя) абгрунтоўвалі палітычны суверэнітэт Беларусі, выходзячы з класавага прынцыпу. Яны неаднойчы ставілі пытанне аб неадкладным нацыянальна-дзяржаўным уладкаванні Беларусі. У верасні 1918 года дэлегацыя Белнацкама на чале з І. Лагуном прыехала ў Смаленск і прапанавала Паўночна-Заходняму абласному камітэту РКБ(б) абмеркаваць праект «Аб перайменаванні Заходняй вобласці ў Беларуска-Літоўскую». Гэтым актам Белнацкам меркаваў зрабіць першы крок у бок хоць бы частковай самастойнасці Беларусі. Прапанова не знайшла разумення. Яна была адвергнута і III з'ездам Саветаў Заходняй вобласці, што праходзіў 10—13 верасня 1918 года ў Смаленску. З'езд выказаўся за захаванне абласнога аб'яднання беларускіх губерняў і прапанаваў уключыць вобласць у склад РСФСР у якасці простай гаспадарчай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі.

Паўночна-Заходні абком РКП(б) і Абвыкамзах атаясамлівалі патрабаванні Белнацкама і секцый з памкненнямі Рады БНР. Ім беспадстаўна прыпісваліся нацыяналістычныя тэндэнцыі. Вядома, для рэвалюцыі быў непрымальны нацыяналізм, які прыкрываў у нацыянальных рэгіёнах краіны памкненні тых сіл, што пад выглядам вырашэння нацыянальнага пытання выступалі супраць Савецкай улады. Аднак ва ўмовах грамадзянскай вайны з'явіліся перагібы ў ацэнцы гэтай грамадска-палітычнай з'явы. Відаць, нельга было ставіць нацыяналізм малой нацыі, тым больш у мінулым прыгнечанай, у адзін рад з шавінізмам пануючых класаў прыгнятаючай нацыі, хаця пад час рэвалюцыі яны і былі звергнуты, з прычыны яго складанасці, шматзначнасці, шматварыянтнасці. Гэта тычылася і беларускага нацыяналізму, які па сваёй сутнасці з'яўляўся культурна-гістарычнай катэгорыяй, што выяўляла сябе ў розных духоўных з'явах і ідэйных плынях, якія ў той ці іншай форме суправаджалі працэс утварэння беларускай нацыі, яе кантакты з іншымі нацыямі. А працэс гэты быў рознабаковы па сваёй культурна-светапогляднай і сацыяльна-палітычнай накіраванасці.



У. І. Ленін, як вядома, заўсёды выступаў супроць «абстрактнай пастаноўкі пытання аб нацыяналізме наогул». У сваім аналізе гэтай з'явы ён найперш зыходзіў з таго, на якой стадыі развіцця знаходзіцца тая ці іншая нацыя, і ў гэтым сэнсе — наколькі гістарычна «да месца» тыя альбо іншыя праявы нацыяналістычных тэндэнцый, імкненне адстаяць сваю нацыянальную самабытнасць у садружнасці іншых нацый. У. І. Ленін у класавых адносінах у нацыяналізме вызначаў дзве тэндэнцыі: буржуазную і дробнабуржуазную, якія па сваёй сутнасці арыентаваліся на буржуазнае развіццё «сваёй» нацыі. Гэтая арыентацыя выказвала пратэсты супроць імперыялістычнага прыгнёту. Дробнабуржуазны нацыяналізм, натуральна, быў не адэкватны буржуазнаму, хоць і з'яўляўся няразвітай яго формай. Таму Ленін лічыў, што дробнабуржуазны нацыяналізм уласцівы аграрным, індустрыяльна няразвітым нацыям. З улікам гэтага Ленін дзяліў нацыяналізм на раннебуржуазны і познебуржуазны, вялікай дзяржавы і малой краіны, нацыяналізм у развітых і адсталых у сваім развіцці грамадствах.

Зразумела, на месцах партыйныя кіраўнікі не здолелі адразу ўспрыняць гэтыя ленінскія падыходы у ацэнцы нацыяналізму. Не разумелі іх і кіраўнікі Паўночна-Заходняга абкома РКП(б), якія дагматычна тлумачылі гэтую з'яву. Яны не бачылі, што беларуская нацыя ў сваім развіцці яшчэ толькі распачынала гістарычную хаду, і таму не разумелі, што нацыяналізм асобных дробнабуржуазных слаёў яе насельніцтва, асабліва інтэлігенцыі, быў нейкім чынам ідэйна-псіхалагічнай рэакцыяй на нацыянальную занядбанасць. Менавіта гэтай тэндэнцыі і не адчувалі Мяснікоў, Кнорын, Пікель, Рэйнгольд, Калмановіч і іншыя кіраўнікі абласнога камітэта партыі, тэндэнцыі, у якой, па сутнасці, не быў вычарпаны дэмакратычны змест. Тым не менш у беларускім нацыянальным руху да стварэння нацыянальнай дзяржаўнасці развіваліся дзве плыні: адна адлюстроўвала неабходнасць пераадолець нацыянальную занядбанасць і як вынік гэтага — стварэнне беларускай нацыянальнай дзяржаўнасці на савецкім грунце, другая выяўляла кансерватыўнае памкненне да «самаўзвелічэння» нацыі, нацыяналістычную кампенсацыю ў выглядзе пабудовы «незалежнай буржуазнай дзяржаўнасці» тыпу БНР. Менавіта гэтых адрозненняў і не адчувалі кіраўнікі Паўночна-Заходняга абкома РКП(б). Да таго ж такая пазіцыя ўскладнялася і канцэпцыяй сусветнай рэвалюцыі, якую яны працягвалі прапаведаваць. Безумоўна, усё гэта стварала напружаныя абставіны ў Беларусі.

Пасля рэвалюцыі ў Германіі ў лістападзе 1918 года і развалу германскага Усходняга фронту ВЦВК, скасаваўшы Брэсцкую мірную дамову, абвясціў права вызваленых народаў на самавызначэнне, заклікаў іх да братняга саюзу з рабочымі і сялянамі Расіі. На той час ужо быў створаны Часовы рэвалюцыйна-сялянскі ўрад Украіны. У снежні 1918 года У. І. Ленін падпісаў дэкрэт аб прызнанні РСФСР савецкіх рэспублік Літвы, Латвіі і Эстоніі. У сувязі з тым, што з'явіліся ўмовы для аднаўлення Савецкай улады ў Беларусі, зноў паўстала пытанне аб стварэнні БССР. З улікам новых абставін, што склаліся ў Беларусі, ЦК РКП(б) 24 снежня 1918 года прыняў рашэнне аб неабходнасці ўтварэння БССР. Прызнаючы неабходнасць утварэння беларускай дзяржаўнасці, ЦК партыі, У. І. Ленін пайшлі значна далей у пытанні юрыдычнага статусу будучай рэспублікі, чым Белнацкам і беларускія камуністычныя секцыі, якія высоўвалі ідэю аўтаноміі. Цэнтральны Камітэт партыі на чале з У. І. Леніным лічыў мэтазгодным абвяшчэнне не аўтаномнай, а незалежнай суверэннай савецкай рэспублікі.

Прымаючы рашэнне аб стварэнні БССР, ЦК РКП(б) зыходзіў перш за ўсё з ленінскай нацыянальнай праграмы, падтрымліваў ініцыятыву працоўных мас, якія імкнуліся да стварэння сваёй нацыянальнай дзяржаўнасці. Вырашаючы пытанне пра абвяшчэнне Беларускай Савецкай Рэспублікі ў разгар грамадзянскай вайны, ЦК партыі меў на ўвазе і міжнародны фактар. Пад канец 1918 года на заходніх межах краіны склалася рэальная пагроза нападу буржуазнай Польшчы. Польская рэакцыя, нацкаваная міжнародным імперыялізмам, намагалася развязаць вайну супроць Савецкай Расіі і захапіць не толькі Беларусь, але і Украіну і літоўскія землі. У гэтых умовах актывізавалі сваю дзейнасць беларускія буржуазныя і дробнабуржуазныя нацыяналістычныя групоўкі, якія цяпер ужо рабілі стаўку на падтрымку краін Антанты ў стварэнні буржуазнай рэспублікі, маркую-

чы, ператварыўшы яе ў плацдарм контррэвалюцыі, разгарнуць барацьбу супроць Савецкай Расіі. У гэтых абставінах ЦК партыі палічыў мэтазгодным стварыць на захадзе краіны суверэнную Беларускую Савецкую Рэспубліку, якая, абапіраючыся на дапамогу Савецкай Расіі, абараняла б волю і незалежнасць беларускага народа. Гэтую ідэю У. І. Ленін выказаў і дэлегацыі ЦК КП(б)Б, што наведала яго ў канцы студзеня 1919 года. У сваіх прамовах на пасяджэнні ЦК КП(б)Б члены дэлегацыі адзначалі, што, на думку У. І. Леніна, інтэрнацыянальны абавязак працоўных Беларусі — змякчыць удар міжнароднага імперыялізму па РСФСР.

Пасля абвяшчэння 1 студзеня 1919 года суверэннай Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі канчаткова былі скасаваны ўсе планы радаўскіх дзеячаў. І хаця на гэтым спынілі існаванне «ўрад» і Рада БНР, але не спынілі сваю палітычную дзейнасць яе лідэры. Некаторыя з іх — А. Луцкевіч, У. Ластоўскі, К. Езавітаў, В. Захарка, В. Цвікевіч, П. Крычэўскі, Я. Варонка, Е. Ладноў і іншыя — перабраліся за мяжу і там шукалі падтрымкі ў рэалізацыі сваёй нацыянальнай ідэі. У. Ластоўскі, напрыклад, дамагаўся падтрымкі ў Берліне, А. Луцкевіч і Е. Ладноў абівалі парогі ўрадавых устаноў у Парыжы, К. Езавітаў спрабаваў з рэштак булак-булахоўцаў фарміраваць у Эстоніі «беларускае войска». Беларускі нацыянальны цэнтр, на чале якога стаяў С. Некрашэвіч, рабіў спробы наладзіць кантакты з камандаваннем інтэрвенцкіх войскаў на поўдні Расіі. Намаганні гэтых беларускіх палітыкаў не прынеслі чаканага плёну.

Аднак і ў Савецкай Беларусі палітычная сітуацыя мянялася вельмі хутка. Вясной 1919 года мірнае будаўніцтва было перапынена наступам польскіх інтэрвентаў. Па ініцыятыве У. І. Леніна ЦК РКП(б), паставіўшы на мэце адбіць агрэсію інтэрвентаў і ўзмацніць барацьбу з нацыяналістычнай контррэвалюцыяй, прыняў рашэнне аб'яднаць сілы маладых савецкіх рэспублік Літвы і Беларусі ў адзіную Літоўска-Беларускую ССР (Літбел). У выніку стварэння аб'яднанай рэспублікі нацыянальна-дзяржаўнае будаўніцтва ў Беларусі было спынена. Тым не менш сам факт дзяржаўнага аб'яднання двух братніх народаў — значная веха ў гісторыі іх сумеснай барацьбы за Савецкую ўладу. Гераічныя намаганні рэспублікі, якая трапіла ў неверагодна цяжкія ўмовы вясной і летам 1919 года, але актыўна супрацiўлялася польскім легіянерам, мела важнае значэнне ў стрымліванні знешняй агрэсіі імперыялізму. Аднак сілы былі няроўныя. На пачатак жніўня 1919 года польскія інтэрвенты цалкам акупавалі тэрыторыю рэспублікі. У сувязі з гэтым спынілі сваю дзейнасць урадавыя органы Літбел, і толькі за яе межамі, у Смаленску, працягваў актыўна дзейнічаць ЦК КП(б) ЛіБ, які кіраваў рэвалюцыйнай барацьбой працоўных.

Польская акупацыя ажывіла дзейнасць розных беларускіх палітычных груповак, якія зноў пачалі прапагандаваць ідэю «нацыянальнай незалежнасці Беларусі». Польскія акупацыйныя ўлады на пачатку інтэрвенцыі не рабілі перашкод гэтай прапагандзе. Ідэя стварэння беларускай дзяржаўнасці дакліравалася нават у так званай «федэралістычнай канцэпцыі» Ю. Пілсудскага, якая, па сутнасці, мела адно на мэце — прыкрыць шырмаю дабрачыннасці імперыялістычныя памкненні буржуазна-панскай Польшчы. Сапраўдныя мэты «федэрацыі», задуманай Ю. Пілсудскім, пазней шчыра адкрыў прыналежны да яго кола гісторык С. Мацкевіч. У сваёй кнізе «Гісторыя Польшчы», выдадзенай у 1958 годзе ў Лондане, пра «ўсходнюю» палітыку Пілсудскага ён пісаў так: «Па-першае, ён імкнуўся да расчлянення Расіі, па-другое, верыў, што дзяржавы, памяжоўныя з Польшчай, вызваленыя Польшчай ад Расіі, лёгка падпадуць пад уплыў Польшчы, што палякі здолеюць іх таксама праз нейкі час каланізаваць, як польская шляхта былой Рэчы Паспалітай каланізавала Літву».

Такія былі сапраўдныя намеры Ю. Пілсудскага. Тым не менш некаторыя беларускія палітыкі спадзяваліся атрымаць з яго рук дзяржаўную ўладу ў Беларусі. Сваю прыхільнасць да Пілсудскага яны прадэманстравалі ў верасні 1919 года, калі ён прыбыў у Мінск. Нацыяналістычны друк абвясціў Пілсудскага выдатным дзяржаўным дзеячам, адным з «прарокаў незалежнасці Беларусі», які «вызваліць беларускі народ з-пад гнёту маскоўскага імперыялізму і аб'яднае ўсе беларускія землі ў адну дзяржаўную адзінку і дапаможа беларускаму народу ў справе стварэння непадлеглай і непадзельнай Беларусі ў федэратыўнай лучнасці ўсіх народаў гістарычнай Літвы са сталіцаю ў Вільні». Радаўскія дзеячы фактычна выказаліся за ўключэнне беларускіх земляў у склад буржуазна-панскай Польшчы.

Аднак Ю. Пілсудскі не збіраўся здзяйсняць сваю «федэралістычную канцэпцыю», а тым больш абвяшчаць беларускую дзяржаўнасць. Неўзабаве гэта прывяло да канфлікту. 12 снежня 1919 года беларускія эсэры, склікаўшы сесію Рады БНР, публічна выказалі пратэст супраць гаспадарання інтэрвентаў у Беларусі. У дэкларацыі, абвешчанай на сесіі, яны заявілі, што ЦК БПС-Р разлічвае на ўласныя сілы беларускага народа ў «рэалізацыі дзяржаўнай ідэі». Дэкларацыя заклікала да адначасовай барацьбы на два «франты: 1) супроць польскіх інтэрвентаў і 2) супроць імперыялістычна-маскоўска-дзянікінскай сілы, што рушыць з усходу». Пад «імперыялістычнай сілай, што рушыць з усходу», акрамя дзянікінцаў разумелася і Чырвоная Армія.

Барацьба на сесіі завяршылася канчатковым размежаваннем палітычных сіл у Радзе БНР. Па гэтых прыкметах адбылася палярызацыя ўсіх палітычных сіл на акупаванай тэрыторыі Беларусі. Адны з іх, якія дзейнічалі пад кіраўніцтвам беларускіх эсэраў, будавалі свае планы з разлікам на тое, што пад час сусветных падзей саперніцтва паміж краінамі Антанты прымусіць Англію, Францыю і ЗША стварыць «беларускую дзяржаву» заходняга ўзору, як звяно ў «санітарным кардоне», які будзе адмяжоўваць буржуазную Еўропу ад Савецкай Расіі. Іншыя (групы А. Луцкевіча, Я. Лёсіка, Р. Скірмунта, В. Гадлеўскага) спадзяваліся на супрацоўніцтва з буржуазна-панскай Польшчай і меркавалі, што яна з прычыны ўнутранай кволасці і ціску з боку сваіх заходніх апекуноў будзе змушана пайсці на ўступкі і створыць у той ці іншай форме, блізкай ёй па класаваму падабенству, беларускую дзяржаўнасць. У крайнім выпадку, калі не пашанцуе дамагчыся самастойнасці, групоўкі паланафільскай плыні меркавалі, што неабходна атрымаць хаця б культурна-нацыянальную аўтаномію ў рамках буржуазна-панскай Польшчы.

Польская інтэрвенцыя цалкам агаліла няздольнасць беларускіх палітычных партый і арганізацый, што намагаліся будаваць так званую Беларускую народную рэспубліку. Іх намаганні не прынеслі чаканага плёну. У варунках польскіх кіруючых колаў не ўваходзіла прызнанне незалежнасці БНР. Гэта яшчэ ў большай ступені абвастрыла супярэчнасці на акупаванай тэрыторыі Беларусі і, натуральна, спрыяла кансалідацыі шырокіх мас працоўных вакол бальшавікоў, якія адстойвалі сацыяльныя і нацыянальныя інтарэсы беларускага народа. Ужо вясной 1920 года, калі Заходні фронт зрабіўся галоўным стратэгічным напрамкам у барацьбе Чырвонай Арміі з польскімі інтэрвентамі, а дакладна — 10 мая Палітбюро ЦК РКП(б) абмеркавала кола пытанняў па яго ўмацаванню і выказалася за аказанне дапамогі рэвалюцыйнаму руху на акупаванай тэрыторыі Літоўска-Беларускай ССР. На гэтым этапе грамадзянскай вайны ўмовы дазволілі прадоўжыць лінію нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва ў Беларусі, вызначаную партыяй у 1918 годзе. Аднак у Савецкім урадзе не было адзінай думкі па пытанню аднаўлення БССР. Частка членаў урада на чале з народным камісарам па ваенных справах Л. Троцкім выступала за тое, каб пасля разгрому белагвардзейскіх часцей пад Петраградам ісці далей, у напрамку Эстоніі, Латвіі, Літвы, ізаляваўшы ад іх Беларусь і Украіну. Троцкі і яго прыхільнікі разглядалі праблему беларускай савецкай дзяржаўнасці ў кантэксце сусветнай рэвалюцыі. Ён лічыў, што беларускія губерні павінны былі ўвайсці ў склад РСФСР як звычайныя адміністрацыйна-гаспадарчыя адзінкі. Аднак другая частка Савецкага ўрада, чый пункт гледжання выказваў народны камісар замежных спраў Г. Чачэрын, не ўхвальвала планы Троцкага. Чачэрын абачліва ставіўся да канцэпцыі сусветнай рэвалюцыі і шукаў надзейныя шляхі нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва. У сваім звароце да Палітбюро ЦК РКП(б) ён прапаноўваў такім чынам вырашыць беларускае пытанне: «З прычыны афіцыйнага прызнання на Парыжскай дамове незалежнасці Беларусі належыць падступіцца да арганізацыі ў ёй савецкага ўрада. Адносіны паміж Беларускай Савецкай Рэспублікай і РСФСР варта наладзіць па ўкраінскаму тыпу». У сваім звароце Чачэрын адзначаў і такі момант: «Варта, аднак, падкрэсліваць і пры выпадку напамінаць нашай публіцы (меў на ўвазе Л. Троцкага і яго прыхільнікаў.— Аўт.), што як Украіна, так і Беларусь не ўваходзяць у склад РСФСР. Для барацьбы супраць польскага буферызму гэтую сістэму варта праводзіць з найвялікшай паслядоўнасцю, не робячы ляпсусаў». Да таго ж ён адзначаў, што «ў самой Беларусі ў сялянскіх масах значна ўзрасла самастойная плынь», і таму прапаноўваў «пайсці ёй насустрач, бо ў інакшым выпадку іншыя ёй авалодаюць».

ЦК РКП(б) падтрымаў гэты пункт гледжання. У выніку чаго 6 ліпеня 1920 года ЦК КП(б) ЛіБ выказаўся за аднаўленне беларускай савецкай дзяржаўнасці. У сувязі з палітычным становішчам, якое хутка мянялася, ЦК прызнаў «нясвоечасовым вырашэнне пытання аб тэрыторыі Савецкай Беларусі». Гэта абумовіла і стварэнне Мінскага губрэўкома, які пачаў дзейнічаць 7 ліпеня 1920 г. Старшынёй губрэўкома быў зацверджаны А. Чарвякоў, членамі — І. Адамайціс, І. Адамовіч, А. Вайнштэйн (ад ЦК Бунда), А. Гетнер,

І. Грыдзюшка, У. Ігнатоўскі (ад ЦК Беларускай Камуністычнай арганізацыі), С. Камінскі і іншыя. Стварэннем губрэўкома ЦК КП(б)ЛіБ арыентаваўся на стварэнне БССР у рамках Мінскай губерні.

Але супраць стварэння нават такой «усечанай» рэспублікі ўзнікла сталая «апазіцыя». 12 ліпеня 1920 г., на наступны дзень пасля вызвалення Мінска ад польскіх інтэрвентаў, Р. Пікель і І. Рэйнгольд прадставілі ў ЦК КП(б)ЛіБ тэзісы «Да пытання аб стварэнні Беларускай Савецкай Рэспублікі». Бясспрэчна, з гэтым дакументам быў знаёмы і А. Ф. Мяснікоў, які з'яўляўся членам абласнога бюро ЦК РКП(б) па Беларусі і Літве.

Безумоўна, тэзісы Пікеля і Рэйнгольда выражалі настрой невялікай колькасці членаў партыйных арганізацый беларускіх губерняў. Тым не менш яны сведчылі аб тым, што ідэі «абласніцтва», якія абараняў А. Ф. Мяснікоў і яго прыхільнікі ў 1918 г., яшчэ жывуць. Гэтаму садзейнічала і ваенна-палітычнае становішча, якое склалася летам 1920 г. на заходнім фронце. Зноў з'явілася надзея на ажыццяўленне сусветнай рэвалюцыі. Цяпер усё часцей і часцей гучаў рэвалюцыйны заклік: «Даеш Варшаву! Даеш Берлін!» Многія верылі ў рэальнасць поспеху Чырвонай Арміі.

Менавіта ў такіх абставінах і з'явіліся тэзісы Пікеля і Рэйнгольда. У чым асноўны сэнс гэтага дакумента? Каб даць больш поўны адказ на гэтае пытанне, зробім спробу прааналізаваць яго змест. Так, у прэамбуле тэзісаў падкрэслівалася наступнае: «У сувязі з вызваленнем Беларусі пытанне аб Беларускай Савецкай Рэспубліцы павінна быць пастаўлена дакладна і выразна. Устрыманне ад прамой пастаноўкі данага пытання або пакіданне яго нявырашаным прывядзе толькі да арганізаванай блытаніны ў Савецкім урадзе і няўстойлівасці савецкіх органаў у вызваленым краі.

Сучаснае міжнароднае становішча і рэальныя суадносіны сіл паміж Савецкай Расіяй і капіталістычнымі краінамі Захаду зусім іншыя, чым у перыяд рэакупацыі Беларусі ў канцы 1918 года. У сувязі з гэтым пастаноўка пытання аб Савецкай Беларускай Рэспубліцы было апраўдана ў першую чаргу неабходнасцю мець буферную дзяржаву паміж Савецкай Расіяй і белагвардзейскай Польшчай, на прадмет забеспячэння Савецкай Расіі ад нечаканага ўдару з боку белай Польшчы. Матывы этнаграфічнага, эканамічнага і культурнага характару ігралі пры стварэнні Савецкай Рэспублікі Беларусі пабочную ролю».

Так аўтары тэзісаў разумелі праблему стварэння БССР. Яны не прымалі ў разлік ленінскую нацыянальную палітыку, фактычна адмаўлялі імкненне беларускага народа да стварэння сваёй нацыянальнай дзяржаўнасці. Пікель і Рэйнгольд разглядалі «беларускае пытанне» толькі ў кантэксце сусветнай рэвалюцыі, у сувязі з гэтым яны звярталі ўвагу на такі момант: «Цяпер барацьба Савецкай Расіі з белай Польшчай не патрабуе ніякіх скрытых форм. Разгром яе, стварэнне ў ёй Савецкай рэспублікі — чарговая задача сусветнай праблемы рэвалюцыі. Такім чынам, неабходнасць стварэння Беларускай Савецкай Рэспублікі павінна быць абгрунтавана іншымі аргументамі, чым пры стварэнні такой у 1918 годзе. Такімі могуць быць — этнаграфічныя, эканамічныя і культурныя прадпасылкі».

Але, на думку Пікеля і Рэйнгольда, «беларусы — не асобная нацыянальнасць ці народнасць», «нічым не адрозніваюцца ад велікарускай» і пагэтаму «ні этнаграфічныя, ні эканамічныя, ні культурныя ўмовы, не кажучы ўжо аб палітычных, не патрабуюць стварэння Савецкай Беларускай Рэспублікі». Кіруючыся тактычнымі меркаваннямі, яны прапаноўвалі «прыняць да ўвагі факт існавання Беларускай Савецкай Рэспублікі ў мінулым» і ў сувязі з гэтым «адмовіцца ад надта асцярожнай тактыкі ў нацыянальным пытанні ЦК Літбел і лічыць магчымым стварэнне на першым часе беларускага рэўкома з ліку самых аўтарытэтных і добра ведаючых Беларусь савецкіх працаўнікоў». У далейшым да склікання з'езда Саветаў Белрэўком, з'яўляючыся часовым органам, павінен быў рашыць наступную задачу: «падрыхтаваць погляды працоўных мас Беларусі да поўнага зліцця ва ўсіх адносінах з Савецкай Расіяй», у заключэнні тэзісаў падкрэслівалася, што «Белрэўком павінен разгарнуць савецкае будаўніцтва па лініі стварэння цвёрдага, выключна моцнага губернскага апарату Савецкай улады з адпаведнымі органамі на месцах, на асновах і палажэннях, якія прымаюцца для ўсіх губцэнтраў у Савецкай Расіі».

Вось так «чарговыя задачы сусветнай рэвалюцыі» зноў спрабавалі выкарыстаць прыхільнікі А. Ф. Мяснікова супраць самавызначэння беларускага народа. Але ЦК КП(б)Л і Б адхіліў гэтыя прэтэнзіі. 31 ліпеня на ўрачыстым пасяджэнні ў Мінску была абвешчана «Дэкларацыя аб незалежнасці Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусі». Яна пацвердзіла аднаўленне сацыялістычных асноў грамадскага і дзяржаўнага ладу ў Беларусі і абвясціла, што БССР будуецца на прынцыпах «дыктатуры пралетарыяту і выкарыстання ўсяго вопыту Савецкай Расіі». У Дэкларацыі аднаўляўся цалкам асноўны стан арганізацыі народнагаспадарчага жыцця, абвешчаны 1 студзеня 1919 года Часовым рабоча-сялянскім урадам Беларусі, выказваліся ідэі ўмацавання ваенна-палітычнага саюза савецкіх рэспублік.

Адраджэнне беларускай савецкай дзяржаўнасці канчаткова зруйнавала ўсе планы радаўскіх дзеячаў, якія спрабавалі дамагчыся прызнаць БНР. Пасля заканчэння грамадзянскай вайны шмат хто з іх, апынуўшыся ў эміграцыі, прыйшлі да высновы аб нерэальнасці іх планаў. Спрабуючы знайсці выйсце са складанага становішча, лідэры беларускай эміграцыі склікалі ў кастрычніку 1925 года ў Берліне палітычную нараду членаў «урада» і Рады БНР, якая прыняла дэкларацыю, што прызнала Мінск «адзіным цэнтрам нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння Беларусі» і абвясціла пра роспуск урада БНР. Удзельнікі нарады, такім чынам, самі прызналі банкруцтва ідэі БНР. Урад Савецкай Беларусі гуманна паставіўся да тых, хто адмовіўся ад барацьбы з Савецкаю ўладаю. Яшчэ ў 1923 годзе Прэзідыум ЦВК БССР у сувязі з 3-й гадавінай вызвалення Мінска ад польскіх інтэрвентаў пастанавіў даць амністыю тым дзеячам беларускіх палітычных партый і суполак, якія «публічна абвясцілі аб сваіх лаяльных адносінах да Савецкай улады і не бралі актыўнага ўдзелу ў барацьбе супроць Савецкай улады ў шэрагах савінкаўскіх, балахоўскіх і іншых белагвардзейскіх суполак і тых, хто не стаіць на службе ў органах контрразведкі і палітычнай ахранкі буржуазных дзяржаў».

Зразумела, не ўсе былыя радаўскія дзеячы спынілі барацьбу з Савецкай уладай. У эміграцыі Раду БНР, што знаходзілася ў Празе, узначальваў П. Крачэўскі, а пасля яго смерці ў 1928 годзе беларуская «дзяржаўная ўлада» перайшла да В. Захаркі. Да канца 1943 года ён фактычна заставаўся кіраўніком гэтага цэнтра беларускай нацыяналістычнай эміграцыі.

А дзеячы накшталт Акінчыца і Астроўскага, што засталіся на тэрыторыі Заходняй Беларусі, працягвалі прыслужваць рэжыму Пілсудскага, вялі барацьбу супроць КПЗБ і рэвалюцыйнага руху, а з прыходам у Германіі да ўлады Гітлера перакінуліся да новых гаспадароў — зрабіліся іх наймітамі. У гады Вялікай Айчыннай вайны яны з ахвотаю ішлі на службу да гітлераўцаў, стварыўшы так званую БЦР, зрабіліся іх вернымі паслугачамі, вялі барацьбу супраць свайго народа. Гэта сведчыць пра абсалютную дэградацыю буржуазнага нацыяналізму. Тым не менш пасля другой сусветнай вайны ацалелыя бэцэўцы засталіся на Захадзе і намагаліся адрадзіць «органы» БНР. Узніклі нават дзве канкурэнтныя Рады — Беларуская Цэнтральная Рада і БНР. Аднак іх ніхто ўсур'ёз не ўспрыняў.

Вось такая рэальная гісторыя БНР. Безумоўна, шмат хто з тых, што адстойвалі ідэю БНР, былі шчырымі людзьмі і памыляліся, не разумеючы таго, што нельга чагосьці дабівацца без падтрымкі народа. Іх лёс быў трагічны — у тым ліку і тых, хто прызнаў Савецкую ўладу і працаваў у БССР. І зараз, звяртаючыся да мінулага, мы павінны ведаць і разумець, што беларускі народ завяяваў сваю нацыянальную волю ў складанай і драматычнай барацьбе.

Мікалай СТАШКЕВІЧ,
загадчык сектара гісторыі партыі
Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КП Беларусі,
кандыдат гістарычных навук

# Аўтографы Станіслава Манюшкі

Летам 1985 года мне пашчасціла наведаць архівы старажытнага Львова. Зборы яго даўно і настойліва клікалі да сябе. Пра магчымыя знаходкі ў Львове я думаў з гэткай жа ўзнёслай надзеяй, з якой пераступіў бы парог архіўных сховішчаў Варшавы, Кракава, Прагі, Рыма, Упсалы; у іх, не сумняваюся, беларускага даследчыка чакае багата матэрыялаў, каштоўных і неацэнных для нашай нацыянальнай культуры.

Львоў прывабліваў мяне ўласна тым, што ў ім да 1939 года месцілася знакамітая бібліятэка Асалінськіх, славутая зборамі аўтографаў, «дыяпазон аўтарытэтнасці» якіх — ад Напалеона Банапарта, Тадэвуша Касцюшкі, Адама Міцкевіча да правінцыйных кампазітараў, мастакоў, дзеячаў літаратуры. Карацей, Асалінэўм для даследчыкаў—слова прыцягальнае, магічнае, яркае ў сузор'і нешматлікіх культурных асяродкаў, дзе з году ў год назапашваліся духоўныя каштоўнасці славянскіх народаў.

Кіруючыся ў тую ўжо даўнюю па часе навуковую камандзіроўку, я спадзяваўся на шмат, але пры ўсёй смелай фантазіі не падазраваў, што прывязу на радзіму гэтулькі новых звестак, невядомых беларускім даследчыкам. І не толькі беларускім. Пра каштоўнасць для айчыннага літаратуразнаўства выяўленых рукапісаў я ўжо часткова расказаў на старонках «ЛіМа», «Полымя», альманаха «Дзень паэзіі—86», дзе пазнаёміў чытачоў з невядомымі пісьмамі В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча і вершамі апошняга. Гэтыя неардынарныя для беларускай літаратуры знаходкі прымусілі мяне яшчэ там, у Львове, калі сыходзілі апошнія дні камандзіроўкі, больш уважліва прагледзець лісты польскіх дзеячаў культуры, адрасаваныя мовазнаўцу, фалькларысту, этнографу Яну Карловічу.

Дарэчы, у аддзеле рукапісаў Бібліятэкі імя В. Стафаніка АН УССР, дзе я перажыў шчаслівыя імгненні, не чакаў сустрэць вылучаныя ў асобны фонд паперы з уласнага архіва гэтага вучонага, апекуна і выдаўца твораў Францішка Багушэвіча, паколькі двухтомны даведнік «Личные архивные фонды в государственных хранилищах СССР» (Москва, 1962, т. 1, с. 314) называе Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў Літоўскай ССР у Вільнюсе адзіным месцам захавання матэрыялаў са збораў Яна Карловіча. Праўда, гэта не перашкодзіла літоўскім, польскім, украінскім, чэшскім даследчыкам карыстацца дакументамі са збору Карловіча. Аднак хутка я высветліў, што вывучаны яны не так грунтоўна, як падалося спачатку. Пераканалі мяне ў тым тры лісты Станіслава Манюшкі, напісаныя летам 1858 года, а таксама 10 і 19 студзеня 1871 г.; усе тры адрасаваліся Яну Карловічу.

Пазнаёміўшыся з капітальным выданнем эпісталярнай спадчыны нашага славутага земляка-кампазітара «Listy zebrane» (Кракаў, 1969), пра гэтыя карэспандэнцыі я прачытаў наступнае: «Арыгіналы пісьмаў захоўваліся ў Асалінэўме (сігнатура 4263, 4264, 4265) і загінулі пад час вайны». Але ж вось яны, ля-





Станіслаў Манюшка.



Warszawa 10/1 71.

4264

5104

Kochany Panie Leopoldzie!

1846. r. Wrześ. 18. d. Warszawa

**Аўтограф Станіслава Манюшкі ў альбоме прафесара Аляксандра Ташыньскага. 1846 г. Аддзел рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі ў Варшаве.** Публікуецца ўпершыню.

жаць перада мною з выразна адштэмпеляванымі нумарамі 4263, 4264, 4265, 4266, 4267!

Уважлівы чытач можа запытацца: чаму знойдзена тры лісты Станіслава Манюшкі да Яна Карловіча, а я падаў 5 сігнатур Асалінэўма? Таму што з трох пісьмаў кампазітара два апошнія напісаны ў двух экземплярах і ўсе шчасліва захаваліся. «Пасылаю два лісты, бо мне дадзена два адрасы, але толькі **адной** (падкрэслена С. Манюшкам.— Я. Я.) рэзалюцыі вельмі, вельмі нецярпліва чакаю»,— пісаў аўтар «Галькі» ў пісьме ад 10 студзеня 1871 года. Чым быў выкліканы такі пільны інтарэс? Праз тыдзень-другі меўся адбыцца арганізаваны Манюшкам дабрачынны канцэрт на карысць варшаўскіх студэнтаў, і лісты, пра якія ідзе размова,— гэта тэрміновае запрашэнне-просьба прыняць у варшаўскім выступленні ўдзел і віленскаму музыканту (на думку даследчыкаў, як віяланчэлісту). Канцэрт тройчы адкладваўся і адбыўся толькі 5 лютага 1871 года без удзелу Карловіча.

Яшчэ адзін адшуканы ліст Манюшкі да Яна Карловіча і таксама вядомы па даваенных публікацыях пераносіць нас у далёкі Парыж. Спякотным летам 1858 года ўжо знакаміты аўтар «Галькі», прэм'ера якой акурат на пачатку года, 1 студзеня, адбылася ўрэшце (праз дзесяцігоддзе пакутлівага чакання) на вялікай—варшаўскай—сцэне, і 20-гадовы нікому яшчэ не вядомы музыкант сустрэліся ў тлумнай французскай сталіцы. Зрэшты, пра акалічнасці іхняй сустрэчы звестак не захавалася, а вось пры якіх абставінах яны «развіталіся», мы, як колісь і сам Карловіч, і даведваемся з пісьма. Нібы прымхлівы ліцвін-мужык, скардзіцца Манюшка на хатняга духа-псотніка «Каспарка», які ўдалечыні ад родных саламяных стрэх, на ўзбярэжжы Сены, усё роўна ўчыніў над імі злы жарт. (Над «радаводам» гэтага бажка ў дэманічнай іерархіі беларускага фальклору беспаспяхова б'юцца польскія музыказнаўцы. Дык, можа, беларускія вучоныя скажуць тут сваё слова?)

Манюшка пісаў:

«Глыбокапаважаны пане!

Боская кара з дурнымі людзьмі! А я тут у сваёй кватэры абслугоўваюся сапраўдным Каспаркам. Уяві, пан, што атрымалася: ад 6-ай (гадзіны) спраўна чакаў панскага прыходу. Тым часам унізе на маім нумары павесілі чужы ключ, на падставе якога ўсіх прыязных сяброў, што хацелі развітацца са мною, адпраўлялі, асуджаючы мяне на нягжэчную нядобрасумленнасць».

Наступныя два лісты Станіслава Манюшкі, знойдзеныя мною ў Львове, былі цалкам невядомыя. Пераканаўся ў тым ва ўтульнай зале аддзела мастацтваў, што месціцца на стромкай, бы крутыя берагі Дняпра, вуліцы Бібліятэчнай— воддаль ад галоўнага будынка Львоўскай дзяржаўнай навуковай бібліятэкі імя В. Стафаніка АН УССР, зноў і зноў гартаючы згаданы напачатку капітальны том эпісталярнай спадчыны кампазітара, адмыслова, на еўрапейскім узроўні, падрыхтаваны прафесарам Варшаўскай музычнай кансерваторыі імя Фрэдэрыка Шапэна Вітальдам Рудзінскім. Знаёміўся я з кнігай грунтоўна, бо ведаў: ніводная бібліятэка Беларусі яе не мае. (Спатрэбілася мне, калі студэнтам філфака пісаў даследаванне «Творчасць Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча ў святле новых архіўных дакументаў»; «на знаёмства» з выданнем ездзіў у Вільню, пазней прачуў, што ёсць яна ў асабістым зборы Адама Мальдзіса.)

А тады, у Львове, праштудзіраваўшы, усё роўна не верылася, калі на наступны вечар (пад час навуковай камандзіроўкі дні адлічваеш, як студэнт апошнія рублі перад стыпендыяй, і ідзеш на роз-

ныя хітрыкі, абы падаўжэй дазволілі пасядзець над рукапісамі) натрапіў, у зусім іншым фондзе, на новы аўтограф кампазітара. Не верылася ў асноўным таму, што Львоў—горад багаты на ўласныя даследчыцкія сілы яшчэ з «даваеннай загартоўкай», і не звярнуць на такі аўтограф увагі проста немагчыма. Бо размова ў ім ідзе пра пастаноўку неўміручай «Галькі» на... львоўскай сцэне! Паколькі факт гэты даследчыкам гісторыі польскага і ўкраінскага тэатраў невядомы, думаю, варта пазнаёміць чытачоў з асноўным зместам ліста:

«Вяльможныя панове!

Ласкава прашу дараваць мне, што на вашае шаноўнае пісьмо толькі сёння адказваю. Гэта віна распыленага жыцця Варшавы, сярод якога, аднак, я змушаны працаваць. Мая «Галька» са сціплай двухактовай змянілася на чатырохактовую. Гэтую пераробку зрабіў уласна пад час майго тут цяперашняга побыту.

Не ведаю, ці прыдасца панам мая партытура на што-кольвек? Гэта цэлая музычная опера, з рэчытатывамі, з доўгімі хорамі і балетам. Даў бы Бог, каб за стараннем панства дабрадзеяў польская опера ў Львове мела больш гасціннную сцэну, чым варшаўская! Партытура «Галькі» знаходзіцца цяпер у руках дырэкцыі, і аж да прэм'еры, якая наступіць не раней чым напачатку зімы, узяць з яе нічога не магу. Перапіска яе магла б дорага каштаваць, а калі ні да нічога не прыдасца? Пра лібрэта прашу звярнуцца да пана Матушыньскага (Леапольда), рэжысёра оперы (Кракаўскае прадмесце—насупраць касцёла XX (ксяндзоў.— Я. Я. Бернардынаў, № 442). Я сам нават бы прыслаў, але мы з маім паэтам (Ул. Вольскім) ледзьве скончылі ўчора цалкам, а я адсюль праз пару гадзін выязджаю...

Вельмі прашу аб як мага падрабязным тлумачэнні пра стан львоўскай сцэны. Можа б, мы прыдаліся ўзаемна на што-небудзь. Тым часам, панове, зрабіце ласку прыняць словы высокай павагі і артыстычнага пажадання ўсяго добрага.

Найніжэйшы слуга
Станіслаў Манюшка.

1857 г., м(есяц) жнівень, 18 д(ня), Варшава.

Мой адрас: у Вільні, вуліца Нямецкая, дом пп. Мюлераў».

Хоць адрасат карэспандэнцыі не названы, аднак, мяркуючы са зместу, звернуты ён быў да дырэкцыі тэатра (польскага?) у Львове. А паколькі дата ў пісьме прастаўлена—18 жніўня 1857 года,— можна ўзнавіць хаду падзей у тэатральным жыцці тагачаснага прыгранічнага культурнага цэнтра Аўстра-Венгрыі.

Ліст з Варшавы ў Львоў ішоў тры дні, і 21 жніўня, як сведчыць паметка на адвароце аўтографа, дырэкцыя львоўскага тэатра пазнаёмілася ўжо з ім. Што за асобы чыталі яго? Акурат у тое лета тэатр перажываў «змену ўлады»: месяц таму, 15 ліпеня 1857 года, з пасады дырэктара пайшоў Тамаш Хэлхоўскі. На яго месца былі пакліканы Ян Навакоўскі і Віталь Смахоўскі. Праўда, тэатр пад іхнім кіраўніцтвам распачаў сезон толькі 2 кастрычніка, аднак, як бачна, яны нашмат раней пачалі падрыхтоўку да сезона, звяртаючыся, прынамсі, да Манюшкі з запытаннем адносна партытуры «Галькі». Гэтыя невядомыя даследчыкам захады да пастаноўкі спектакля скончыліся тады нічым; знакамітую «Гальку» Львоў убачыў толькі праз 10 гадоў, 17 сакавіка 1867 года, і то ў выкананні кракаўскай трупы. І яшчэ. Як піша прафесар Рудзіньскі ў каментарыях да пісьма, апублікаванага ў часопісе «Ruch muzyczny» (1989, № 1), дата карэспандэнцыі прыносіць каштоўную інфармацыю адносна працягласці побыту Манюшкі ў Варшаве да другой паловы жніўня 1857 года; ліст дазваляе дакладна акрэсліць тэрмін заканчэння працы паэта Уладзіміра Вольскага з сябрам-кампазітарам над новай рэдакцыяй славутай оперы.

На апошні аўтограф Станіслава Манюшкі пад час той памятнай вандроўкі я натрапіў, калі гартаў складзены яшчэ да вайны важкі вопіс пад назвай: «Autografy Ossolineum» («Аўтографы Асалінэўма»). У ім пад № 5104 маю ўвагу прыцягнуў запіс: «Станіслаў Манюшка да Леапольда Матушыньскага (без даты)». Паколькі адрасат быў указаны, я зноў пераглядзеў імянны паказальнік у эпісталярным выданні Манюшкі; карэспандэнцыі не знайшоў. Кампазітар паведамляе ў ёй пра хуткі прыезд у Варшаву Яна Карловіча і просіць над ім заапекавацца. Імкнучыся вызначыць дату, заўважаю: амаль што ідэнтычныя па змесце лісты Манюшка паслаў з Вільні 15/27 верасня 1857 года Дамініку Шульцу і Маўрыкію Карасоўскаму (абодва жылі ў Варшаве). У пісьмах сустракаюцца аднолькавыя выразы з аднолькавай просьбай: «атуліць святлом і зычлівасцю» маладога віленскага музыканта. Вось гэты кароткі ліст (а па тагачасных паняццях — рэкамендацыя).

«Каханы пане Леапольдзе!

Блізкі крэўны колішняй панскай вучаніцы паненкі Эміліі Малаховец, а мой паважаны сябра пан Ян Карловіч па дарозе за мяжу мае намер некалькі тыдняў прабавіць у Варшаве. А паколькі для маладога падарожніка найжаданейшым з'яўляецца лёгкасць сыходжання з асобамі, якім можна бяспечна даверыць, таму ў імя Вашай да мяне зычлівасці дазволю сабе быць пасрэднікам і прасіць, каб Вы яго як свайго суайчынніка і вялікага аматара музыкі па-сяброўску прынялі.

Найзычлівы і найабавязаны С. Манюшка».

Так цёпла, сардэчна і, што важней, па-зямляцку бескарысліва падтрымлівалі адзін аднаго ў далёкай і невядомай Варшаве «ліцьвіне» (гэты тэрмін-самахарактарыстыка часта мільгае ў нядрэнна захаванай, каля 820 карэспандэнцый, перапісцы кампазітара). Спыніўшы на хвіліну апавяданне пра невядомыя «львоўскія старонкі» ў жыццяпісе Станіслава Манюшкі, скажу, што праз тры гады, пад час 45-дзённай вандроўкі па архівах Варшавы—Вроцлава—Кракава вясною 1988 года, я падказаў прафесару Рудзіньскаму (ён аднакашнік па віленскай кансерваторыі нашага незабыўнага Генадзя Цітовіча!) яшчэ адзін аўтограф кампазітара, у «Альбоме Аляксандра Тышыньскага» (захоўваецца ў аддзеле рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі ў Варшаве). Прызнаюся, што ні энцыклапедычныя артыкулы пра гэтага былога (у 1830-х гадах) мінскага чыноўніка, а потым прафесара Вышэйшай школы ў Варшаве, аднаго з заснавальнікаў папулярнай «Бібліятэкі Варшаўскей», не зрабілі на мяне такога чароўнага ўражання, як сардэчны водгук невядомага тады яшчэ правінцыйнага кампазітара (для Варшавы XIX стагоддзя Мінск і Вільня, безумоўна ж, правінцыя!):

«Пяро, звыклае гарцаваць на разлінеенай паперы, нехлямяжа ставіць крывулі на гэтым чыстым аркушыку; нібы той цыркач, смела і ўвішна праходзячы па нацягнутым канаце, нязграбна ходзіць па зямлі. Але на тое, каб хоць не квяціста, аднак шчыра падзякаваць табе, знаканіты мой суайчыннік, за дазвол упісаць сябе ў кагорту жывучых у тваім добрым успаміне адважваюся.

Станіслаў Манюшка.

1846 (года) верасня 18 д(ня) Варшава».

Аднак вернемся зноў у бібліятэку імя Васіля Стафаніка, дзе пераважна захоўваюцца матэрыялы былога збору Асаліньскіх, каб скончыць знаёмства з невядомымі аўтографамі Станіслава Манюшкі. Разам з пісьмом-рэкамендацыяй «прыняць па-зямляцку» Яна Карловіча пад тым жа самым нумарам 5104 «Аўтографаў Асалінэўма» знайшоўся яшчэ лісток, асобны, за подпісам кампазітара— спіс нейкіх твораў. Як патлумачыў мне пазней прафесар Рудзіньскі, гэта спіс-сертыфікат кніг і нотаў, якія Манюшка прасіў Яна Карловіча засведчыць у французскім міністэрстве замежных спраў на прадмет дазволу вывезці іх у царскую Расію. Адразу згадалася, што ліст, напісаны кампазітарам да Карловіча ў Парыжы, дзе ўпамінаўся загадкавы «Каспарак», заканчваўся падзякай: «Сардэчна дзякую пану за Вашую зычлівасць і сертыфікат; як Арфей лірай, буду адганяць ім злыя пагранічныя духі». (Зноў бачым у Манюшкі прымхлівасць беларускага селяніна перад нядобрымі сіламі свету, якіх лепш не чапаць лішне, каб на таго ж самага царскага мытніка, duха-псотніка, што пачне корпацца ў тваіх клунках, не вылаяцца: «Вось навычаўпляў мне, як Каспарак сучцы ў дзіравай стадоле!»)

Але і гэты аўтограф Манюшкі—не апошняя новая старонка ў біяграфіі аўтара неўміручай «Галькі», прачытаная мною пад час той памятнай вандроўкі ў старажытны Львоў. У фондзе Яна Карловіча знайшоўся яшчэ вялікі, на 8 аркушыкаў, ліст Адама Кіркора. Колішні рэдактар-выдавец шматлікіх віленскіх выданняў сярэдзіны XIX стагоддзя адгукнуўся на просьбу Карловіча, які рупліва збіраў матэрыялы да біяграфіі кампазітара і ў самотным Кракаве за два гады да смерці напісаў яму «адкрыта» пра ўсё, што ведаў і памятаў аб жыцці Станіслава Манюшкі ў Вільні.

Аўтар удзячны Пятру Бітэлю за пераклад пісьма (па не зусім удалай фотакопіі) і рады магчымасці пазнаёміць з ім чытачоў:

«Сёння ў пятніцу атрымаў я Ваш ліст, дастойны і каханы Пане, і хоць ужо некалькі дзён знаходжуся ў ложку, падняўся, каб накрэсліць Вам тое, што прынясе памяць, бо ніякіх пісьмовых звес-

так пра Манюшку не маю. Не ўсё зможаце выкарыстаць: пішу **адкрыта** (падкрэслена Кіркорам.—Я. Я.) для Вас, для Вашага ведання, а пішу толькі тое, што добра памятаю.

Калі Манюшка асеў на сталае жыхарства ў Вільні, не ведаю. Тое толькі пэўна, што жыў там перад 1842 г. і ўжо карыстаўся агульнай папулярнасцю. Маю дакладны факт, бо ў посце, калі, як звычайна, тэатр не дзейнічаў, а артыстам тэатральнага аркестра патрэбна была ўспамога, у 1842 г. больш знакамітыя з іх—Лыка з двума сынамі Марцэлем і Юльянам, а таксама два Навіцкія ўтварылі музычнае таварыства і, каб зарабіць, далі ў доме Мюлера 10 музычных вечароў пад кіраўніцтвам вучонага капельмайстра, вядомага кампазітара Віктара Кажынскага і пры самым дзейсным удзеле Манюшкі. 10 красавіка Манюшка першы раз граў на невядомым дагэтуль у Вільні эоламеладыконе і выклікаў энтузіястычныя пахвалы. Прымалі таксама ўдзел старая, калісьці знакамітая спявачка Мэерова, славутая ў той час артыстка панна Камінская, аматарка панна Марыя Тыціусуўна (цяпер Якубоўская, сястра доктара Юльяна Тыціуса), а апроч іх Цыльянс і Ільцэвіч. Асаблівы фурор выклікалі Навіцкая і Камінская, а таксама трыо з Цыльянсам і Ільцэвічам выкананнем з «Атэла» Расіні, а Тыціусуўна звярнула на сябе ўвагу таленавітым выкананнем трэцяга канцэрта Калькбрэнера.

«Kuryer Wileński» ў № за 5 мая 1842 г. падае падрабязнасці аб гэтых музычных вечарах.

Матэрыяльнае становішча Манюшкі заўсёды было цяжкое. Ён даваў урокі і мог іх мець, колькі б захацеў, бо многія дабіваліся мець гонар вучыцца ў такога настаўніка, плацілі яму, колькі загадваў, і плацілі наперад. Але што ж, паэт, мастак забываў аб лекцыях, замест 12-ці добра, калі даў дзве на месяц. А быў надзвычай раздражняльны, часта абражваўся і найчасцей беспадстаўна. Сам я быў сведкам такой сцэны.

У пані С. С., сапраўднай яго прыхільніцы і сяброўкі, ён даваў дачцы лекцыі. Пасля доўгай адлучкі прыйшоў і сеў за піяніна з вучаніцай. Мы з паняй былі ў далёкіх пакоях. Пані С., уваходзячы ў салон, запытала ў мяне, которая гадзіна? Манюшка раптам узрываецца і, без развітання з гаспадыняй, выбягае. Пазней высветлілася, што прызнаў у гэтым нейкую вымову за тое, што спазніўся на вызначаную гадзіну; і шмат спатрэбілася захадаў, каб яго ўлагодзіць і перапрасіць. Дык і не дзіва, што многія знеахвочаныя звярталіся да Штурнца (жанатага на стрыечнай сястры жонкі Манюшкі, г. зн. з дачкой другога брата Мюлера), які з лекцый нажыў капітал, а пасля яго смерці ўсё гэта разбазарыў каханак удавы (вельмі непрыгожай) Тадэвуш Тышкевіч, прычым настолькі, што яна засталася амаль у галечы.

Не магу ўжо прыпомніць дат, але музычныя вечары на карысць Манюшкі праводзіліся па некалькі разоў на год. Прыносілі яны значныя сумы. Звычайна некалькі паняў з вышэйшага свету забіралі білеты і пры ўдзеле Тыціуса і іншых прадавалі з наддаткам. Назаўтра пасля такога вечара, калі ўжо грошы былі ўручаны, каля паўдня, іх дом засыпалі яўрэі таварамі так, што немагчыма было прайсці, а следам за імі—ліхвяры і фактары. Дзень, два, і зноў нічога не было. Не сцвярджаю, што справядліва, але ў Вільні было агульнае перакананне, што сам Манюшка — сапраўднае золата, поўны розных вартасцяў, дабрыні і г. д., а яго жонка, наадварот, увасабленне ўсяго благога. Аднак пэўнае і тое, што больш клапатлівай жонкі, чым Манюшчыха, знайсці было немагчыма, хоць, праўда, клапатлівасць яе мела на ўвазе чыста матэрыяльны разлік, каб мужанёк меў заўсёды рабчыкаў, кілішак добрай старкі.

Выданне песеннікаў было ім значнай матэрыяльнай падтрымкай.

Бадай што, найбліжэйшым і найсардэчнейшым сябрам Манюшкі быў Станіслаў Расалоўскі, доктар, паэт, перакладчык Байрана, аўтар цудоўных вершаў, хоць і дзівак; быў ён чалавекам узнёслай душы, высакароднага характару, высокай адукацыі і вялікіх здольнасцяў. Манюшку любіў ён надзвычайна, а дзеля таго, што са мной жыў добра, у нядрэнных адносінах, часта гаварыў мне аб ім, як аб ідэале. Сцвярджаў неаднаразова, што калі б Манюшка не быў знакамітым кампазітарам, дык несумненна быў бы слаўным пісьменнікам. Я чытаў шмат пісьмаў Манюшкі, пісаных Расалоўскаму, — сапраўды цудоўныя.

Для кожнага з прыезджых знакамітых артыстаў Манюшка быў ветлівы і ахвочы аказаць мастацкую дапамогу, спяшаўся з дапамогай і тады, калі справа датычыла ўспамогі артыстам-пачаткоўцам. Вельмі запомніўся мне выпадак перад 1850 г. Прыехаў у Вільню з Мінска цывілізаваны яўрэйчык, трохі музыкант, а прытым наладчык раяляў. Называўся ён Крыгер. Прывёз ён 12-ці ці 13-цігадовую дачушку Бэці. Рэкамендаваны мне знаёмымі з Мінска, прывёў ён з сабою тую Бэці, якая, паводле пісьмаў мінчан, была незвычайнай музыкальнай з'явай. Было гэта дзіця слабавітае, але ў вачах відаць была іскра таленту. Развітая не па ўзросту, расказвала, што спачатку вучыў яе бацька, а потым нейкі вядомы ў Мінску настаўнік, пры якім выбрала сабе скрыпку ў якасці галоўнага інструмента. Бацька быў бедны і дамагаўся канцэрта. Я вагаўся, бо не быў упэўнены ў таленце дзяўчыны, і завёў яе да Манюшкі. І гэты слухаў апавяданні з недаверам, а потым загадаў ёй граць на скрыпцы, якую прынёс за ёй бацька. Не памятаю ўжо, што менавіта, але адзін са складанейшых класічных твораў маладая артыстка зайграла з памяці. Манюшка быў у захапленні, прызнаў каласальны талент, лічыў яе самавукам, бо бацька і той настаўнік толькі пазнаёмілі яе з нотамі, а шлях сабе яна пралажыла сама. Ніколі не забуду таго захаплення Манюшкі і яго зацікаўленасці. Ён заняўся канцэртам, склаў праграму, акампаніраваў ёй, папраўляў. Дзяўчына плакала ад радасці і цалавала яму рукі. Княгіня Габрыеля Пузыніна, Бучынская, Свідова. Тыціус і іншыя распрадалі білеты так, што салон Мюлераў быў перапоўнены, коштаў ніякіх, на жаданне Манюшкі — аркестр дарма, канцэрт даў чыстага даходу 300 руб.

Нельга было пакінуць без увагі прызнанага мастаком таленту. У Варшаве тады яшчэ кансерваторыі не было. Тады я напісаў Віктару Касынскаму, які ўжо быў дырэктарам царскага тэатра ў Пецярбургу. Маючы там шматлікія сувязі і ўплыў, ён змог зрабіць так, што дзяўчыну прынялі на дзяржаўны кошт, а сам ён абяцаў ёю апекавацца. Дык яна паехала перш у Мінск развітацца з маці і роднымі і... праз два тыдні памерла!

Шмат можна згадваць пра ветлівасць і сардэчнасць Манюшкі да сапраўдных талентаў. Яго любімымі былі абодва Вяняўскія, якія яшчэ з маці ездзілі па свеце з канцэртамі. А вось Апал(інарыя) Концкага не любіў. І пані Вяняўская яго не любіла і нагаворвала розныя дзівы. Былі сутычкі і інтрыгі, брудныя сцэны, пра якія лепш памаўчаць. Манюшка



**Помнік Станіславу Манюшку ў Вільнюсе.**

спярша не прызнаваў Концкага класікам. Ацэньваў яго паводле канцэртных твораў у духу нямецкага Гернваля і інш. Апалінарый ведаў пра гэта і ў 1852 г., прабываючы даўжэйшы час у Вільні, зайшоў да яго і запрасіў да сябе на вечар паслухаць такія класічныя творы, якія сам выбера. Манюшка даў згоду і зрабіў выбар твораў, якія павінен быў граць Концкі. У некаторых выпадках з квартэтам (Лыкавы і Навіцкія), у іншых вырашыў акампаніраваць яму сам. У Концкага быў вялікі салон у гмаху Дабрачыннасці. Ён запрасіў вельмі многа гасцей — каля 100 асоб. Былі там літаратары і ўся арыстакратыя, пачынаючы ад Пуслоўскага, маршалка губерні. Прыйшоў Манюшка, пачалі іграць; помніцца, што Ігнацы Ходзька і Мечыслаў Тукала заснулі, а ўсе іншыя вельмі нудзіліся, але Манюшка быў шчаслівы, яны абняліся, пацалаваліся, усе цешыліся, і не адна бутэлька шампанскага аб'явіла свету пра мір двух мастакоў. Ад гэтага часу адносіны між імі сталі як быццам лепшыя, але толькі як быццам.

У Концкага былі свае заганы, аднак ведаю напэўна, што ён быў паклоннікам Манюшкі. Крыніцы канфліктаў трэба шукаць у жонцы Манюшкі. Ёсць на гэта пераканаўчыя факты, але гэта не належыць да справы.

Вядома, што «Галька» праз доўгія гады, перш чым была пастаўлена на сцэне, не была гранай, яе толькі спявалі на музычных вечарах у салоне Мюлераў. Прымалі ў гэтым удзел Жалкоўская (сястра Завадскай), Валчанінаўна, Банольдзі, Івашкевіч, Ільцэвіч, Цыльянс. Віленская публіка мела магчымасць ацаніць «Гальку» перш, чым свет пазнаў яе са сцэны. Тое самае адбывалася і з іншымі творамі Манюшкі.

У снежні 1856 г. я здабыў дазвол на выданне тыднёвіка на польскай мове пад заг. «Літоўская пагоня». У студзені 1857 г. (тыднёвік павінен быў выходзіць з 1 красавіка) адбылося першае агульнае пасяджэнне пад кіраўніцтвам Міхала Балінскага ў прысутнасці Манюшкі, Маліноўскага, Яўстафія гр. Тышкевіча, Ігнацыя Ходзькі, Сыракомлі, Круповіча, Пшыбыльскага, цяперашняга біскупа Берасневіча, пралата Валынскага, Тышынскага і іншых. Была складзена праграма, размеркавана праца, напісалі пратакол, а Манюшка прыняў рэдакцыю мастацкага аддзела. У лютым часопіс аказаўся сканфіскаваным з прычыны зусім нявіннага верша Сыракомлі, які быў перасланы жандармерыяй у Пецярбург. З гэтага пасля паўстала «Тэка».

У 1869 ці 1870 г. Манюшка быў у Пецярбургу. Ставілі там яго «Гальку», поспех быў надзвычайны. На вечары ў В. КН. Канстанціна, дзе прысутнічалі многія з царскай сям'і, Канстанцін падышоў да яго і прадстаўляў вялікім князям і княгіням.

Хоць меў поспех, быў эканомны, жыў далёка ў Каломне ў швагра Яна Мюлера, палкоўніка жандармерыі. Бачыў я яго тады амаль штодня. Што зарабіў, высылаў дадому ў Варшаву. Гэта была наша апошняя сустрэча.

Расалоўскі памёр у 1854 (дакладней, у 1855 г. — Я. Я.), цела яго ляжала на катафалку ў касц[ёле] св. Яна, калі сярод яго паклоннікаў разышлася вестка пра ўзяцце Севастопаля. Манюшка аддаў сябру апошнюю паслугу. Сабраў усіх артыстаў і сам дырыжыраваў хорам і граў на аргане.

Пісьмо гэта ледзь закончыў сягоння. Я хворы, дык прабачце за бязладдзе і нечытэльнае пісанне. Пэўна, не шмат з гэтага выкарыстаеце, але хто ж ведаў, што трэба гэтак спяшацца ў важным пытанні. Каб быў час, можна было б звязацца з Тыціусам і Свідовай і ад іх зачэрпнуць звестак.

Паданняў чакаю. Аб прыездзе п. Альфрэда Ромера ведаю ад гр. Солтана, але яшчэ з ім не бачыўся, здаецца, шукае кватэры.

Яшчэ раз перапрашаю, што я спазніўся на адзін дзень, і паручаюся Вашай памяці.

Ваш самы адданы слуга
А. Г. Кіркор

Кракаў,
6 снежня 1884 г.»

Язэп ЯНУШКЕВІЧ










**Віктар ГАРДЗЕЙ.**

**Карані вечнага дрэва:**

**Аповесць, апавяданні.**

**Мн.: Маст. літ., 1988.**

# ШМАТ ГАВОРЫЦЬ ЖЫТА

Хоць па-ранейшаму наша так званая «бягучая крытыка» не надта спяшаецца з ацэнкамі, але і яна аповесць Віктара Гардзея «Жыта ганьбу не заслоніць», надрукаваную ўпершыню ў «Маладосці», прыкмеціла адразу. Акадэмічна строгі і патрабавальны П. Дзюбайла, згадваючы набыткі пазалеташняга празаічнага года, так сказаў пра гэты твор: «Магчыма, аповесць выйшла трохі сентыментальнай, але яна добра перадае атмасферу пасляваеннага часу, выяўляе здаровыя народныя асновы жыцця, высокія духоўныя маральныя пачаткі» («У пошуках героя», «Полымя», 1988, № 6). Станоўча ацэньвае тое, што з'явілася з-пад пяра пісьменніка, і Г. Шупенька, якога ў паблажлівасці ў ацэнках таксама не абвінаваціш: «Калі нададарыцца нагода, паспрабую падзяліцца з чытачом радасцю чытання і гэтай аповесці («Крылаты конь» К. Каліны.— **А. М.**), і аповесці В. Гардзея «Жыта ганьбу не заслоніць» («Маладосць», 1987, № 7), прозу якога даўно магла б заўважыць наша не надта зацікаўленая той прастатою, за якой высокія праявы духу свайго народа, наша маладая крытыка. Не трэба баяцца такой сентыментальнасці, якая ёсць у такіх аповесцях. Куды больш выпадае нам быць сентыментальнымі, чым раўнадушна мудрымі» («Шукаць і знаходзіць», тамсама).

У адным хацелася б запярэчыць Г. Шупеньку: «наша маладая крытыка» тут ні пры чым. Як быць ёй уважнай да В. Гардзея, калі яна, безумоўна, вучыцца ў «крытыкі старэйшай», а тая па-ранейшаму як бы мае «сваіх» і «чужых» пісьменнікаў. Магчыма, я ў нечым і перабольшваю, але хай сам чытач разбярэцца, што і да чаго. А. Сямёнава («Хто бярэ слова?», «Нёман», 1988, № 5), назваўшы шэраг твораў «з таго, што, мне здаецца, дапаможа пашырыць кола чытачоў беларускай прозы», мімаходзь зазначае пра ўжо згаданую аповесць В. Гардзея, а таксама пра аповесць А. Наварыча «Цкаванне вялікага звера» («Маладосць», 1987, № 6): «Чытаючы іх, неяк увесь час ловіш сябе на думцы: навошта? дзеля чаго? Няўжо патрэбна ў каторы раз паўтараць хрэстаматыйнае шэсце голага караля?»

Хацелася б паспрачацца з А. Сямёнавай, але пра аповесць В. Гардзея яна, па сутнасці, больш нічога не дадала. Ёсць прысуд і няма аналізу. Аднак чаго няма, таго няма. Аповесць жа «Жыта ганьбу не заслоніць» якраз дае падставы паразважаць над тым, што «дапаможа пашырыць кола чытачоў беларускай прозы». В. Гардзей, расказваючы пра першыя пасляваенныя гады (якія цяжкія, галодныя яны былі, мы добра ведаем, прытым са шматлікіх мастацкіх твораў), знаходзіць у сабе сілы не толькі паказаць увесь той боль, быццам скандэнсаваны ў лёсах жанчын, што засталіся без мужоў, іх дзецях — падранках вайны, нямоглых мужчынах, якіх гэтая вайна «пашкадавала», а і выяўляе здольнасць «паэтызаваць працоўнае народнае жыццё» (П. Дзюбайла). Апошняе, бадай, цяжэй. Калі, зразумела, ісці не па шляху ідэалізацыі таго, што адбывалася (да чаго падобная ідэалізацыя можа прывесці, калі пісьменнік страчвае пачуццё меры, шмат гавораць бесканфліктныя творы канца саракавых — пачатку пяцідзесятых гадоў, якія на ўсенароднай нішчымніцы давалі свае буйныя паразітычныя парасткі), а глыбока пранікаць у сутнасць з'яў і падзей, уважліва прыглядацца да самога чалавека.

Не збіраюся высвятляць, на якой хвалі (другой, трэцяй?) нашай прозы аб пасляваен-

ных бядотах (такой цаной заплацілі за разгром фашызму!) і радасцях (нягледзячы ні на што выжылі, выстаялі, засталіся людзьмі), узнікла гэтая аповесць, але з'яўленне яе ў творчасці В. Гардзея — працэс заканамерны. У папярэднiй ужо аповесці «Дом з блакітнымі аканіцамі» — яна дала назву першай, аднайменнай кнізе прозы пісьменніка, які перад гэтым заявіў аб сабе як арыгінальны, самабытны паэт,— ён звярнуўся ў гэтыя гады, што таксама сталі для народа выпрабавальнымі, бо выстаяць ва ўмовах пасляваеннага голаду было гэтаксама няпроста, як і ў час акупацыі.

У аповесці «Жыта ганьбу не заслоніць» якраз удала паяднаны між сабой два пачаткі ў творчасці В. Гардзея — цвяроза-рэалістычны і паэтычна-ўзвышаны. З першым звязаны вобраз Сямёна Барабана. Далёка не ардынарны характар гэтага, па ўсім відаць, моцнага чалавека. Але трываласць глебы, на якой стаіць Барабан, усё ж хісткая. Як ні імкнецца Барабан паказваць і даказваць, што ён таксама змагаўся з ворагам, супраць праўды-маткі не пойдзеш. Самы суровы маральны суддзя яму — Насця Санцэвіч. Пакуль што суддзя маральны, а далей хто яго ведае, як будзе, бо Насця ўсё больш пераконваецца, што ў смерці зацкаванага фашыцкай аўчаркай яе мужа Сямёна вінаваты Барабан. Гэта ён падказаў, што Сямён ноччу наведаўся ў родную хату: «Сямён павінен быў расстраляць Барабана, свайго суседа, павінен быў звесці са свету гэтага шкурніка, гэтага ашуканца і злыдня. Кару Барабан заслужыў справядлівую. Даўшы міну, яго паслалі ў Ганцавічы ўзарваць вадакачку, але палахлівец збаяўся смерці і не вярнуўся ў атрад. Насустрач марознай ночы, цераз халепу і завіруху Сямён ішоў у Загор'е, каб выканаць загад свайго камандзіра».

Твор напісаны ў рэчышчы маральных пошукаў прозы сённяшніх саракагадовых, героі апавяданняў, аповесцей якіх вершаць суровы суд над мінулым, памятаючы, што злачынства, якім бы завуаляваным яно ні было, не падлягае з-за даўнасці забыццю. Сітуацыя з Барабанам у нечым блізкая, у прыватнасці, той, што пакладзена ў аснову аповесці Я. Лецкі «Па цаліку». Галоўны герой яе таксама мяркуе, што ў гады вайны іх сусед Яцына зрабіў злачынства. Праўда, у аповесці «Па цаліку» маральны суд Васіля Травеня — гэта суд пасляваеннага пакалення, да якога і належыць герой Я. Лецкі. У В. Гардзея ж галоўны «абвінаваўца» — Насця, яна сама перажыла ваеннае ліхалецце, на ўласнай скуры адчула, што такое фашызм.

Тым не менш ёсць падставы ставіць гэтыя творы поруч. Колькі яшчэ на зямлі падобных барабанаў, яцынаў?! Ды паспрабуй, дакажы, што яны — злачынцы. Уся бяда ў тым, што сведкаў гэтых злачынстваў, як правіла, няма. Сведкаў няма, але звярынае нутро не схаваеш. Той жа Барабан квапіцца на палянку мурожнай травы, нагледжанай Насцяй у лесе. Не ўтрымліваецца і жонка Барабана, каб у награбленых у гады вайны мужам строях не паказацца на базары ў мястэчку. Адна жанчына пазнала сваю, «у чырвоныя кветкі, штапельную сукенку». І вось ужо Барабаніха ў сарочцы ўцякае праз жыта. Ды бачыць яе Насця, бачыць, бо жыта не засланіла чужой ганьбы.

Менавіта праз вобраз жыта знаходзіць у аповесці сваё развіццё і ўвасабленне другі пачатак у творчасці В. Гардзея — паэтычна-ўзвышаны. Жыта — і ўвасабленне неўміручасці, несупыннасці, бясконцасці жыцця, і пацвярджэнне таму, што жыццё гэтае, якое перамагло ўжо фашысцкую навалу, смерць, пераможа і нішчымніцу. З першых жа старонак твора быццам удыхаеш пах калосся, што наліваецца, убіраючы ў сябе сам вадар зямлі, ды і прадчуванне змен, якія неўзабаве прыйдуць на палескую зямлю.

«Жыта красавала, і цёплы, лагодны ветрык абтрэсваў з малочных яшчэ каласкоў жоўты, ледзь прыкметны пылок. Свяціла пякучае, шчодрае сонца, над полем заліваўся сярэбраным званочкам жаўрук, а збажына святкавала дзень свайго цвіцення. Збажыне было цесна ў былінікавых межах, і яна, мабыць, прадчувала, што восенню сюды прыйдзе пашарпаны, латаны-пералатаны эмтээсаўскі «націк» і разарэ, нашчэнт зруйнуе старыя межы».

Жыта вечнае, як і ўсё прыгожае, светлае, узвышанае, што заўсёды было, ёсць і будзе ў жыцці. Паэтызуючы народнае жыццё, В. Гардзей не хавае свайго захаплення народнымі традыцыямі і звычаямі, на дзіва хораша расказваючы пра купалле, калі Насця прытрымліваецца завядзёнкі, што ідзе яшчэ ад дзядоў,— «перад купаллем закідваць на стрэхі кветку сону, каб, крый божа, які нячысцік не прыблытаўся да двара»; перадаючы вечнасць і адначасова таямнічасць, загадкавасць таго моманту, калі вось-вось пачнецца жніво. І радасць дажынак, калі чалавек можа парадавацца плёну рупнасці сваіх рук.

Немалаважна і тое, як В. Гардзей непаўторна «адухаўляе прыроду, якая жыве адзіным жыццём з добрымі людзьмі» (П. Дзюбайла). Тут пісьменнік ідзе ад фальклорных традыцый, узнаўляючы, узнімаючы такія пласты народнага побыту, што сведчаць у карысць спрадвечнага творчага пачатку ў працы нашых продкаў. Дарэчы, тая ж Насця Санцэвіч — само ўвасабленне трываласці маральных устояў народа, грамадства.

А ў В. Гардзея ж была спакуса закруціць славуты любоўны трохкутнік. Дзіва што! Трыццаціпяцігадовая жанчына засталася адна, а тут яшчэ сяброўка паехала ў далёкі Беламорск да дачкі, папрасіўшы дапамагаць па гаспадарцы мужу. Тым больш, што Хвядос Макаед не супраць кінуць вока на адзінокую Насцю. Але пісьменнік «не патурае» чытачу, не ператварае твор у нешта «інтымна-займальнае». Праўда, гэта не значыць, што Насця Санцэвіч паўстае гэткім плакатна-лозунгавым увасабленнем самой дабрачыннасці. Проста яна — з людзей, якія не разменьваюцца ў пачуццях, і тым яшчэ больш духоўна прыгожая.

Пра кожнага са сваіх герояў В. Гардзей расказвае з той пяшчотай і замілаваннем, у якіх сапраўды ёсць нешта чулліва-пранізлівае. Ды — паўтару яшчэ раз услед за Г. Шупенькам — «не трэба нам баяцца такой сентыментальнасці». За ёй — не аўтарская «слязлівасць», не меладраматызм, а само жыццё, якое так доўга выпрабоўвала людзей.

Паэзіяй паўсядзённасці, якая, аднак, не супрацьстаіць суровай прозе жыцця, напоўнены і апавяданні В. Гардзея «Кармакухня», «Наводшыбе», «Старыя жорны» і іншыя. Творы гэтыя ў пэўнай меры — і гэта не папрок аўтару — свайго роду «бывальшчыны». У героях гэтых твораў Сямёну Гайцюкевічу, Алесю Жывуцкім, Мікалаю Жыбуртовічу, Карпею, Алёне некаторыя землякі пісьменніка, відаць, пазнаюць саміх сябе. Невыпадкова ў большасці апавяданняў называецца вёска Малое Сяло, блізкая па сваёй назве родным В. Гардзею Малым Круговічам, што на Ганцаўшчыне.

Але справа, канечне, не ў гэтай блізкасці да дакументальнай асновы. Прываблівае здольнасць аўтара маляваць — скажу, карыстаючыся тэатральнай тэрміналогіяй,— персанажаў характарных. Знешне непрыкметныя, часам нават нейкія дзіўнаватыя (той жа Славік Амельяновіч з апавядання «Славік на каламажцы», па сутнасці, родны брат так званых дзівакоў В. Шукшына, А. Мрыя, Я. Брыля, А. Дударава), яны ўсё ж — асобы, яркія індывідуальнасці. Іншая справа, у якім напрамку гэтая індывідуальнасць развіваецца, як чалавек выкарыстоўвае свае здольнасці і да чаго ўсё гэта прыводзіць. Вонкавая бязвольнасць падобных людзей падманлівая. Прыйдзе час, і яны не толькі змогуць пастаяць за сябе, але і дакажуць, што, бачыце, не лыкам шытыя.

У аповесці ў меншай ступені, у апавяданнях — у значна большай В. Гардзей раскрываецца і як гумарыст, незласлівы, але разам з тым тонка прыкмячаючы ў характарах асобных сваіх герояў тыя «іскрынкі-смяшынкі», якія і ім самім спакойна жыць перашкаджаюць ды і іншых прымушаюць глядзець на такіх людзей з пэўнай аглядкай. Вось, скажам, калгасны паплаўнічы Халецкі з апавядання «Сельскі карэспандэнт Саўка Халецкі». Ён «сельскім карэспандэнтам стаў пры дзіўных абставінах» і не па сваёй волі. Пажартаваў малалетні Пецька Дрозд, паслаўшы ў раённую газету допіс пад чужым прозвішчам. Спачатку Халецкі збіраўся хлопчыка паўшчуваць, але, заўважыўшы, з якой павагай, а то і са страхам — карэспандэнцыя была крытычная — ставяцца да яго аднавяскоўцы, пачаў бязлітасна «эксплуатаваць» Пецьку, прымушаючы пісаць усё новыя і новыя матэрыялы.

Гумар гумарам, але ў апавяданні закранаецца даволі сур'ёзная праблема. Часта бывае так, што чалавек, зусім і неблагі, займеўшы хоць маленькую ўладу над людзьмі, атрымлівае ад гэтага сапраўдную асалоду, хоча, каб так было заўсёды.

«З талентам нараджаюцца» — так назвала Т. Грамадчанка рэцэнзію ў «ЛіМе» на аповесць У. Караткевіча «У снягах драмае вясна», тым самым засведчыўшы, што жыццёвы і творчы вопыт наўрад ці шмат дапаможа пісьменніку, калі ў яго не будзе таленту, мастакоўскіх задаткаў. Гэтае вызначэнне з поўнай на тое падставай можна стасаваць і да гаворкі пра кнігу В. Гардзея «Карані вечнага дрэва». Але ж гэтаксама, відаць, у дачыненні да яе будзе правільным і пытанне: а ці заўсёды як мае быць распараджаецца сваім талентам пісьменнік?

Возьмем апавяданне «Вальс пад журлівымі таполямі». Які пранізлівы лірызм у творы — асобныя мясціны так і нагадваюць паэзію ў прозе. Але ці выразныя атрымаліся галоўныя героі Гуліцкі і яго колішняя каханая Жэнька, што так і не дачакалася хлопца з арміі? На жаль, дае аб сабе знаць і літаратурная рэмінісцэнцыя.

Каб мая воля, я б і ў назву кнігі вынес загаловак аповесці. «Жыта ганьбу не заслоніць». Яно, калі ўслухацца, шмат можа таксама расказаць пра тых людзей, якія змалку далучаны да гэтай самай зямной прыгажосці.

Алесь МАРЦІНОВІЧ

# *Нашы аўтары*

**ЛІПАЙ Алесь** нарадзіўся ў 1966 годзе ў вёсцы Андросаўшчына на Капыльшчыне. Служыў у Савецкай Арміі. Зараз вучыцца на завочным аддзяленні факультэта журналістыкі БДУ імя У. І. Леніна. Працуе ў рэдакцыі газеты «Знамя юности».

**ШНІП Віктар** нарадзіўся ў 1960 годзе ў вёсцы Пугачы Валожынскага раёна. Вучыўся ў Мінскім архітэктурна-будаўнічым тэхнікуме. Скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве.
Працаваў на будоўлі. Зараз—рэдактар аддзела культуры часопіса «Беларусь».
Выдаў кнігі паэзіі «Гронка святла», «Пошук радасці».
Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Уладзіміра Маякоўскага.

**ВАРАНОВІЧ Адольф** нарадзіўся ў 1940 годзе ў вёсцы Мікольцы на Мядзельшчыне. Закончыў Мінскае мастацкае вучылішча. Працуе ў мастацкай майстэрні Аршанскага льнокамбіната.
Аўтар зборніка апавяданняў «Высокі падмурак».

**ДУКСА Мар'ян** нарадзіўся ў 1943 годзе ў вёсцы Каракулічы Мядзельскага раёна. Скончыў Свірскае вучылішча механізацыі, філфак БДУ імя У. І. Леніна. Працаваў у калгасе трактарыстам, учотчыкам, цяпер настаўнічае ў Сольскай сярэдняй школе.
Аўтар зборнікаў паэзіі «Спатканне», «Крокі», «Станцыя», «Прыгаршчы суніц», «Забытыя словы».

**СТОМА Вячаслаў** нарадзіўся ў 1949 годзе ў вёсцы Нясуцічы Навагрудскага раёна. Скончыў біялагічны факультэт БДУ імя У. І. Леніна. Праходзіў стажыроўку ў Марцін-Лютэр універсітэце (ГДР). Працаваў намеснікам дырэктара школы ў Карэліцкім раёне, іхтыёлагам Беларускага таварыства паляўнічых і рыбаловаў, загадчыкам сектара, потым старшым інжынерам-рыбаводам Упррыбгаса БССР, намеснікам начальніка Белрыбвода. Зараз—супрацоўнік НВА «Белрыбгас».
У «Маладосці» друкуецца ўпершыню.

**КАЛОДЗЕЖНЫ Леанід** нарадзіўся ў 1935 годзе ў вёсцы Солаўе Аршанскага раёна. Вучыўся ў Віцебскім мастацка-графічным вучылішчы, служыў у Савецкай Арміі, працаваў у раённай газеце. Зараз—мастак-афарміцель на Аршанскім ільнокамбінаце.
Выйшлі кнігі прозы «Аўсяны звон» і «Бярозы ў жыце».

**ЧАРЫЕВА Агульджамал** нарадзілася ў 1953 годзе ў Ілатанскім раёне Марыйскай АССР. Скончыла Туркменскі дзяржаўны педагагічны інстытут. Працуе бібліятэкарам.
У «Маладосці» друкуецца ўпершыню.

**ШАХОВІЧ Мечыслаў** нарадзіўся ў 1933 годзе ў вёсцы Крывічы на Мядзельшчыне. Скончыў БДУ імя У. І. Леніна і Мінскую вышэйшую партыйную школу. Працаваў у камсамоле, настаўнікам, у рэдакцыях раённых газет, у Літаратурным музеі Янкі Купалы. Аўтар кніг вершаў «Рунь», «Па загаду сэрца», «Паклон зямлі» і інш.

**ЛЕВАНОВІЧ (Лявонаў) Леанід** нарадзіўся ў 1938 годзе ў вёсцы Клеявічы Касцюковіцкага раёна. Скончыў Магілёўскае культасветвучылішча і факультэт журналістыкі БДУ імя У. І. Леніна. Працаваў у раённых установах культуры, у рэдакцыях рэспубліканскіх газет і часопісаў. Зараз працуе ў выдавецтве «Мастацкая літаратура».
Аўтар кніг нарысаў «Гаспадар зямлі», «Зялёны трохкутнік», кніг прозы «Мадонна з кветкаю», «Якар надзеі», «Валанцёр свабоды».

**СІПАКОЎ Янка** нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Зубрэвічы на Віцебшчыне. Скончыў журфак БДУ імя У. І. Леніна. Працаваў у раённай газеце, у часопісе «Вожык». Зараз—загадчык аддзела мастацтва, крытыкі і бібліяграфіі часопіса «Маладосць».
Выдаў кнігі паэзіі «Сонечны дождж», «Лірычны вырай», «Дзень», «З вясны ў лета», «Веча славянскіх балад», «У поўдзень, да вады», «Вочы ў вочы» (выбраная паэзія), «Усміхніся мне», кнігі прозы «Па зялёную маланку», «Крыло цішыні», «Жанчына сярод мужчын», «Усе мы з хат», «Спадзяванне на радасць», «Пяць струн», «Сад людзей».
Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы.

**«МОЛОДОСТЬ» № 8 (1—176), 1989 г.**
**Ежемесячный литературно-художественный**
**и общественно-политический иллюстрированный журнал**
(на белорусском языке)

Мастацкі рэдактар **Віктар КАЗЛОЎ.** Тэхнічны рэдактар **Яніна ВАЖНІК.**
Карэктары **Валянціна БАШАК, Мая ВІНАГРАДАВА.**

Рукапісы аб'ёмам да аркуша не вяртаюцца.
Адрас рэдакцыі: 220041, Мінск, Ленінскі праспект, 79, выдавецтва ЦК КПБ. Тэлефоны: 31-85-43—галоўны рэдактар і намеснік галоўнага рэдактара, 32-82-29—сакратарыят, аддзелы паэзіі, прозы, крытыкі, 31-76-14—аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, 39-87-70—фотакарэспандэнт.

Здадзена ў набор 20.06.1989. Падпісана да друку 25.07.1989. АТ 05303. Фармат 70×90 1/16. Друк высокі. Умоўн. фарбаадб. 14,77. Умоўн. друк. арк. 12,87. Ул.-выд. арк. 14,6. Тыраж 10 238 экз. Зак. 274.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі. 220041, Мінск, Ленінскі пр., 79.





**М. КАРПУК. Волат над Прыпяццю** (сангіна, 1985).